# Змест



# ВЕРАСЕНЬ ПАЭЗІЯ

мілада паўлава кацярына массэ
вікторыя смолка мікола кандратаў
кацярына ваданосава эдуард акулін
тамара аўсяннікава



# Мілада Паўлава

вучаніца 8 класа ліцэя № 1 г. Магілёва. Сябра літаратурнага клуба «Святліца». Вучыцца ў музычнай школе па класу фартэпіяна. Нарадзілася ў 2006 годзе ў Магілёве. Жыве ў Магілёве.

## Пунсовыя ветразі...

### 1.

На тваіх вуснах заслона,
але я цябе ўсё адно люблю,
хоць цяпер ты... і не мая.
І хай лес абураецца,
і хай б'ецца аб скалы мора,
і хай не пачую я больш
птушыных пошчакаў,
прашу аб адным: не пакідай мяне.

І не спрабуй узняцца ўвысь,
закружыцца з аблокамі,
знікнуць, быццам цябе не было.
Застанься, прашу!
Чаму ты так хутка адыходзіш?
Чаму ты не са мной,
а толькі ў думках маіх,
восень мая ненаглядная.

### 2.

Белы снег.
Чырвоныя кроплі.
На снезе ляжыць алень.
Чырвоны снег.
Празрыстыя кроплі.
Слёзы або вада.

Рыжы-рыжы лес.
Дрэвы паламаныя.
Рэкі забруджаны.
Прырода загублена.
Смех ці слёзы.
Слёзы або вада.

### 3.

Я любіла твае рукі.
Іх мядовы пах дурманіў мой розум.

Памятаю, як Ты
цёплай даланёю дакрануўся да мяне.
Вецер кружыў у вальсе белую квецень вішні,
а Ты кружыў мяне.
А цяпер твае рукі чужыя.
Ведаеш, я не заўсёды была слабай.
Раней я змагалася з розумам, а потым...
Потым розум мяне перамог...

**4.**

Каміла нарадзілася ў сонечнай Іспаніі.
Яна любіла мора,
кожны дзень збірала ракавінкі
і майстравала з іх дзіўныя пацеркі,
якія потым прадавала турыстам.
Тым і жыла.

Ах, Каміла! Твая непасрэднасць,
загарэлы твар, цёмныя валасы і карыя вочы
прымушаюць матросаў траціць розум.
А ты цнатліва сустракаеш караблі,
вітаеш іх белай хусцінкай,
потым яшчэ доўга стаіш на беразе,
і хвалі цалуюць твае ногі.

Каміла чагосьці чакала.
Яна слухала крыкі чаек,
І яе сэрца агортваў сум,
углядалася ў тонкую лінію гарызонта,
дзе сыходзіліся мора і неба.
Магчыма, яна імкнулася ўбачыць
пунсовыя ветразі.

Каміла не ведала,
што нават пунсовыя ветразі
не заўсёды прыносяць шчасце.



*Эдуард Галустаў. «Дзіцячы Сьвет»*



# Вікторыя Смолка

**паэтка. Студэнтка 3 курса Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы. Вершы друкаваліся ў калектыўным зборніку «Паэзія мегаполіса». Нарадзілася ў 1996 годзе ў Гародні. Жыве ў Гародні.**



## Беражніцы любові...

### Вялікае шчасце

Ці дзяўчынка, ці хлопчык —
Хай будзе сакрэтам.
Ці сынок, ці дачушка,
цікава, але ж
Мама з татам
галоўнае бачаць не ў гэтым!
Бо для іх, каб здаровым
было ты найперш,
Дзіцянятка!
Матуля пад сэрцам насіла,
Тата ў моцныя рукі гатовы прыняць
І дзяўчынку-дачушку,
І хлопчыка-сына —
Прытуліць і ВЯЛІКАЕ ШЧАСЦЕ спазнаць!

### Матуліна надзея

Дачушку матуля карміла
Цяплюткім грудным малаком,
Салодкай любоўю паіла
За кожным бясцэнным глытком...

Пяшчотна галоўку трымала,
Паклаўшы, як дар, на далонь...
Да сэрца яе прытуляла,
Каб зручна маленькай было...

З грудзей мацярынская ласка
Струменьчыкам шчодра цякла...
Дзіцячыя вочкі, як краскі,
Купаліся ў промнях святла,

Усмешкай іскрыліся мілай...
Схіліўшыся ціха над ёй,
Дачушку матуля карміла
З надзеяй сардэчнай сваёй!

## Каля мамы, каля таты

Пад сунічнае варэнне,
Васільковую гарбату
За сталом у час вячэрні
Абдыму я маму, тату.

Пра няпросты школьны будзень,
Што хвалюе, што трывожыць,
Раскажу я блізкім людзям —
Іх парада дапаможа.

Супакоіць пах гарбаты..
І адыдуць сум і стома
Каля мамы, каля таты
У дзяцінстве цёплым — дома...

## Лясная фея

Пад музыку вятрыска за акном
Вальсуе лёгка, весела завея...
І дзверы адчыняе ў цёплы дом
Прапахлая лясною казкай фея...

Стамілася ў дарозе... Як рукой
Адгонім стому радасцю сустрэчы!
І зорка расцвіце над галавой,
І шаль гірлянды ёй сагрэе плечы...

...Азорыцца, душою адпачне
І светлыя паслухае калядкі —
Галінкамі рытмічна ўскалыхне,
Запляскае, шчаслівая, у ладкі!

## Хто ў сям'і галоўны самы?

Я спытаў у любай мамы:
— Хто ў сям'і галоўны самы?
А матуля мне ў адказ:
— Тата — ён гарой за нас!
Самы дужы і бясстрашны!
Абаронца мужны наш ён!
Я завёў размову з татам...
— І цябе, і твайго брата —
Хто насіў пад сэрцам? Мама!
Ведай, хто галоўны самы! —
Татаў голас мне тлумачыў.
А пасля я азадачыў
І бабулю...
— Ёсць Сям'я...
Мама, тата, ты і я...
Кола самых-самых блізкіх....
Дом — утульная калыска
І аснова ўсіх асноў —
Там галоўная — ЛЮБОЎ!

## Святы вечар

Па жытняй саломцы храбусткай
У студзенькі вечар завейны
Карункавым белым абрусам
Засцелены стол наш сямейны
Ля яркай, убранае ёлкі...
З дванаццаці страў пачастунак
Матуля — руплівая пчолка —
Гатуе... А першы ласунак
З разынкамі, мёдам заліты —
Куцця на вялікай талерцы...
І цёплыя словы малітвы,
Як свечкі, запалены ў сэрцы!

## Прыходзіць анёл

У мяккіх пантофлях,
У хатнім халаце
Прыходзіць анёл
Перад сном да дзіцяці...

Сядае пакорна
На ложка краёчак...
У голасе нібы
Чароўны званочак —

Пяе калыханкі
Ласкавыя слоўцы...
І гладзіць пяшчотна
Па соннай галоўцы...

## Ваша цуда

Абдымайце дзяцей перад сном...
Хай вам сэрцайкі іх адчыняюцца —
Беражніцы любові... Цяплом
У размове святой напаўняюцца...

Хай пакінуць вас клопаты ўсе —
Дзённых спраў, мітусня з абавязкамі...
Хай дзіцёнак вам кніжку нясе,
Маляўнічую, з добрымі казкамі...

Прытуліце да сэрца хутчэй
Ваша Цуда такое вялікае!
Хай шчаслівыя слёзы з вачэй
Залатымі пасыплюцца блікамі!

## Кветкі для матулі

Ці толькі на свята вясною і ўвосень —
Як часта матулі ты кветкі прыносіш?
У дзень нараджэння... Да светлай падзеі...
А, можа, прыносіш да кожнай нядзелі
Пяшчотныя кветкі — заўсёды жывыя!
Рамонкі з лугоў, васількі палявыя!
Складаеш з любоўю, збіраеш букецік!
Для самай прыгожай і роднай на свеце!
Шукаеш, збіраеш, прыносіш і дорыш...
А, можа, ты сам цуда-кветачку створыш,
Узяўшы алоўкі, паперы лісточак,
Схаваўшыся ў цёплы пакоя куточак?!
Няхай і няўмела, няхай па-дзіцячы!
Матуля ўсміхнецца, матуля заплача...
Абдыме цябе, даражэнькую дзетку,
Галоўку тваю пацалуе, бы кветку!



## Нібыта ўпершыню

Нібыта ўпершыню сабралі ранец,
Раскошных кветак выбралі букет —
І самаю хвалюючаю з раніц
Пакрочылі ў прыгожы ведаў свет!
Усмешкі зноў шчаслівыя іскрацца,
Званок чароўны кліча ў новы клас!
І мамы, таты могуць любавацца,
Хаваць слязінкі, гледзячы на нас!

## Вартая Божай ласкі

Залаты амафор
пакрывае асеннія сцежкі,
Сцеле норку бабёр,
а вавёрка збірае арэшкі
І нясе рудахвостым,
Калматым сваім непаседам!
У зацішку лясным
Спіць зямля,
Развітаўшыся з летам,
Спіць спакойна,
Спавітая снамі асенняе казкі,
Блаславёная, чыстая, вартая Божае ласкі!

## Маленству

Ніколі не будзе, як там, у маленстве,
Крылатых надзей і фіялкавых сноў,
Хоць Мара абдыме ізноў маё сэрца,
Маіх вершанятак прытуліць ізноў.

Ніколі не будзе тых мрояў лагодных
І веры святой у загадкавы лёс,
Хоць струны жыцця не забылі акорды,
Сатканыя небам з анёлавых слёз...

Ніколі пасля больш не вытьецца смутак,
Чысцюткі, на белыя крылы лісты,
І толькі душа адляціць некранутым
Пялёсткам у неба — далоні Хрыста...



# Кацярына Массэ

паэтка. Студэнтка Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта. Аўтарка вершаваных зборнікаў: «Льётся свет в моё окно» (2012 г.), «Двоичный код» (2015 г.) і электроннай кнігі паэзіі «Аўтакамунікацы... Я» (2016 г.). Пераможца міжнароднага конкурсу «Залатая страфа — 2012», літаратурнага конкурсу, прысвечанага юбілею Якуба Коласа і Янкі Купалы (2014 г.) і інш. Нарадзілася ў 1997 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

# Глыток малітвы...

### нятленная пустэча

віры нябесных воч усмешкай заблішчаць,
і лес схавае іх за брамай хвойных веяў.
не здольная ўмясціць саму сябе, душа
зазнае свой распад на вусцішныя цені...

і позіркам ваўка галоднага ўначы
пачне пужаць мае аслепленыя ночы —
ды зрокам ступакоў я працягну сачыць,
паходняй нематы скрозь цемру светлаточыць...

... і ведаць, што няма нікога ў той імгле,
хто мог бы прытуліць зняможанае сэрца,
бо ў гэтым лесе ўсё — аскепкі той мяне,
што вынайдзе жыццё ў прыняцці страху смерці.

яму? я зазірну наўпрост у глыб вачэй
і ўбачу там сябе — бясстрашнаю і вечнай.
душа уваскрасаць пачне яшчэ лягчэй,
бо за душой стаіць — нятленная пустэча.

на попеле начы затанчу іскрай дня,
нязменнаю зарой у зменлівым сусвеце —
трымай маю руку, як небасхіл — зямля,
і уваходзь са мной у вечнае дасвецце.

### вера

а вера — у тым, каб аддацца ушчэнт прыцяжэнню,
каб падаць заўжды ў невядомасць і ведаць, што зловяць!
на хісткую вечнасць усёю вагою імгнення
штораз апірацца і так спасцігаць невагомасць...
не грэбаваць целам жыцця і праз гэта быць цэльным —
агольваць пачуцці насустрач ягонаму трымту;
дзівіцца штоформе і рухацца ўглыб значэнняў
з адкрытасцю сэрца, якому усё адкрыта.

## кроў, малако, віно (размова ля калодзежа)

— мой калодзеж не знае цвердзі марскога дна,
і аснова жыцця пада мной не стаіць — цячэ
жывароднай ракой — то марудлівей, то шпарчэй,
набываючы кшталт крыві, малака, віна...

аддаю тры глыткі — кроў, віно, малако — за так.
вось і мой сціплы скарб, майго цела жывы пасаг:
перац жарсці у кроў, дзецям — цукар малочнай любві,
мудрасць солі ў віно — ўсё, чым будзем багатыя мы.

— па быцці знебылася прывольным твая глыбіня!
хіба словам тугім закілзаеш жывы паток?
ўсё, што трэба мне, — кропля крыві, малака й віна,
дый глытка не зраблю без таго, каб засведчыў Бог.

— каб прыходзілі воды, пустым мае быць сасуд.
— мне замнога і трох невялічкіх з яго глыткоў.
пагатоў нехта мусіць заўжды насычацца тут,
каб прыходзілі зноў віно, малако ды кроў.

— дзікі нораў падземных вод — дасі рады з ім?
— мой агонь будзе сыты й вуголлем падводнай цьмы.
— то спускай нерат воч і хапай ім адбітак той,
што спакон ля калодзежа поруч стаіць з табой.

## цаліна

узгадай, як забытыя сны набліжаюцца — прэч.
і як сполахі кроз асыпаюцца попелам з плеч.
як па кнігі ідзём цаліне, навастрыўшы пагляд —

расчытваць сляды сваіх слоў і вяртацца назад.

як мой поступ наўсцяж працінае мярэжу прастор,
выбівае галосныя стогны з-пад сутаргаў гор
ліхаманкай птушынай. як хутка малітвы глыток

адхуквае сэрца, вяртае яму востры зрок.

як люляем свабоду ў кружэнні апалай душы —
калі хочаш — палай дабрадзейнасцю, хочаш — грашы.
і няважна, што кудаса сноў замятае сляды, —

абы не было ў гэтым сне яшчэ горшай бяды.

## цвіценне снегам

адступіла ад лёгкіх зямлі хваравітая слота,
і на гронках лядзяшчых дажджоў
саспяваюць пранізліва белым налівам сумёты —
кіславатым і даўкім.
сон грэбуе новым заранкам,
расцягвае слова «яшчэ», аддаляе ужо

недасяжнае сонца ад гавані воч, дзе гайдаюць
хвалі слёз залацістыя іскры,
што агністыя рыбы ў запас перад цьмой адкладаюць
у цяснінах гартані —
там смех слёзы сушыць дазвання.
шумлівыя віны завей працвярэжваюць мыслі.

ў сутарэнні ўспамінаў ляжыць нарыхтаваны час.
і на вуснах гаркавым варэннем
застываюць жаданыя вусны. аголеных нас
кашаміравы снег
накрывае... судотык — не грэх —
зіма развянчае вянцы ўсіх эдэмскіх тварэнняў.

недасяжнае сонца ільду растае і цячэ,
падганяючы слова «ужо», пакідае яшчэ

незавершаным сон пра цурчанне няўмольнай вады
і пра тое, як снегам цвітуць веснавыя сады...

## сонцаvітая

**1.**

...бо не ўсё тое сонца, што пахне, як зорны мёд, —
хай цябе у аблуду не ўводзіць скаромны шлях.
ёсць дрымучыя прошчы, што спяць у тваіх ільдах:

бы у крэмені смерці, там скуты няўтольны жар —
побач з ім калаўротнасць сонца — суцэльны гнёт
і падатнае ісціны ваб — вастрыё нажа.
* * *
...бо не ўсё тое мора, з чаго неба п'е нагбом, —
бурапенны крышталь абязводзеў ў тваіх пясках.
рассякай вены кроз, крываточ на уласны прах —
і зарой набрыняе струхлелы нясмерця збан.
вышынёй акрыляй знедухоўлены целаём —
і бяскрайні разлог не ўвядзе вось душы у зман.
* * *
...бо не ўсё тое вечнасць, што прагне спазнаць канец,
і не ўсё ёсць канцом, што не ведае пра працяг.
павады зораверці — ужо у тваіх руках,
той напрамак найслушны, што ўрэшце замкнецца ў круг.
лямантуй у пустыні, і лямант адвадзіць смерць —
бо усё тое сіла, у чым затаіўся рух.

**2.**
...бо не ўсё тое святасць, чый вусціш вярэдзіць кроў.
шэсць начэй ты чакала жабрачкай ля брамы багоў
на агонь звеставання, вялебная дзева. ды сёмай
ноччу сіверны вецер цябе ўзяў сваёю князёўнай.
* * *
...бо не ўсё тое цемра, што засціць душы спазор.
хай ты ў долі паўночнай забыла нябесны двор —
ды вільготныя яханты зорных тваіх вачэй
адбіваюцца ў багне верамя ўсё ярчэй.
* * *
...бо не ўсё ёсць паводкай, што свет паглыне суздром.
нарачоная ветру, ты здольна суцішыць гром
і адмыць гэты золак ад першаграху цемнаты —
бо усё тое Сонца, што свету народзіш ты.

## белы храм

у недзе нідзейным стаіць над дрыгвой белы храм.
спрадвеку ён месціўся тут, хоць і верзлі, што — «там»...
яго не пачуе чужынец, не ўбачыць бяда —
той храм божым вокам пільнуе святая звязда.



у ім пакланяюцца строгасці ўчынкаў і слоў,
ён стане прытулкам таму, хто адкажа на зоў
мясціны, дзе дбайнаю працай асвечаны люд,
дзе мова багоў — абярэг і адвечны статут.

тут светлая мысль бласлаўляецца словам на чын
і продкаў стары запавет неабвержны нічым.
над морам журбы, па-над прахам цялесных спаруд —
стаяў гэты храм і шчэ вечна стаяцьме ён тут.

да скону часоў, заняпаду прастор і пасля
жывой застанецца пад храмам святая зямля.
і покуль з жароўні да неба ўздымаецца дым,
мы знойдзем ізноў белы храм і сустрэнемся ў ім.



# Кацярына Ваданосава

**паэтка, музыка, дызайнер, лідарка музычнага гурта «Kaciaryna Vadanosava & Fantasy Orchestra». Аўтар паэтычнага зборніка «Міфатворчасць» (2015 г.) і аднайменнага музычнага альбома (2016 г.).Скончыла БДПУ імя Максіма Танка па спецыяльнасці «Гісторыя. Рэлігіязнаўства». Працуе тэлевядучай праграмы «Жывая культура» (тэлеканал Беларусь 3) і выкладчыкам мастацкай вышыўкі ў «Школе выкшталцоных рукадзелляў». Лаўрэатка шматлікіх песенных фестываляў. Нарадзілася ў 1986 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.**



## Пачынаецца шторм!...

* * *

Я ціха сплю, загорнутыя ў крылы,
Вакол — палеткі, ноч, туман і снег...
Пустыя косткі рэзануюць з пылам,
Пяе дарога калыханку мне.

*04.2018*

### Адліга

*«Жывой культуры» прысвячаю.*

Паветра тлусцее туманам,
Напоўніўся вільгаццю бор.
Дарогі, паселішчы, ямы —
Занадта стракаты узор.

Бабулькай бяззубай, старою
Зачамкаў растоплены снег...
Не будзе, не будзе спакою:
Жыццё пераходзіць на бег.

Паспець, не спыніцца, не страціць
Людзей, што заканчваюць шлях,
Вучыцца іх слухаць. Смяяцца
І слёзы хаваць у вачах.

Расповед аднолькавы ўсюды:
Вайна, недароды і смерць...
Прыход мой ім мроіцца цудам,
А я што?.. Я мушу паспець,

Бо хто іх яшчэ запытае
Пра веру, каханне, жыццё?
І кожны юнацтва згадае,
І прэч адыдзе забыццё.

Дарогі!.. Вы косы сівыя —
Мяне прывядзеце куды?
Абапал дарогі — жывыя,
Навечна жывыя дзяды.

*14.01.2019*

* * *

Птушкі святога Францыска
Ляцелі ў чатыры бакі —
Песняй высокай і блізкай
Зрушыць пяскі і снягі.

Птушкі спявалі, спявалі:
Пропаведзь плавіла лёд,
Ў пустках сады расцвіталі,
Рэкі мянялі свой ход.

Той, хто паслаў іх па свеце,
Не ведаў пагарды і зла,
Дарог італійскую квецень
З ім радасна беднасць прайшла.

А ў краі маім — снегапады,
Вогнішч язычніцкі трэск,
Ціха расставіў прынады
Чорны разлапісты лес,

Цмокі з таемных прыстанкаў
Сцеляць над багнаю дым,
І вышываюць русалкі
Строі каханым сваім.

Птушкі святога Францыска
Ў землі Міндоўга лятуць:
У вочы старых васіліскаў
Хочуць яны зазірнуць.

*22.01.2019*

## Altra mors[1]

Не адвядзі сваіх вачэй,
Не аднімі халодных рук:
Я не баюся. Так лягчэй
Спыніць крыві няўмольны рух.

[1] Чорная смерць

Глядзі, глядзі. Запамінай,
Як мы ўрастаем у зямлю,
Пунсовым глогам расцвітай,
Пяшчоту памятай маю.

Мы чулі, як грымеў набат,
А потым сціхлі ўсе званы...
Нібыта сто вякоў назад
Сустрэлі мы прыход чумы.

Парог наш паглынае сныць,
Страхі салома — крумкачам.
Тут будзе дом. Тут будуць жыць
Пацук, сініца ды кажан.

Ужо зраўняўся з ноччу дзень,
Ужо вясна дыхнула ў твар,
На валасах тваіх — прамень,
Адбітак бестурботных мар.

О, светлы раўнадзенства час!..
Каронай руда-залатой
Зямля вясны вянчае нас
І пахне ветрам ды чумой.

*22.03.2019*

## Першая ноч

На гладкім яе ілбе
Халодны прамень мільгнуў:
Месяц за шклом плыве,
І мроіцца: свет паснуў.

Вядзеш ты хвілінам лік,
Не верыш у свой спакой:
Напэўна, ты не прывык
Яе называць сваёй.

Ўсе дзверы ў настылы дом
Замкнёныя на ключы...
Забылася лёгкім сном
Яна на тваім плячы.

На скуры тваёй гарыць
Яшчэ пацалункаў жар...
Ці зможаш ты не пазбыць
Даверу яе і мар?

Пад вейкамі — лёгкі цень,
Ў далоні — яе рука...
Дрэмле ўнутры агмень,
Чорная спіць рака.

Хутка ў нябыт сыдзе
Цёмная сінь нябёс,
Ночы заплаціць дзень
Кроплямі зорных слёз.

У скронях грукоча час:
Дзіўна яго лічыць...
Яна сёння ў першы раз
Спала на тваім плячы.

*30.01.2019*

* * *

Хутка, хутка вясна:
Вер мне, не сумнявайся.
Крыгамі па рацэ
Смутак сплыве на ўсход.
Стане ўсё, быццам у снах,
Тых, дзе не трэба баяцца.
Не плач. У тваёй руцэ
Плавіцца крохкі лёд.

*27.02.2019*

## Санет 9

Нібы ківач з гадзінніка старога,
Здзяйсняю з боку ў бок няспынны рух:
То ў цемру, то ў святло вядзе дарога,
І замыкаюць стрэлкі новы круг.

Змяняецца мяцежнасцю лагоднасць,
Пакорлівасць — пагардай, сумам — смех...
У шэсцернях — наладжанасць і стройнасць,
І механізм не прыпыняе бег.

Я не хачу з табою гаварыць,
Але твой голас з тысячы пазнаю,
Я не жадаю дотыкаў тваіх,
І ў той жа час пад імі я палаю.

І страх, і жарсць — усё аднавачасова.
Душа — ківач з гадзінніка старога.

*14.02.2020*

## Санет 10

Нібыта ў стане гіпаглікеміі,
Я не магу суняць дрыжэння рук,
Губляю зрок, і цемра, як павук,
Ахутвае цянётамі нямымі.

Ўпаўзае ў сэрца страх у той жа час,
Сігнал пачуўшы для свайго нападу,
А я ніяк не звыкнуся са здрадай,
Што робіць цела у чарговы раз.

Я адчуваю ў пальцах, у вачах:
Мне тэрмінова зараз неабходны,
Як доза цукру, дотык твой свавольны...
Каханне у крыві пульсуе так,
Што ўздыхі ўсе кароткія, малыя...
Ці гэта проста гіпаглікемія?..

*17.02.2020*

## Блюз

У кватэры тваёй — непраходны бардак,
Сябрам тваім немагчыма не піць,
Ты глядзішся ў ваду, калі йдзеш па мастах,
З думкай, ці варта далей так жыць,
Але мітусня аднастайных начэй
Выратоўвае ад цішыні —
Усё пакуль што о'кей.

Ты з жонкай развёўся мінулай вясной:
Ты проста не ведаў, як можна з ёй жыць:
Яна ад абразы згубіла спакой,
Жадала адпомсціць, ці нават забіць!..
Ды, калі б ты застаўся, горш было б і цяжэй:
Ты б і піў ды ілгаў, а так
У яе ўсё о'кей.

Ты думаеш: «Можа, схадзіць на вайну?..
А, можа быць, проста на ўсё напляваць?..»
У гэтай краіне бязрушнага сну
Амаль немагчыма болей трываць,
Ды, пакуль цябе зверху не ціснуць мацней
І ты можаш яшчэ тут жыць —
У цябе ўсё о'кей.

А раніцай сонца ўзыдзе на сцяне,
І кава падасца густой, быццам ртуць,
Таблетка паможа тваёй галаве,
І думкі, як крыгі, далей паплывуць,
Але ты мой сябар, і ў шацi людзей
Ты не самы нікчэмны, павер,
І ўсё будзе о'кей.

*18.02.2020*

* * *

Я табе прашапчу: «Мой каханы».
Цябе, мусіць, ніхто так не клікаў?..
Калі нават ты душным світаннем
Браў чарговую ў шчасця пазыку,

Калі вусны жанчын цалавалі
Твае плечы, запясці ды скроні, —
Табе тысячы назваў давалі,
Ды «каханым» не быў ты ніколі.

Утрапёна і неасцярожна
Я раскідваю шэпту пялёсткі,
Прасціну вышываю на ложак
Вяззю гукаў знаёмых ды простых,

Я хачу, каб ты ўслухаўся ў словы,
Што нясу я, нібыта пярліны,
Словы самай хвалюючай мовы:
«Непаўторны», «каханы», «адзіны»...

І табе не забыцца ніколі:
Жарсна ты цалаваўся са мною...
Як віно трапяткое, жывое,
З вуснаў піў беларускую мову.

*21.02.2020, Дзень роднай мовы*

## Раманс

Нервюраў мармуровых ружы
Палалі беллю незямной...
Над імі — вецер вольны, дужы...
Той вецер клікаў за сабой.

Ён клікаў у святыя далі,
Ў бязгрэшна-праведны прастор,
У край без болю і без жалю,
Дзе гімны лье анёльскі хор.

Брат-вецер, дай мне жар адвагі,
Каб, прэч адкінуўшы спакой,
Я, паслухмяная загаду,
Магла б узняцца над зямлёй,

Пашлі мне моцы для здзяйсненняў,
Дазволь пабачыць светлы край
Без пыхі, зайздрасці, ганенняў —
Даўно забыты вечны Рай.

Ды цяжкія грахі зямныя...
Іх не злічыць маёй душы...
Скаваная, злітая з імі,
Я не адолею мяжы.

Ляці, ляці, пасланнік Неба!..
Я так хацела за табой...
Ды застаюся тут, каб слепа
З сабою весці доўгі бой.

...Над старажытнымі мурамі
Гучала песня аб вясне,
А вецер з белымі крыламі
Не плакаць спрабаваў па мне.
*4.03.2020*

* * *

Я лічыла сябе адзінай,
Але праўда — настаўнік строгі:
Быццам нёманскую віціну,
Мяне вынесла на парогі.

Я — чарговая. Цэлы шэраг
Да мяне быў, і будзе потым...
Як цяпер мне не страціць веру,
Як цяпер не згубіць пяшчоту?

Так, я моцная. І наяве
Буду роўна з табой вітацца,
У штодзённай руціннай справе
Безнадзейнасцю гартавацца,

Насаджаць у душы маўчанне,
А на твары — спакой і радасць,
Жартаваць над сваім каханнем,
Выдзіраючы з сэрца памяць.

Гэтак цяжка крывіць усмешку
З абяскроўленых бледных вуснаў...
Ты іх выпіў да дна, да рэшты...
Мучыць смага, ды я смяюся.

Я смяюся з таго, што стала
З маім гонарам растаптаным:
Ты так лёгка прыняў ахвяру
І знявечыў маё каханне.

Я ўглядаюся ў твар жанчыны,
Што з табой падзяляе ночы,
І за ветлівасцю няшчырай
Прагну сцішыць адчай ды роспач.



Незагоены шнар — пад скурай:
Час залечыць, і час навучыць...
Супакойся. Я не раўную.
Толькі... Ведаеш... Так балюча...
*10.03.2020*

## Шторм

Поўніцца нізкае неба вятрамі
Ды навальнічным сталёвым дажджом,
Ветразі рвуцца над караблямі,
Кроплі на бруку... Глядзі: пачынаецца шторм!

Прэч ад руціны, прымхлівасці, страху:
Ў песні бурану — лютасць і стогн.
Бура паслужыць нам крыламі размахам,
Мора чарнее... Глядзі: пачынаецца шторм!

Ўзняцца над горадам вусцішным ценем,
Неба ўпэўненым кратаць крылом,
Перламі кропляў вышыць адзенне,
Далей ад стратаў... Глядзі: пачынаецца шторм!

За навальніцай, за громам і пылам,
Мы, абудзіўшыся, больш не заснём!..
Вецер падорыць свабоду і сілу,
Свет замірае... Глядзі: пачынаецца шторм!
*14.03.2020*



# Мікола Кандратаў

паэт. Аўтар паэтычных кніг: «Возера Рудакова» (2002 г.) і «Вершы і зоркі» (2008 г.). Нарадзіўся ў 1957 годзе ў вёсцы Замосце на Талачыншчыне. Жыве ў Мінску.



## Чужых крыжоў не руш!..

* * *

Прыгажосць. Малітва. Вышыня.
Несамотнасць у глухім саборы.
Праз акно ліецца радасць дня
на святочнасць золата ў дэкоры.

І з душой узносіцца пад дах.
Змізарнелі важныя жаданні.
Бачыцца яскрава ўласны шлях.
Чысціня. Дабро. Выратаванне.

### Сон

Начная плынь нясла мяне,
ці можа то была нірвана...
Калі ж я вынырнуў у сне,
з'явілася Святая Панна.

Яна сказала: «Будзе дождж,
які пральецца Божым цудам
і змые тло зямных гадоў.
І свет ачысціцца ад бруду.

І будзе ўдзячны свет дажджу,
які струменямі прамымі
любую ацаліць душу
і слова кожнае прамые.

І неба высніць новы дзень,
акропіць сэрцы райскім сокам.
І стане радасць для людзей
вяртаннем да сваіх вытокаў...»

* * *

На зямлі нашай, што існавала даўней,
чым з'явіліся крыўда і голад,
хай жыццё каштавала, магчыма, танней,
даражэй каштаваў гонар.

У супольным жылося вальней аднаму,
бо вялікай была краіна...
Памяць генаў ніколі не здрадзіць, таму
беларус — псеўданім ліцвіна.

* * *

На прыпынку апоўдні
у імгненні імклівым
то смяецца, то плача
беларусік чуллівы,

што сядзіць у вазочку
каля мамы і таты.
А насупраць — сястрычка
усміхаецца брату.

Ён пакуль невядомы
нам задумай уздыму.
Але мо нарадзіўся,
каб праславіць Радзіму —

геніяльнай праявай,
адухоўленым словам...
Мо яго нараджэнне,
як прышэсце Хрыстова.

## Пацукалоў

Чароўнай дудкай завалодаў ён
ці, можа, атрымаў яе ад Бога —
што здолеў, як Арфей сучасных дзён,
пазбавіць сэрцы вусцішшу святога?

І ў сэрцах нібы зерне ажыло,
што напрадвесні сонейкам сагрэта,
і маладыя парасткі дало
сузор'е новых будучых паэтаў.

Дудар іграў і душы іх скарыў,
як Бог, развеяў рэдкія сумневы.
Але нікому тое не адкрыў,
што сам ён — служка Снежнай Каралевы...

І Беларусі сніцца страшны сон:
нібы зламыснасць дасягнула мэты,
нібыта нечы спраўдзіўся праклён —
кудысьці зніклі ўсе яе паэты.

Ці то сышлі ў краіну іншых сноў?
Ці то, зачараваўшы лёсам Кая,
іх за сабою звёў Пацукалоў?
І Беларусь, як Герда, іх шукае...

* * *

*Міколу Адаму*

Д'Артаньян садзіцца на каня
і імчыць сябрам на дапамогу.
Гэта — існы лёс, а не гульня,
усур'ёз і раны, і трывогі.

З той пары змяніўся свет даўно,
толькі ў свеце крыўды менш не стала.
Хітрасць з вераломствам заадно.
Колькі іх — гвардзейцаў кардынала!..

Ды не згіне існіна ў віне —
ёсць у сэрца талент і адвага.
І не важна, колькі год міне,
што ў яго руцэ — пяро ці шпага,

што такіх, як ён, амаль няма.
Не бяда, што ворагаў замнога.
Д'Артаньян садзіцца на каня
і спяшае нам на дапамогу.

* * *

Лягчэй за ўсё на свеце ганіць
сумленны твар, суладны твор.
Куды даўней за арыгамі
зайздросны жар і нагавор.

Цяжэй за ўсё на свеце праўдзіць —
не спрахнуць ад зямной іржы —
быць вартым помнай Божай Страты
і пад крыжом, і на крыжы.

## Крыжы

Калі ў жыцці ты быў гарбатым,
такім, напэўна, і памрэш.
Тым, хто душою глухаваты,
ці дапаможа нечы верш?

Іржа мінуўшчыны залежнай
раз'ела еднасць нашых душ.
Ды будзь пад небам ты найпершым,
але чужых крыжоў не руш!

Шчытом бароніць крыжык грудзі,
спрыяе мроям, дзеям, дням.
Спрадвечны сімвал Беларусі
ад Еўфрасінні ззяе нам.

Ты можаш верыць ці не верыць
у вечнасць, існасці паміж,
жывым бы толькі не памерці —
на лёсе не паставіць крыж.

А Бог даў кожнаму мажлівасць,
хай з болем, годна лёс пражыць...
Гарбатасць выправіць магіла,
ды ёй не выправіць душы.

* * *

Няўжо паэзія сышла,
а засталася толькі проза,
расчараваны твой пагляд
ды дзень, што шчэрыцца цвяроза?

Няўжо паэзія сышла,
а засталася толькі мова,
страх страты, у якім пятля
над ёй вісіць, бы меч Дамоклаў?

Няўжо паэзія сышла,
а засталася толькі мэта,
да праўды недасяжнай шлях
ды... захапленне гэтым светам?

* * *

Імкнецца стаць свабодным слова «два»,
забыўшыся пра спрэчныя паловы.
Калі ад жарсці кругам галава,
п'янеюць і закружаныя словы,

не кажучы пра радасную плоць, —
яны любошчаў славяць дыктатуру.
Хай нехта і не згодны з тым шматкроць —
не кідацца ж яму на амбразуру.

Нязвыклае імкнецца звыклым стаць
насуперак адвечнаму закону,
змушае чалавека паглядаць
на Божы свет праз вокны Авертона[1].

І ўжо ў стагоддзі, у якім жывеш,
нічога не саромеюцца вусны...
Калі распуста пранікае ў верш,
чытаючы, становішся распусным.

* * *

*Я стаміўся. Над парогам*
*Пчолы кружацца і шэршні.*
Леанід Дранько-Майсюк

Усё стамляецца: і след,
і цяглiцы, і словы.
Нібы трапляе цела ў глей,
а воля — у аблогу.

---

[1] Дыяпазон ідэй, дапушчальных для абмеркавання ў публічнай прасторы.

Ні дум у галаве, ні мар
душа прысніць не ў стане.
І дзе яно? Нідзе няма —
жаданага адхлання.

Нібыта ўжо не прагнеш дня,
з натугай б'ецца сэрца...
І ў гэтай стомы ёсць імя —
яна жыццём завецца.

* * *

*Уладзіміру Някляеву*

Свет любіць цырк на дроце —
боль застаецца ззаду.
З «праўды — ці прыгажосці»
я выбіраю праўду,

што ад Стварэння свету
дзеіць да Новага Раю.
Геній ідзе над планетай,
як над звярынай зграяй.

Хочацца праўды ці славы?
Можа, ён, Богам абраны,
творачы сола і сальта,
смерці пазбегнуць падманам?

Чый гэта голас аднекуль
так спакушае сэрца:
можа, чым з праўдаю мерзнуць,
лепш з прыгажосцю сагрэцца?..

Ды завітала, як госця,
думка з Божага Саду:
праўдзе стае прыгажосці,
бо прыгажосць ёсць праўда.



*Эдуард Галустаў. «Прыватная гісторыя»*



## Тамара Аўсяннікава

**паэтка, празаік, педагог. Аўтар некалькіх кніг паэзіі і кнігі прозы «Любачка». Адзін з укладальнікаў чатырохтомнага выдання «Яўгенія Янішчыц: творы, жыццяпіс, каментарыі». Кіраўнік літаратурнага клуба «Святліца». Нарадзілася ў 1949 годзе ў вёсцы Сяўкі на Лоеўшчыне. Жыве ў Магілёве.**

# Белы Ян і чорны Інь...

* * *

*Бойся спазніцца*
*са словам харошым...*
Ніна Мацяш

Я іду і цень ідзе
слава богу
значыць я жыву
богава нябога

як пакіне цень мяне
прахам стане цела
а душу Суд не міне
як бы ні хацела

покуль разам цень і я
дружна крочым
не спазніцца б мне сябры
са словам харошым.

* * *

На мяжы я стаю,
Я стаю на канаце,
Неба хістаецца
над галавою...
Маці з бацькам у хаце

У строях вясельных
сядзяць —
Не мелі такіх ніколі.
Не давялося мне знаць
Шчаслівай іх долі.

Позняе шчасце іх,
І я — позняя, позняя...
Чобаты адны на дваіх —
Жыццё адыёзнае.

* * *

О, не пытайцеся,
ну як я ёсць!
І пра здароўе не пытайцеся.
Ні ў якім разе!
І зусім не трэба.
Усё непастаяннае,
як неба,
як думка ў сказе,
як вада ці вецер.
І няма, не будзе ў свеце
нам пастаянства.
І зусім не трэба яго шукаць.
Непастаянства нашае
патрэбней хлеба.
Яно так многа можа даць,
адкрыць і зразумець. Узняць!
О, не пытайцеся,
ну як я ёсць.
І пра здароўе не пытайцеся.
Ні ў якім разе.

* * *

Бываюць такія хвіліны,
што хочацца выць
ваўчыцаю,
зайсціся крыкам
сычыным,
збегчы ў поле,
у лес сысці,
каб нікога не бачыць.

Каб рэха разнесла
і крык, і выццё —
прастору запоўніла.
Каб хмары дажджом
разам са мною рыдалі,
каб зоры зацята маўчалі,
каб вецер мой крык
на шматкі парваў
і на сметнік выкінуў.

І каб ніхто
пра гэта не знаў,
далі бог, не выпытаў.

* * *

*О, каб вярнуць той час, калі!..*

... ты снішся мне
ўсё тым жа маладым.
І так, як некалі,
душу трывожыш,
і адпусціць цябе
ўсё просіш, моліш,
а я не маю сіл
расстацца каб. І не хачу.
У цемру ночы нема я крычу!...
Цябе няма.
Ты — здань. Ты — дым.
О, каб вярнуць той час, калі!..
Але ж...

Ты будзеш вечна маладым,
а я — так ад цябе далёка...

* * *

Якім далёкім гарызонт здаваўся...
І як ён блізка сёння падышоў.
О, як даўно за ім адчайна гнаўся!..
Было, было і адышло...

О, як хацелася пабачыць
За небакраем — што?
Хацелася усё мне перайначыць,
Жыццё каб шчаслівейшае было.

Увіты машкарой плафоны,
Раўнюсенька пастрыжаны газоны,

І я падкошаны, панікла галава...
До-рэ-мі-фа... до-рэ-мі-фа...

* * *

Галава мая — радар.
Тазік медны: дзінь-дзінь-дзінь.
Космас — думак валадар —
Белы Ян і чорны Інь.

Ці то ў сне, а ці на яве
Чую дзінькание: дзінь-дзінь.
І вандрую ў Наві, Праві
З белым Ян і чорным Інь.

* * *

А чыя ж то родна мовачка
Знелюбелай стала,
А якім жа людцам добрым
Жыць перашкаджала.

А яна ж слухмяная,
А яна ж пявучая —
Перацялі горлейка
Ды скруцілі ручанькі.

* * *

Людзі нараджаюць людзей,
Людзей нараджаюць людзі.

Людзі падманваюць людзей,
Людзей падманваюць людзі.

Людзі абураюцца на людзей,
На людзей абураюцца людзі.

Людзі забіваюць людзей,
Людзей забіваюць людзі.

Людзі ствараюць сістэмы,
Сістэмы руйнуюць людзей.



— Адкуль жа бяруцца нелюдзі? —
Пытаюцца людзі ў людзей.

Хто вінаваты? Каго асудзяць?
Няўжо вінаваты вечна габрэй?

Глянь, чалавек, у люстэрка,
Вочы чые на цябе глядзяць:
Нелюдзя вочы, ці чалавека?..

* * *

Вецер авалодаў горадам,
кожнай вулічкай,
кожнай шчылінай.
Паводзіў сябе груба,
нахабна,
не зважаючы на ўзрост.
Ён ірваў дрэвы, кусты,
адзенне мінакоў,
але ніхто яму не пярэчыў,
не супраціўляўся,
бо гэта не мела сэнсу.

* * *

Абрубкамі, з якой віны,
Дрэвы стаяць.
Нібы адгалоскі вайны,
Нема крычаць.

Дрэвы хочуць жыць.
Яны расцвітуць па вясне.
Але... дрэвам баліць!
Іх раны баляць і мне.



# Эдуард Акулін

**паэт, перакладчык, бард. Аўтар кніг паэзіі: «Лес дзённага асвятлення», «Пяшчота ліўня», «Крыло анёла», «Радно», «Непрычалены човен», «Вітражы», «Малітва воч», «Святая ноч», драматычнай містэрыі «На Каляды» і інш. Нарадзіўся ў 1963 годзе ў вёсцы Вялікія Нямкі на Веткаўшчыне. Жыве ў Мінску.**

# Я нашу Беларусь у душы...

## Тур

Узваліўшы ранак хмарны
на магутнае плячо,
Князь Барыс ідзе на тура
з хітрай злобай у вачох...

Мкнуцца дзіды, гнуцца лукі,
рвуць ашыйнікі харты...
Рог турыны грозным гукам
распалохаў чараты...

Ад світання да змяркання
йдуць уцёкі ад хаўтур...
І нарэшце горда стане
перад князем вольны тур.

Вочы ў вочы, морда ў пене,
у крыві — вачэй прыжмур...
Ды ніколі на калені
не ўпадаў ад страху тур...

Не ў туманнае сутонне,
не ў дажджлівы небакрай, —
тур падаўся у паданне,
у аблозе псіных зграй...

Памыліцца не збаюся,
бо ў святое верыцца...
Тур вярнуўся ў Беларусь,
Бог таксама вернецца!

*8 сакавіка 2020 г.*

## Беларуская мова

Беларуская мова!
Ты жывеш у музеях,
у архіўных спецсховах
і ў падземных тунэлях...

Як матуля, якую
дзеці з дома прагналі,
ў электрычках жабруеш,
спіш на брудных вакзалах...

Ды на могілках часам
я цябе сустракаю,
калі скрушныя фразы
эпітафій чытаю...

Ані ў новенькай школе,
ані ў храме звячэлым
не пачуеш ніколі
голас твой анямелы...

Беларуская мова!
Як не будзе дзе дзецца, —
я заўсёды гатовы
прытуліць цябе ў сэрцы!

*21 лютага 2020 г.*

## Калі ты...

*Апосталам нацыі ахвярую*

Калі ты — Апостал нацыі, —
у скрушна-суровы час
ты мусіш туды вяртацца,
дзе Веры Агмень пагас...

Дзе ботамі топчуць Мову,
дзе ганьбіцца ў храмах Бог,
за два запаветных словы —
кідаюць душу ў астрог...

Калі ты — не мужны Вітаўт,
не здольны павесці ў бой, —
ты будзеш, як сон, забыты,
забіты самім сабой!

Калі ты Апостал нацыі,
калі ты з сябрыны Бога, —
не смей за Народ хавацца,
хай нават твой шлях — Галгофа...

Калі ты, жывы і сыты,
нас вучыш жыццю з амбона, —
не чутна тваёй малітвы
з-за грому шчытоў амона...

Калі ты — Апостал нацыі,
калі ты не хунвейбін, —
даволі пустых натацый,
вяршы свой святарны чын!

*22 студзеня 2020 г.*

## Залатамытнік

*Ахвярую Уладзіміру Чараухіну*

Анёл — гасподні мытнік,
глядзіць з нябёсных меж,
як, слоў залатамытнік, —
паэт складае верш.

Як гукаў залацінкі,
бы знічкі у кашы,
да сподняе гадзіны
прасейвае ў душы...

Нікому невядома —
які ў яго намер...
Навобмацак ён словы
знаходзіць, як Гамер...

На тле вялікай бітвы
сярод начной цішы
ён светлую Малітву
дастане з дна душы...

*2 лютага 2020г.*

## Жанчына

На сподзе ночы навальнічнай
я зразумець здалеў адно, —

мужчына хоча быць з жанчынай,
як келіх з залатым віном...

Пра гэта ведалі паэты,
калі яшчэ быў юным Час...
Сваім жыццём Купала ў гэтым
пераканаць імкнуўся нас...

І Багдановіч трызніў гэтым,
калі пісаў Каханню гімн,
таму аж да скончэння свету
над ім «Вянка» не згасне німб...

З Жанчынай хоча быць мужчына
ад дня прыгубленых сасцоў, —
да дня, калі за ім жанчына
прыходзіць стомленым касцом...

*8 сакавіка 2020 г.*

## Грэшны пацалунак

Недакаханая мая!
Наш пацалунак абарваны
праз столькі год не здолеў я
забыць, як верш недапісаны...

Калі пакліча мяне Ён
свой вырак абвясціць няўцешны, —
я узгадаю, нібы сон,
наш пацалунак самы грэшны....

*17 сакавіка 2020 г.*

## Музыка

Жарсці шал у абдымках кружачы,
прыгубіўшы пацір надзей,
ты хацела аддацца музыцы,
як начы аддаецца дзень...

Воз жадання сумненнем грузячы,
не таймуючы хваль калень,
ты хацела аддацца музыцы,
нібы мору рака ў сухмень...

Зрэнкі рэўнасці рыссю вузячы,
эратычная, як змяя,
ты хацела аддацца музыцы, —
гэтай музыкай быў не я...

*24 лютага 2020 г.*

## Навальнічны паэт

У шведскім горадзе Лунд
падчас выступу Уладзіміра Някляева
перад студэнтамі 11 лютага 2020 г.
нечакана прагрымеў гром...

*Ахвярую Уладзіміру Някляеву*

Няма Прарока ў сваёй Айчыне —
зляцеў за мора Страцім-Паэт...
Пярун ударыў з тае прычыны,
таму што вычуў — ёсць канкурэнт...

На плошчы Волі ён з жылаў Мовы,
у плашчанічны упаўшы снег,
крывёй накрэсліў святыя Словы,
што палічылі за страшны грэх...

Бо словы тыя, як бліскавіцы,
скрозь на тырана наводзяць страх,
калі зіхцеюць не ў навальнічных,
а ў непакорных людскіх вачах...

Маліся ж, Ірад, перад дарогай
у беспрытульны іудаў свет...
Ды даравання прасі не ў Бога,
спярша даруе няхай Паэт...

*12 лютага 2020 г.*

## Перадсвітальны верш

Пакуль бог Сварог вымельвае
свой невад з начных глыбінь, —
у зорнай зале выбельвае
руплівая Ляля сінь...

З'яднаўшы далонькі белыя,
як дзева ў нямым кіно,
бярозка ў зялёным вэлюме
глядзіць у маё вакно...

*10 красавіка 2020 г.*

## Дарыце каханым кветкі!

Ні імбрыкі і сурвэткі,
не шоры на ноч для сну,—
дарыце Каханым кветкі, —
дарыце часцей вясну!

Ні танныя цыгарэткі,
ні імпартны шакалад, —
дарыце Каханым кветкі, —
дарыце эдэмскі сад...

Ні срэбныя бранзалеткі,
ні новенькі мерседэс, —
дарыце Каханым кветкі, —
дарыце Булонскі лес...

Каб шчасця адбыцца сведкам,
каб крыўды суцішыць боль, —
дарыце Каханым кветкі, —
ганіце жыцця Юдоль...

Зімовай парой і ўлетку,
вясною і ў восень-золь
дарыце Каханым кветкі, —
вяртайце ў душу Асоль!

*11-12 сакавіка 2020 г.*

## У трубе

*Ахвярую Рыгору Сітніцу*

Я сябе уявіў у трубе...
У бясконцай трубе Газпрому.
Газ прапаў і сказалі мне,
што труба — гэта шлях дадому.



Хочаш выжыць? Труба заве...
Страх адпрэч і забудзь пра стому:
па смярдзючай, сляпой трубе
на каленях паўзі дадому...

— На каленях? Які кашмар!
— На каленях, а як іначай!
На калені! Народ-Ікар!
Раз згадзіўся на лёс сабачы...

Раз забыўся на запавет,
што пакінуў табе Купала.
Можна йсці у вялікі свет,
ці паўзці, калі Духу мала...

А спытае крывіцкі Бог:
— Дзе ж народ, што стварыў Купалу?
Прашуміць у адказ быльнёг:
— У трубе пракладае шпалы...

Бо калі ўжо ў трубе, то што ж?
Трэба ж неяк прыстасавацца...
Бо «сляпы і глухі, як крот»,
бо адвык Беларусам звацца...

Я сябе уявіў у трубе...
Вось і ты уяві сябе,
сына, жонку, старых бацькоў
у трубе — да канца вякоў!..

*31 снежня 2012г.*

## Вяртанне

*Паўлу Бераговічу*

Вольным будзь, як балтыйскі вецер,
з марай-ветразем скрозь хаўрусь...
Пілігрымам вандруй па свеце,
а вяртайся на Беларусь.

Шчасце можна дзе хочаш стрэціць,
ды успомніць сябе прымусь —

райскіх безліч мясцін на свеце,—
вырай, вырак твой — Беларусь...

Можна страціць усё, што маеш —
Рым і Крым у адзіны міг...
— Дзякуй, Павел, што ты вяртаеш
Беларусам сябе саміх!

*9 лютага 2016 г.*

## Жаўраначка

*Нілу Гілевічу*

Бог Плашчаніцай завесіў сонца,
каб ад журбы не аслеп Сусвет...
Шлях да Радзімы, як Ніл, бясконцы
таму, хто званне займеў Паэт.

Хто сам паверыў і нас прымусіў
паверыць свята — надыдзе Час...
Мы ўсё-ткі дойдзем да Беларусі,
пачуе Госпад нарэшце нас...

А сёння «крыху» Паэт стаміўся,
прылёг ля весніц, каб адпачыць...
А у нябёсах, пад Плашчаніцай,
душа, як жаўраначка, звініць...

*30 сакавіка 2016 г.*

## Калі забіваюць сына...

*Памяці Міхася Жызнеўскага*

Па сэрца ў крыві Ўкраіна.
Майдан ад гранат аглух...
Калі забіваюць сына —
тады ажывае Дух...

Па сэрца ў крыві Ўкраіна.
А Беркут ля самых воч...
Калі забіваюць сына —
тады надыходзіць ноч...

Як маці сказаць аб страце?
А Каін запомніць змог:
калі забіваюць брата —
тады памірае Бог...

Калі забіваюць сына —
не здацца сябе прымусь...
Па сэрца ў крыві Ўкраіна.
Па вочы ў слязах Беларусь...

*24 студзеня 2014 г.*

## Плашчаніца

*Леаніду Дайнеку*

Па здзічэлых слядах ваўкалакаў,
скрозь шрапнэлевы град жалудоў
ён вядзе за сабой у атаку
залатую харугву сяброў...

Тых, хто верным застаўся Пагоні,
тых, каго не разбіць, не стрымаць,
тых, чые крылагрывыя коні
скрозь віхуры стагоддзяў ляцяць...

Каб не здацца ў палон паняверцы,
каб душу у ярмо не прадаць, —
Князь Лявоній з брыльянтавым сэрцам
падымае былінную раць...

Меч мільгнуў у руцэ бліскавіцай
і пагас у блакіце вачэй...
А ў нябёсах святой Плашчаніцай
сцяг саткаўся з крыві і завей!

*27 лістапада 2018 г.*

## Даравальная нядзеля

Даравальная нядзеля,
а ў душы — гняздоўе вос...
Дараваць усім хацеў бы,
як калісь Ісус Хрыстос...

Грэшны, ды не безнадзейны,
бо на дне світальных сноў
даравання на каленях
ў Госпада прасіць гатоў...

Даравадь сабе хачу я, —
што бядуе Каін-брат...
Хай і мне усе даруюць,
што ў душы жыве Пілат...

*1 сакавіка 2020 г.*

## Як шкада...

Стаючы на краі нябыту,
зазіраю ў прадонне Леты...
Як шкада, што бяздарна зжыта
столькі восеняў, зімаў, летаў...

Як шкада, што стрымаць не ўсілах
свайго гневу на дне світання —
матыльковыя нішчыў крылы
маладога свайго Кахання...

Як шкада і да болю позна,
бо жыццё не пачаць нанова...
Не напісаны твор сур'ёзны,
не адроджана ў сэрцы Мова...

Як шкада, што дажыць не здолеў
да пары, калі ў небе бусел
залунае штандарам Волі
над прасторамі Беларусі...

*25 сакавіка 2020 г.*

## Не на паказ...

Мая Вера — не на паказ...
Мае вершы — без камуфляжу...
Не патрэбны мне антураж
дзеля таннага эпатажу...
Штонячы, бы ў забой шахцёр,
я спускаюся ў прыіск зорны, —
Слова роднага валанцёр
і Паэзіі раб пакорны...



У галернай сляпой цішы,
каб народ мой не зведаў зводу, —
не на лацкане, а ў душы
я нашу Беларусь заўсёды...

*26 красавіка 2020 г.*

## Дарога дадому...

Дарога дадому — з вершаў...
Душа, як страла, ляціць
туды, дзе пад лаўку пешшу
навучыўся калісь хадзіць...
Дарога дадому — з грому,
з маланкі крутым сярпом ,
якая штоноч без стомы
выкошвае выспу сноў...
Дарога дадому — з болю...
Як скрушна, калі глядзіш
на цэркаўку ў чыстым полі,
што моўчкі нясе свой крыж...
Дарога дадому — Шчасце,
якое нам Госпад даў...
Яна — як душы Прычасце
да самых высокіх спраў!..

*28 красавіка 2020 г. Радаўніца.*

## Дух Паэзіі

Ні церпкім кубінскім ромам,
ні свежым французскім хлебам, —
Паэзія пахне громам,
Паэія пахне небам...

Ні пылам арэны цырка,
ні потам пуант балетных, —
Паэзія пахне жвірам,
дастаным з глыбі сусветнай...

Ні прытарнай цукраватай,
ні ліпкай душой каштана, —
Паэзія пахне Здрадай,
крывёю з Гасподніх ранаў...

*28 красавіка 2020 г. Радаўніца.*



# ВЕРАСЕНЬ
# ПРОЗА

уладзімір шыпіла сяргей белаяр
зміцер дзядзенка лявон валасюк
павел ляхновіч вінцэсь мудроў



# Уладзімір Шыпіла

**паэт, палеаантраполаг. Друкаваўся ў часопісах «Дзеяслоў», «Литературный объектИФФ», «Справа». Нарадзіўся ў 1988 годзе ў Наваполацку. Жыве ў Мінску.**



# Цыркавыя жарсці

Часам узнікае жаданне адпачыць на высокім ці не надта высокім інтэлектуальным узроўні, ды, на жаль, з балетам ды тэатрамі ў правінцыйных гарадах цяжкасці. «Чужая мілая» і «Эскадрон моих мыслей шальных» не абрыдлі толькі самым «устойлівым», таму выйсцем з гэтага могуць быць інтэрактыўныя забаўляльныя прадстаўленні з фокусамі і гумарам, хаця апошнім часам бывае на даволі нізкім узроўні.

У адзін з пятнічных вечароў жыхары горада накіраваліся да адной пабудовы, якая зусім не адпавядала сваёй назве, і наўрад ці антычныя архітэктары ацанілі б нават калоны гэтага будынка. За такую канструкцыю ў старажытных Афінах далі б хутчэй пажыццёвы астракізм. Але выбару месцаў для правядзення масавых мерапрымстваў было вобмаль. Сённяшні вечар для тых, хто сабраўся, мусіў прайсці ў атмасферы ілюзіі і пераўтварэнняў. Эксцэнтрычны фокуснік, з вачамі, быццам дыяменты, і ў брытанскім смокінгу з яскравым мятлікам зацягваў публіку ў палон таемнасці. І, трэба адзначыць, яму тое ўдавалася лёгка. Хаця прадстаўнікоў птушынага і жывёльнага царства не было, але гледачы былі задаволеныя тэатралізаванай энергетыкай і незвычайнымі эфектамі святла, якія працінalі лёгкі паўзмрок.

Нечакана артыст перад чарговым сваім нумарам звярнуўся да прысутных: «Дарагія сябры, справа ў тым, што я шмат усяго раздаю, і таму застаўся нават без асістэнтак... Мне для правядзення далейшых нумароў у якасці асістэнтак патрэбныя дзве незамужнія дзяўчыны. Ці ёсць сярод вас такія?» Пасля ён уважліва паглядзеў у адзін бок і ўбачыў, як адна дзяўчына штурхае локцем іншую і падбухторвае прыняць удзел, а на верхнім шэрагу ўгледзеў сімпатычную дзяўчыну, якая з зацікаўленнем пазірала на яго. Тады артыст імкліва спусціўся ў сектар гледачоў і запрасіў абедзвюх дзяўчат. Тую, што штурхала сяброўку, звалі Вольга, а з верхняга шэрагу — Таня. Першая крыху павагалася, перад тым як пагадзіцца, а другая праявіла пакорлівасць. Прапанова артыста прывабіла дзяўчат, ды і знаёмствы па адпаведных сайтах і сацыяльных сетках цалкам абрыдлі.

На сцэне майстар фокусаў прывітаў іх словамі:

— Добры вечар, непаўторныя і недаступныя! Цешуся, што вы адважыліся. Ці гатовыя вы прыняць удзел у ролі маіх асістэнтак?

— Так! — адначасова адказалі дзяўчаты.

— Нават без афармленага кантракта?

— Так! — зноўку адказалі тыя.

— І нават, калі пра гэта даведаюцца вашыя бацькі?

— Так! — пераходзячы на смех, — адказалі яны.

— То запрашаю да артыстычнага гардэроба!

Паненкі, пацiснуўшы плячыма, пайшлі за вялікую размаляваную шырму з надпісам Paradis Latin. У той час, пакуль яны рыхтаваліся да выступу, фокус-

нік паспеў праглынуць некалькі вострых прадметаў і парадаваў усіх выкрунтасамі са свечкамі, а таксама паказаў, якія ключы ад машыны ў дырэктара мясцовай тэкстыльнай фабрыкі .

І вось загучала экспрэсіўная класічная музыка, пад якую з-за кулісаў, асветленыя мяккім сінім святлом, выбеглі дзве новыя асістэнткі. Запанавала замяшальніцтва. Першыя некалькі хвілін прысутныя не маглі паверыць, што зараз перад імі тыя дзве дзяўчыны, што зусім нядаўна ў звычайных швэдарах былі сярод гледачоў. Цяпер публіка ўбачыла перад сабой дзвюх высакародных паненак, якія, як ім падавалася, плылі, а не ступалі па сцэне. Вопраткі на іх было па-мінімуму. Цяпер вачам прадстала хараство целаў, на якія былі накінутыя лёгкія выкшталцоныя купальнікі, у Тані — белага, а ў Волі — чорнага колераў. Спераду абедзве часткі карнавальнай бялізны злучаліся тонкімі стужкамі, якія агортвалі цела і звужаліся ўнізе ў выглядзе лацінскай літары V. Да плеч і рук кожнай была прымацаваная накідка, якая трапятала, быццам крылы, праз якую бачылася адкрытая ладная спіна кожнай, а ніжэй, амаль адкрытая цалкам, акруглая дзявочая раскоша. На ззяючым твары іскрылася зачараванае пачуццё, падкрэсленае мілымі вуснамі колеру брусніцаў. Ад брыльянцістых завушніцаў позірк прыцягвалі галаўныя ўборы, упрыгожаныя чорнымі і белымі перлінамі з высокім зіхоткім пер'ем. Цалкам адкрытыя для вачэй сройныя ногі трымаліся на невысокіх пантофлях срэбнага колеру.

Амаль некалькі хвілінаў незмаўкалі апладысменты! Цуд пераўвасаблення распачаўся вельмі эфектна. Падавалася, гледачы ўбачылі белага і чорнага лебедзя. Пасля паклону ў залу дзяўчаты пабеглі, каб выконваць даручэнні артыста. Спачатку асістэнткі працялі рапірамі драўляную скрыню, у якой быў фокуснік, адкуль ён выйшаў непашкоджаны, потым майстар завёў абедзвюх у іншую ілюзійную скрыню, якую перакруціў, расчыніў і замест паненак дастаў адтуль цацачных птушак белага і чорнага колераў. Затым зрабіў усё наадварот, і зноў са скрыні выйшлі дзяўчаты, але гэтым разам купальнікі ў іх былі чорна-белыя ў кожнай, быццам за час фокуса з вопраткай адбыўся мікс. Затым артыст накінуў іх вялікай чорнай прасцінай, потым сцягнуў яе, і дзяўчаты зноў прадсталі ў ранейшым выглядзе. Усё гэта суправаджалася гульнёй святла, якое падкрэслівала дзявочую прыгажосць, на якую б звярнулі ўвагу і Праксіцель з Леохарам.

Падрабязнасці фокусаў засталіся за кадрам, а ў рэале грымелі апладысменты. Такі фантастычны дэбют для Вольгі і Тані і ўсіх гледачоў быў сапраўдным цудам. Дзяўчаты паўгадзіны таму і падумаць пра такое не маглі, а цяпер гэтыя плясканні належаць і ім! Яны за некалькі хвілін сталі артысткамі, а зусім нядаўна ў кожнай з іх развалiліся адносіны... Дзяўчаты пераглянуліся, падбеглі да маэстра, і іх чуллівыя вусны з абодвух бакоў уцiснуліся ў шчокі артыста двума падоўжанымі пацалункамі.

Задаволены артыст пасля гэтага працягнуў: «Дарагія дамы, баюся ў такім выглядзе вы далёка не пройдзеце, ды яшчэ і халодна, а з гэтай нагоды...» — і



ў тую хвіліну ён выцягнуў са свайго сакваяжа дзве доўгія вячэрнія сукенкі чорнага і белага колераў. Дзявочыя вочкі напоўніліся яшчэ большай радасцю.

Увечары інстаграм Волі разрываўся ад падабаек і каментароў з самымі рознымі прапановамі ад курортаў да змены статуса. А Таня пасля свайго ўдзелу ў сённяшнім шоу затрымалася даўжэй. Яна ўцяміла, што майстар фокусаў нежанаты, а таксама тое, што гэта яе лёс.

# Фокус

У правінцыйным горадзе ілюзіяніст знаёміў гледачоў з мастацтвам чараў і пераўтварэнняў. Ён забаўляў і зачароўваў прысутных не толькі сваім майстэрствам, але і шчырай загадкавай усмешкай, жэстамі. І, канешне ж, вечар ілюзіі не абыходзіўся без дапамогі збоку красуні-асістэнткі, якая павай выходзіла з-за кулісаў і пераносіла розныя геаметрычныя прылады, якія выкарыстоўваў артыст, і адорвала прысутных ласкавымі і гарэзлівымі поглядамі.

Як тое часта бывае, не абышлося і без неадэкватнага персанажа з ліку прысутных. То быў адзін малады чалавек, відаць, на падпітку і з вялікімі прэтэнзіямі і самаўпэўненасцю. Часам ён адпускаў грубыя рэплікі.

Надышла чарга фокуса з распілоўваннем асістэнткі, які здаўна вядомы гледачам, які, як дарослыя, так і дзеці, сустракаюць з вялікім імпэтам і зацікаўленнем. Імкліва падбегла эфектная памочніца да вялікай чароўнай скрыні. Погляды з захапленнем нібыта працiналі артыстку, апранутую ў брыльянцiста-серабрысты раздзельны купальнік, на які быў накінуты пунсовы доўгі фрак з вялікім разрэзам, праз які праглядаліся падкрэсленыя вопраткай формы. Сабраныя валасы ўпрыгожваў невялікі срэбраны цыліндр з некалькімі рамантычнымі чорнымі пёрамі. Пад колер фрака былі і пунсовыя вострыя туфлі, якія ўзляталі ўгару і рассякалі паветра, быццам зброя фехтавальшчыка, калі асістэнтка ўскідвала свае вытанчаныя і ладныя ногі. Уступ нумара ўжо быў сустрэты авацыямі. Можна было пачуць: «Якая ж яна прыгожая і статная!» «Яе будуць распілоўваць!» «Цікава, колькі ёй гадоў?» «Ды яна такая пластычная, што можа сваю нагу пакласці фокусніку на плячо!» І толькі адна рэпліка была адмоўная: «Ды ўсё гэта толькі, каб прыкрыць адсутнасць фокуса, каб толькі глядзелі на вопратку, а сам нумар то поўная лухта! Я ў ютубе глядзеў, як тое робіцца. Там не адна, а некалькі асістэнтак схаваюцца».

У той момант ілюзіяніст з асістэнткай шматзначна пераглянуліся і ўсміхнуліся адно аднаму яшчэ болей загадкава. Пасля таго маэстра ілюзіі галантна правёў сваю напарніцу ў ілюзійную скрыню, у сценках якой былі прарэзаныя адтуліны для аблічча, далоняў і ступняў, а ўнутры — зверху і знізу былі адмысловыя кайданкі, каб прыкуць таго, хто будзе там змешчаны.

Некалькімі рухамі фокуснік прыладзіў кайданкі на рукі і ногі асістэнткі, далоні і ступні якой былі высунутыя са скрыні і рухаліся. На твары красуні зіхацела

ўсмешка нават тады, калі маэстра-фокуснік паклаў скрыню гарызантальна, пачаў працінаць яе шырокімі плоскімі жалезнымі квадратамі. Такім чынам, скрыня аказалася падзеленая на тры часткі — верхняя з галавой і рукамі, паяснічная частка і ногі. Ілюзіяніст крыху адсунуў кожную разрэзаную частку адну ад адной і правёў паміж імі жалезнай прыладай. І раптам паклікаў з залы нахабнага і дзёрзкага маладога чалавека ўзысці на сцэну. Той з адкрытай паблажлівасцю ўзышоў. Потым артыст папрасіў падысці «ахвяру» інтэрактыву да верхняй частцы скрыні з ілюзіяністкай, дзе размяшчалася яе аблічча, і прасунуць у адтуліну, з якой была высунутая яе далонь, сваю і выцягнуць тое, на што яна натрапіць. Хлопец так зрабіў і... выцягнуў верхнюю частку купальніка асістэнткі. Паблажлівасць і самаўпэўненасць змяняліся здзіўленнем. У зале запанавалі іранічныя заўвагі і нягучны смех. Потым артыст прапанаваў падысці да ніжняй частцы скрыні з ілюзіяністкай, дзе размяшчаліся яе ногі, і зрабіць тое самае... гэтым разам хлопец выцягнуў адтуль панчоху ілюзіяністкі. Знерваваўшыся, разгублены малады чалавек адышоў ад скрыні, і ў той момант ягоныя штаны зваліліся да самага абутку. У зале запанаваў рогат. Хлопец не вытрымаў і кінуў новапрыдбаныя артэфакты і пабег, каб схавацца за вялікую фіранку ад публічнага сораму. Яго суправаджалі разнастайныя каментары гледачоў.

Тады ілюзіяніст хуткімі рухамі склаў тры часткі скрыні ў адну, перавярнуў і паставіў гарызантальна, адкрыў, зняў кайданкі з рук і ног непашкоджанай фокусам дзяўчыны і выпусціў яе. Вачам усіх прысутных прадстала артыстка, у якой замест верхняй часткі купальніка красаваліся два прымацаваныя да грудзей сардэчкі з кутасікамі пасярэдзіне, вакол тулава была зашпіленая мужчынская дзяга, панчоха была толькі на адной назе, а вакол другой нагі ў самым нізе быў зашпілены мужчынскі ручны гадзіннік. Дзяўчына зрабіла піруэт і зняла цыліндр з галавы, а потым артыстычна пакланілася публіцы, прычым кутасікі з сардэчак крышачку схіліліся долу.

Гледачы пляскалі і цешыліся майстэрству, а таксама тэатралізаваным і гумарыстычным варыяцыям, якімі маэстра абставіў здаўна вядомы цыркавы нумар.

Раптам ілюзіяніст гучна і сур'ёзна прамовіў:

— Лера, аддай, калі ласка, шаноўнаму госцю ягоныя рэчы! Як жа ён пойдзе дадому без дзягі і гадзінніка?

У зале ўзняўся яшчэ большы рогат і пляскание, пад якія засмучаны і пачырванелы малады чалавек пабег да выхаду, прасоўваючы дзягу ў свае штаны...



*Эдуард Галустаў. «Медэя»*



## Сяргей Белаяр

**празаік. Друкаваўся ў часопісах «Верасень» і «Маладосць», тыднёвіку «ЛіМ», альманаху «Своя стихия». Нарадзіўся ў 1978 годзе ў Брэсце. Жыве ў Брэсце.**

# DEUS EX MACHINA

Оберлейтэнант васемнаццатага пяхотнага палка «Вестфальскай дывізіі» Гюнтэр Шмітцар, народжаны Навум Хейфец, пакурчыўся і шчыльней захутаўся ў шынель. Падшэўка з шэрай саржы зусім не грэла — снежаньскі вецер, які ўрываўся пад тэнт «Opel Blitz», прабіраў да самых костак. Не лепшым варыянтам для «рускай зімы» былі і боты з хромавай скуры. «Фрыцы» падбівалі іх жалезнымі цвікамі...

Байцы спецгрупы НКВД, пераапранутыя ў трафейную форму Вермахта, займаліся хто чым — хтосьці курыў, закрываючы папяросу ад скразняка рукой, хтосьці, прываліўшы спіной да драўлянага борта, драмаў, хтосьці нягучна перагаворваўся, хтосьці правяраў зброю. Ніякага мандражу — людзі сабраліся вопытныя, правераныя ў справе і адданыя Ідэі цалкам. Не падвядуць.

МР-38 так і хацеў спаўзці з каленаў — дарога была лясной, а варанёная сталь, пакрытая інеем, — халоднай і слізкай. Оберлейтэнант прытрымліваў пісталет-кулямёт рукой у тонкай ваўнянай пальчатцы. Для рукаяці і засаўкі яна зручнейшая за рукавіцу, аднак, пальцы мерзнуць. Фуражка — не шапка-вушанка, глыбей не нацягнеш. Іншым даводзілася яшчэ горш — штальхельмы ад марозу не ратавалі.

Байцоў для выканання загаду Стаўкі адбіралі з «арыйскай» знешнасцю — хоць цяпер на агітацыйны плакат Гебельса. Ніякіх «хіві» — добраахвотных памочнікаў з мясцовых. Ніякіх германскіх сатэлітаў. Усё павінна паказваць на немцаў. Самога лейтэнанта дзяржбяспекі можна было аднесці да заходняга тыпу еўрапеоіднай расы па класіфікацыі фашысцкага псеўдавучонага Гюнтэра.

— Блц...ь! — кола грузавіка ўляцела ў чарговую яму, і машыну скаланула мацней звычайнага.

— Руйтэль, — звярнуўся да байца раззлаваны Хейфец на нямецкай мове, — яшчэ адно слова па-руску, і я асабіста прыстрэлю цябе за невыкананне загаду.

— Вінаваты, гер оберлейтэнант. Выбачайце! — каржакаваты баец з кулямётам MG-34 прамакнуў пальчаткай прыкушаны язык. Шэрсць афарбавалася крывёю.

Ускладненняў не прадбачылася, але будзе нават лепш, калі ў Багнічах спецгрупа сустрэне ўзброены адпор. Гэта надасць налёту большую праўдзівасць. Масы трэба разварушыць, падштурхнуць да актыўнага супраціву акупантам. Якую цану давядзецца пры гэтым заплаціць, не мела ніякага значэння: сотня, тысяча і нават мільён жыццяў савецкіх грамадзян — не ў лік.

Бабы яшчэ нараджаюць...

— Усім прыгатавацца! — распарадзіўся лейтэнант дзяржбяспекі, кінуўшы погляд на наручны гадзіннік. — Пад'язджаем.

Расслабленасці як і не было.

Шырокім народным масам ва ўсе часы адводзілася роля простых статыстаў — для Хейфеца жыхары Багніч, як і спаленых раней Мастоў і Краснаб-

роднага, з'яўляліся ўсяго толькі расходным матэрыялам, пешкамі, якімі можна ахвяраваць без усякага шкадавання. Наіўныя дурні іншай долі і не заслугоўвалі. Гэта ж трэба паверыць, быццам да іх камусьці ёсць справа... «Фабрыкі — рабочым, зямлю — сялянам». На твары лейтэнанта дзяржбяспекі з'явілася ўсмешка. Да лозунга варта было б далучыць «прывілеі бальшавікам»...

Мэта апраўдвае сродкі.

Хейфец быў гатовы падпісацца пад словамі Макіявелі абедзвюма рукамі.

Са свайго месца оберлейтэнант бачыў, як ішоўшыя ў ар'ергардзе калоны «Bussing-NAG» і «Mercedes-Benz» звярнулі направа і налева. Багнічы бралі ў кола. З дзіркамі — перад нешматлікімі выжылымі ў масакры ставілася задача распавесці пра злачынствa немцаў іншым. Каб ведаў увесь свет.

«Opel Blitz» пачаў скідаць хуткасць, а праз тры ці чатыры хвіліны, як быццам адчуваючы набліжэнне бяды, забрахалі сабакі. Багнічы былі невялікія — нейкія два дзясяткі хат, але сабак у вёсцы хапала. І зараз яны ўсе ірваліся з прывязі.

— Павесялімся, — выскаліўся Руйтэль. Эстонец быў не адзіным у спецгрупе, каму падабалася забіваць. Нядзіўна, што сваю работу ён заўсёды рабіў «на выдатна». Ні аднаго з байцоў ягоныя словы не абурылі. Тыя з іх, хто быў слабейшы духам, знаходзілі апраўданне сваім дзеянням у тым, што мясцовыя жыхары, калі і не радаваліся новай уладзе, дык ставіліся да яе без варожасці. Хай бы толькі Заходняя Украіна і Заходняя Беларусь, якія толькі нядаўна ўвайшлі ў СССР. Або буржуазныя Літва, Латвія і Эстонія...

Дваццаць чатыры гады мінула з перамогі сацыялістычнай рэвалюцыі, а людзі так лепшымі і не сталі.

Размаляваныя вапнай грузавікі з «балкенкройцамі» на кабінах, раскідваючы снег, заехалі ў Багнічы падобна таму, як тумен Чынгісхана ўваходзіць у захоплены горад. Хейфец злавіў сябе на тым, што яму падабаецца аналогія. Яны і былі манголамі. Новымі манголамі. І галоўная іх зброя — ардынская нялюдскасць, даведзеная да дасканаласці.

Калона спынілася, і з грузавікоў пасыпаліся байцы. Кожны ведаў, што яму трэба рабіць — лейтэнанту дзяржбяспекі заставалася толькі назіраць за зладжанымі дзеяннямі падначаленых і сачыць за тым, каб самому не трапіць пад шалёную кулю.

Крыкі, лаянка, стрэлы, звон бітага шкла, спалоханыя крыкі, слёзы, скулёж...

Байцы ўрываліся ў хаты і без тлумачэння прычын выцягвалі гаспадароў на мароз, каб прыкладамі і штурхялямі гнаць іх да пакрыевелай драўлянай царквы без купалоў — калгаснага свірана. Іншых буйных пабудоў, здольных змясціць больш за сотню чалавек разам, у вёсцы не мелася.

— Гер оберлейтэнант, гэта нейкае непаразуменне! — у чатырох метрах ад Хейфеца Руйтэля падсечкай зваліў спехам апранутага мужчыну ў гадах. І адразу наваліўся на яго, заломваючы рукі за спіну. Па-нямецку незнаёмец гаварыў карава.



— Хто такі? — гультаявата пацікавіўся лейтэнант дзяржбяспекі.

Обершютцэ, прыціснуўшы селяніна каленам, за валасы падняў галаву незнаёмца. Кулямёт боўтаўся ў эстонца на баку і здаваўся цацачным.

— Старшыня... — мужчына выплюнуў снег, з-за чаго яго гаворка стала больш выразнай. — То бок мясцовы стараста я. Іван Богуш... Усе жыхары Багніч даказалі сваю лаяльнасць Германскаму Рэйху, і гер палкоўнік Дземлінг запэўніваў мяне, што...

Дзесьці за спіной Хейфеца ляпнуў дуплет з паляўнічай стрэльбы, а праз дзве ці тры секунды рванула «ляскотка». Былы старшыня здрыгануўся ўсім целам і закапаўся тварам у снег, а лейтэнант дзяржбяспекі толькі ўсміхнуўся. Сяляне ўключыліся ў гульню, і дрэйдл закруціўся.

— Дык у чым жа цябе запэўніваў палкоўнік Дземлінг? — удакладніў Хейфец. Наваяўлены стараста выклікаў у лейтэнанта дзяржбяспекі агіду. Хутка перафарбаваўся, гніда. І як толькі такога не выкрылі ў трыццаць сёмым?

Яўная недапрацоўка Камісарыята.

Прамаруджванне з адказам каштавала Богушу адчувальнага ўдару па нырках. Стараста завыў, хоць Руйтэль пусціў у ход усяго толькі кулак, а не бакелітавы прыклад кулямёта, і забалбатаў:

— Гер палкоўнік Дземлінг сказаў, цяпер Багнічы знаходзяцца пад пратэктаратам Вермахта, і нам няма чаго баяцца.

— Вось як? — нясцерпна хацелася раздушыць здрадніка. Як расчавіць ядавітую змяю, якая збіраецца ўкусіць. — «Пратэктарат Вермахта»... А чаму не пратэктарат Рэйха? Як Багемія і Маравія?

— У нас і папера адпаведная маецца! — былы старшыня не ўлавіў іроніі.

— «Папера», значыць... — Хейфеца ўзяла злосць. Ён з такой сілай сціснуў рукаяць MP-38, што драўляныя шчочкі затрашчалі. Ніякай свядомасці. Як і ў большасці абывацеляў, такому будзе добра пры любой уладзе. Абы яна яго не кранала.

— Не варта сумнявацца, гер... — стараста, угледзеўшыся ў твар оберлейтэнанта, запнуўся. Затым вочы Богуша пашырыліся. — Вы не немец...

— Страшна, іуда? — выскаліўшыся, перайшоў на рускую лейтэнант дзяржбяспекі. Па вялікім рахунку, камуфляж Хейфеца мог падмануць толькі немцаў. Мясцовыя без цяжкасці распазнавалі семіцкія рысы твару суайчыннікаў. Таму фашысты і спадзяваліся на «паліцаяў» у гэтым пытанні. — Бачу, што страшна... Атрымаў свае трыццаць срэбранікаў?

— Куды? — спыняючы спробу падацца назад, эстонец узмацніў нацiск на спіну. Былы старшыня як быццам трапіў пад гідраўлічны прэс. Яшчэ ледзьледзь — і хрыбетнік зламаецца.

— Разлічваў, што Савецкая ўлада забудзе пра цябе? — лейтэнанту дзяржбяспекі прыносіла ні з чым непараўнальнае задавальненне назіраць за тым, як на розум Богуша накідваюцца хімеры, што жылі да сёння ў самых змрочных глыбінях падсвядомасці. Накідваюцца і пачынаюць рваць кіпцюрамі розум. — Думаў, табе сыдзе з рук здрада?

Калі былому старшыні і было што сказаць у сваё апраўданне, страх пазбавіў яго дара мовы. Хто б мог падумаць, што бальшавікі вернуцца? Вермахт жа дайшоў да самой Масквы...

— Рахункі павінны быць сплачаны, — пераход на нямецкую мову паслужыў для Руйтэля сігналам: косткі шыі старасты хруснулі, калі эстонец са злавеснай усмешкай зламаў яму шыю.

Хейфец выкінуў былога старшыню з галавы яшчэ да таго, як труп упаў на снег. Ніякіх згрызот сумлення не будзе. Ні цяпер, ні пазней. Навошта перажываць — нават не па ворагу, а па пустым месцы? Такія, як Богуш, заслугоўваюць увагі не больш, чым пылінка на пінжаку.

Тым часам у вёсцы зацараваў сапраўдны хаос. Страх сялян падсілкоўваў кураж байцоў спецгрупы. Яны настолькі артыстычна ігралі карнікаў, што заслугоўвалі Сталінскай прэміі. Каб не загад камандавання, нікога б не выпусцілі з вёскі...

Дзіця гадоў дзесяці, правальваючыся ў гурбы бацькаўскімі валёнкамі, рванула ў лес. Байцы крычалі і стралялі ўслед. Калі б хацелі — трапілі б.

— Падпальвайце! — загадаў лейтэнант. Час быў ворагам спецгрупы. Маглі з'явіцца сапраўдныя немцы.

— Слухаюся, гер оберлейтэнант! — Руйтэль ірвануў з месца, і праз кароткі прамежак часу, быццам казачныя драконы, успыхнулі два пераносных ранцавых «Flammenwerfer 40 klein». Палегчаны агнямёт падыходзіў для выканання пастаўленай задачы як м ага лепш — ад гаручай сумесі «Flammol Nr.19» і сціснутага азоту драўляныя хаты ўспыхвалі як запалкі.

Ад бабскага выцця і дзіцячага плачу закладвала вушы, аднак для Хейфеца не было музыкі саладзей. Дрэйдл круціўся ўсё хутчэй і хутчэй — алтар забарвяніўся ахвярнай крывёю: адзін з байцоў прапароў штыком старую, якая кінулася на яго ў спробе абараніць мужчыну з самаробнай мыліцай. Аднаногі не мог перасоўвацца хутка, і Руйтэль з яшчэ адным обершютцэ накінуліся на інваліда і сталі жорстка збіваць яго, шалеючы ад злосці...

Час — грошы. Да надыходу цемры трэба было яшчэ паспець у адно месца.

Старая схапілася рукамі за рану і пахіснулася, але не ўпала. Толькі крывілася ад болю. Штык да вінтоўкі Маўзера не ішоў ні ў якое параўнанне з вострым чатырохгранным штыком «трохлінейкі», аднак боль павінны быць пякельным...

Звярыны нюх на небяспеку штурхнуў лейтэнанта дзяржбяспекі пад плот. У тое месца, дзе толькі што знаходзіўся Хейфец, ударыў яркі цеплавы прамень. Па спіне і руках, якія прыкрывалі галаву, забарабанілі кавалкі мерзлай зямлі і аскепкі лёду.

Успомніўся інжынер Гарын з рамана Талстога. Вынаходнік гіпербалоіда...

Лейтэнант дзяржбяспекі перакаціўся і, лыпаючы вачыма па баках у пошуках ворага, дастаў пісталет-кулямёт.

Істота, якая выйшла з лесу з дзіўнага выгляду зброяй у руках, нагадвала пародыю на чалавека. І гэтая пародыя рухалася з грацыяй, якая выдавала цяжкую хваробу або сур'ёзнае раненне.

Чужынец (а ў тым, што такі нарадзіцца на Зямлі не мог, Хейфец не сумняваўся) зрабіў новы стрэл. Ад эстонца засталося толькі невялікае воблака крывавай дробнадысперснага туману...

Другі обершютцэ ўскінуў «Mauser 98» і пачаў страляць. Праз дзве ці тры секунды да байца далучыліся таварышы. Лейтэнант дзяржбяспекі таксама націснуў на спускавы кручок.

Якім жа было здзіўленне Хейфеца, калі ўсе кулі, высекшы іскру, адрыкашэцілі ад бліскучага як алюмініевая фальга камбінезона прышэльца. Чужынец нават не пахіснуўся... А вось страляў ён трапна — адзін за адным байцы спецгрупы ператвараліся ў барвовую пару. І адбывалася гэта з хуткасцю, за якой не паспявала вока.

— Агню! — не сваім голасам закрычаў лейтэнант дзяржбяспекі.

Ударыла толькі адна бруя, аднак і гэтага аказалася дастаткова — гаручая сумесь саванам ухутала чужынца...

Хейфец выдыхнуў, пасля чаго прыклаў да твару жменю снегу. І адкуль толькі гэты вырадак узяўся? І хто гэта наогул такі?

Лаянка і частыя воплескі стрэлаў прымусілі сэрца лейтэнанта зваліцца ў прорву забыцця. Нават не падымаючы галавы, Хейфец мог з упэўненасцю сказаць, што чужынец жывы. І як такое толькі магчыма?

Лейтэнант падняў МР-38, аднак стрэліць не паспеў — асляпіла ўспышка на мільён свечак, а затым сын тытана Япета і Клімены Атлант апусціў на Хейфеца купал неба...

Оберлейтэнант не памёр. І нават не страціў прытомнасці. Але весці бой больш не мог — рукі і ногі не слухаліся, пазваночнік нібы патрапіў пад пяцівежавы танк Т-35, з галавы адпампавалі ўсё паветра...

Снег, платы, хаты, дрэвы, неба чамусьці зрабіліся крывава-чырвонымі. Такім жа колерам наліўся і пісталет-кулямёт.

Хейфецу зусім не да месца падумалася, што віной усяму — крыўда. Нават не яго ўласная, а тых, для каго ўказам імператрыцы Кацярыны II Аляксееўны Вялікай была праведзена «рыса пастаяннай яўрэйскай аселасці». Усе іх дзеянні дыктаваліся помстай за знявагу.

І гэтая помста неапраўдана зацягнулася...

З усёй спецгрупы застаўся адзін толькі яе камандзір. Лейтэнант дзяржбяспекі адхілена назіраў, як сяляне, не баючыся, абступілі чужынца. Так у чаканні падарунка Дзеда Мароза атачаюць дзеці...

Мясцовыя нешта казалі чужынцу, і ён разумеў іх. І не проста разумеў, але яшчэ і адказваў, не адкрываючы бязгубага рота.

Хейфеца накрыла істэрыка. Помста адбылася. Аднак зусім не такой яна ўяўлялася лейтэнанту дзяржбяспекі...

А дрэйдл працягваў набіраць абароты, пакуль не заняў сабой увесь Сусвет...

*19-24 снежня 2017 г.*

# Аўтобус №18

Злы вецер бізуном ударыў па аргшклу, прымусіўшы Маргарыту Верас тузануцца ды мацней прыціснуць да грудзей плюшавую цацку. У шчыліны сыпаўся снег і залятаі кроплі дажджу. Ад доўгага стаяння на мокрай плітцы мерзлі ногі. Вось толькі сядзець на вузкай лаве — яшчэ горш.

— Табе холадна, Зайка? — дзяўчынка расшпіліла куртку і сунула цацку за пазуху. — Пацярпі, хутка будзем дома. Я зраблю нам чай з малінай. Табе нельга хварэць — ты слабы.

Хутка цямнела, а аўтобуса да гэтага часу не было. Пяцікласніца не ведала, колькі часу, — акумулятарная батарэя ў старэнькім мабільным тэлефоне разрадзілася. Спытаць у мужчыны, які драмаў на лаўцы і ад якога смярдзела вінам, ды занятых выключна сабой двух падлеткаў, Верас пасаромелася. А больш нікога на прыпынку не было.

— Хутчэй бы ён прыйшоў! — ад дрыжыкаў дзяўчынка пачала прытанцоўваць.

Пасля смерці бабулі — самага любімага пасля мамы чалавека — пяцікласніцу забірала са школы маці. Але сёння яна патэлефанавала і сказала, што затрымаецца. Швейная фірма атрымала тэрміновую замову, і сысці з працы было нельга. Інакш маму маглі звольніць. Разлічваць на бацьку не прыходзілася — гарэлка заўсёды стаяла ў яго на першым месцы.

— Прынцэска, едзь дадому сама, — загадала мама зрывістым ад трывогі голасам. — Сядзеш на сорак чацвёрты аўтобус. Давядзецца, праўда, трохі прайсціся. Трымайся на вачах у людзей і нічога не бойся. Калі што — тэлефануй мне.

Прынцэскай Маргарыту назвала бабуля. Вельмі ўжо дзяўчынцы падабаліся размалёўкі з малюначкамі казачных прынцэс. А ў сукенцы, падоранай дзядулем і бабуляй на пяць гадоў, яна была як самая сапраўдная прынцэса. Такой прыгожай не мелася ні ў каго ў яе дзіцячым садку.

Першая самастойная паездка...

Сэрца калацілася аб рэбры, як вольная птушка, якая рвецца з клеткі. Рукі дрыжалі. А яшчэ хацелася есці. На жаль, крамка была зачынена, а да магазіна ісці далёка.

Міма прыпынку цяклі аўтамабілі. Верас зайздросціла пасажырам — у салоне было цёпла, светла і суха. І галоўнае — ні кропелькі не страшна.

— Калі я вырасту, таксама куплю сабе машыну, — пяцікласніца пацягнула ўверх замок курткі. Як жа холадна. Ніколі раней дзяўчынка не вярталася дадому адна так позна. У мамы атрымалася патэлефанаваць толькі праз паўгадзіны пасля заканчэння ўрокаў. Увесь гэты час Верас прастаяла ля акна побач з гардэробам, зайздросцячы тым, за кім прыходзілі маці. Ці бабулі... Кагосьці забіралі абодва бацькі. Якімі ж шчаслівчыкамі былі такія вучні.

У суседзяў па пад'ездзе сваіх праблем хапала, настаўнікі выхоўвалі ўласных дзяцей, мамчыны знаёмыя ўсе былі занятыя. Прасіць сяброў таты — без сэнсу. Хто для іх Маргарыта? Нап'юцца і заснуць, як мужчына, каторы прываліўся да рэкламнага постэра, не заўважаючы ні холаду, ні дажджу са снегам.

Дзе ж той аўтобус?

Пяцікласніца, падтрымліваючы цацку дзвюма рукамі, у каторы раз асцярожна падышла да праезнай часткі ў надзеі ўбачыць доўгачаканы транспарт. Нічога, толькі паток легкавых і грузавых аўтамабіляў.

Яшчэ праз паўгадзіны на вочы дзяўчынкі навярнуліся слёзы. Чаму аўтобус так доўга не едзе? Няўжо адбылася аварыя?.. Верас было холадна, страшна і самотна — п'яны мужчына, пагойдваючыся і нешта мармычучы сабе пад нос, сышоў, падлеткі не сталі чакаць тралейбуса і з'ехалі на маршрутным таксі.

У дзяўчынкі быў з сабой рубель, які мама дала на салодкае, аднак пяцікласніца не ведала, якая «маршрутка» можа давезці яе да дому. А спытаць няма ў каго.

Калі б акумулятарная батарэя не разрадзілася, Маргарыта патэлефанавала б маме і пра ўсё даведалася.

Дзяўчынка выцерла азяблай далонькай слёзы і пачала калыхаць цацку, нягучна запеўшы бабуліну калыханку:

— Купалінка, купалінка, цёмная ночка, цёмная ночка, дзе ж твая дочка?

Вецер шкуматаў куртку, цягнуў за заплечнік з феямі вінкс, стараўся адшукаць шчыліну, каб адабраць апошнія драбкі цяпла. Пяцікласніца хуталася і прытупвала. Пры думцы аб бабулі засумавала. Чаму любімыя людзі сыходзяць? Спачатку — дзядуля, а праз год і бабуля. Засталася адна толькі мама.

Скрозь слёзы адубелая пяцікласніца не адразу ўсвядоміла тое, што да прыпынку нарэшце пад'ехаў аўтобус. Не сорак чацвёрты — на табло-інфарматары свяціліся лічбы 1 і 8. Але, можа быць, ён таксама едзе ў бок дома?

На хаду, хаваючы цацку ў заплечнік (не хапала толькі страціць яшчэ і Зайку), дзяўчынка заскочыла на прыступку пярэдніх дзвярэй і, заікаючыся ад хвалявання і дрыжыкаў, звярнулася да вадзіцеля:

— А вы едзеце на Кляновую, чатырнаццаць?

Вадзіцель прамаўчаў. У бок пяцікласніцы ён нават не паглядзеў. Напэўна, не пачуў: рухавік працаваў занадта гучна, ды і ад аўтамабіляў шуму было шмат.

— Вы едзеце на Кляновую, чатырнаццаць? — паўтарыла дзяўчынка гучней.

І тут дзверы без папярэджання пачалі закрывацца. Спалохаўшыся, Верас нырнула ў салон. Створкі за яе спіной пстрыкнулі, як велізарныя сківіцы, і аўтобус стаў набіраць хуткасць.

— А гэты аўтобус едзе на Кляновую, чатырнаццаць?

У салоне сядзелі і стаялі некалькі чалавек, аднак ніхто не адказаў. Мужчыны і жанчыны працягвалі таращчыцца ў вокны, як быццам у іх паказвалі нешта цікавае. Але там былі толькі цёмна-шэрыя і чорныя дамы.

— Калі ласка, скажыце, мы прыедзем на Кляновую вуліцу, дом нумар чатырнаццаць? — школьніца падвысіла голас. Адказу зноў не было. Пасажыры нагадвалі манекены — у магазіне, дзе мама купляла Маргарыце кофту, былі такія ж. Нерухомыя пластыкавыя фігуры з нічога не выказваючымі тварамі.

Страх ледзяной рукой сціснуў сэрца дзяўчынкі і пацягнуў яго ў ніз жывата. Пасажыры выглядалі як нежывыя.

Так не бывае!

Ніхто не стане вазіць мерцвякоў па горадзе. Нябожчыкі павінны ляжаць у зямлі. Як ляжаць дзядуля з бабуляй.

А аўтобус ехаў усё хутчэй і хутчэй — усе святлафоры чамусьці гарэлі зялёным. І ехаў зусім не туды, куды было патрэбна Верас.

Пяцікласніцу кінула ў гарачыню. Горад яна ведала вельмі дрэнна. Дзяўчынка падскочыла да кабіны і прынялася біць далонькай па зачыненаму вакну. З горла вырваўся крык:

— Выпусціце мяне, калі ласка! Мне трэба ў іншы бок!

Вадзіцель у люстэрку задняга віду выскаліўся, і дзяўчынка ў жаху адскочыла. На яе глядзеў шкілет у абшарпанай клятчастай кашулі. Гнілая скура звісала лахманамі, адно вока боўталася на тонкай нітачцы нерва, з другога сачыліся гной і кроў. Страшней за ўсё былі бялявыя чарвякі, якія мітусіліся ў ноздрах...

Каленкі затрэсліся, і Верас, не памятаючы сябе ад страху, адхіснулася. Вадзіцель, як ні ў чым не бывала, працягваў усміхацца, дэманструючы жоўтыя крывыя зубы. І ціснуў на газ — будынкі літаральна праляталі міма аўтобуса.

— Ой, мамачка... — піскнула пяцікласніца і падалася назад, не ў сілах адарвацца ад чэрапа, які шчэрыўся, і над якім віліся велізарныя чорныя мухі. Яны здаваліся такімі вялікімі, што іх лёгка можна было прыняць за крумкачоў. Некаторыя з іх ляніва біліся ў шкло.

Шум ад жаночай сумачкі, якая ўпала на падлогу, прымусіў дзяўчынку здрыгануцца і азірнуцца. Пасажыры абудзіліся ад сну і пацягнуліся да яе. Іх рукі з чорнымі пазногцямі былі падобныя на засохлыя карані.

Чалавечага ў мужчынах і жанчынах не засталося нічога.

— Матуля, дапамажы мне! — смурод ударыў па носе. Пяцікласніца кінулася да дзвярэй і паспрабавала адчыніць іх. З роўным поспехам яна магла драпаць сцяну. Гумовы ўшчыльняльнік прама на вачах зацвярдзеў настолькі, што яго не ўзяў бы і нож. Парэнчы ашчаціпіліся сотнямі вострых іголак. Па брудным шкле пабеглі расколіны, якія сталі металічнай сеткай.

Не разарваць.

Хваля жаху накрыла Маргарыту з галавой. Сэрца грукатала з такой вар'яцкай хуткасцю, нібы збіралася праламаць грудную клетку.

Азірацца было не варта — пасажыры ішлі да дзяўчынкі. Перасоўваліся яны не без цяжкасці. Быццам маленькія дзеці, якія робяць першыя крокі. Ці як старыя, якія забыліся на тое, як хадзіць...



— Не чапайце мяне! — завішчала Маргарыта, уціскаючыся ў перагародку вадзіцельскай кабіны. — Матуля, ты дзе? Выратуй мяне!

Аўтобус наляцеў на яміну, і пасажыры паваліліся, як кеглі. Пяцікласніцу кінула наперад, але яна паспела ўхапіцца рукамі за парэнчу. Праўда, пры гэтым да крыві абадрала запясці.

Горада за вокнамі не стала. Наколькі сягала вока, слалася агорнутая полымем пустыня. Гарэлі ў ёй косткі і чарапы. Іх было так шмат, што яны пакрывалі пустыню тоўстым пластом і месцамі нават збіраліся ў цэлыя горы. Неба ад крумкачоў і мух зрабілася чорным.

Стала горача — Рыта імгненна змакрэла, нібы трапіла пад лівень. Мухі пачалі з падвоеным напорам біцца ў шкло. І з кожным імгненнем гэты дробны стук толькі ўзмацняўся.

— Матуля, забяры мяне адсюль!

Мужчыны і жанчыны, зачапіўшыся поглядам за пяцікласніцу і пакідаючы на падлозе лахманы гнілой плоці, пачалі нязграбна падымацца. Дзяўчынка закрыла рукамі вочы ў надзеі на тое, што мерцвякі знікнуць... Аднак вярнуцца на прыпынак не атрымалася. І тады Маргарыта пабегла — задняя пляцоўка была вольнай ад пасажыраў. А яшчэ там меліся дзверы...

Хтосьці ўчапіўся ў заплечнік, і пяцікласніца, завішчаўшы яшчэ гучней, рванулася з усіх сіл. Шлейка не вытрымала і з гучным трэскам адарвалася. Дзяўчынка паляцела на падлогу. Стукнулася балюча, але адразу ўскочыла.

— Зайка! — Маргарыта не магла кінуць сябра аднаго ў бядзе. Так нельга!

Пяцікласніца згрэбла заплечнік, прыціснула яго да грудзей і, адхінаючыся ад лесу рук, пабегла па салоне. А той раптам стаў даўжэць — задняя пляцоўка на вачах неслася прэч. Аўтобус расцягваўся як гумавы. Толькі ў мультфільмах гэта было смешна...

Дзяўчынка бегла, глытаючы слёзы і сутаргава сціскаючы заплечнік з Зайчыкам. Толькі б не выпусціць...

Аўтобус перастаў расці гэтак жа нечакана — пяцікласніца наляцела грудзьмі на сценку. Падручнікі і цацка змякчылі ўдар, аднак Маргарыта ледзь устаяла на нагах. А дзвярэй, да жаху дзяўчынкі, не аказалася.

Адзін контур...

Мёртвыя пасажыры няўмольна насоўваліся, а бегчы было няма куды — задняе шкло пакрывала ўсё тая ж металічная сетка. Ды і чым бы Маргарыта разбіла шкло? Замест малатка на павуціне разгойдваўся гідкі злосны павук.

Усмешка вадзіцеля станавілася ўсё шырэйшай, пакуль не заняла сабой увесь гарызонт.

— Матуля, чаму ты не ідзеш? — пяцікласніца закрылася заплечнікам у марнай спробе спыніць Зло.

Гудзенне мух стала проста невыносным. Пад коламі трашчалі косці і чарапы, языкі агню раз-пораз лізалі аўтобус, ад смуроду тухлых яек не было чым дыхаць.

Заплечнік раптам пачаў варушыцца, а затым і зусім вырваўся з рук. На падлозе пачаў падскокваць і куляцца. І рабіў гэта так спрытна, што Маргарыта, якая сціснулася ў камяк і прыкрывалася рукамі, тузанула за шнурок. Навошта? Не ведала сама.

Гарлавіна расшпілілася, і з заплечніка вылецеў асляпляльны блакітны згустак. Першымі патрапілі пад удар мухі: Зайка (а менавіта ён сядзеў унутры) на велізарнай хуткасці ўрэзаўся ў чорную хмару. Сотні трупікаў градам абсыпаліся на падлогу. Затым Зайка падрос і ўзяўся за пасажыраў.

Такога пяцікласніца не бачыла нават у мультфільмах: Зайка наляцеў на мужчын і жанчын, закруціў іх у незвычайным танцы, стаў калашмаціць аб столь, парэнчы і падлогу. Косткі і чарапы рассыпаліся ў пыл, клакі адзення і плоці ляцелі ва ўсе бакі...

— Зайка, ззаду! — не сваім голасам закрычала дзяўчынка. Вадзіцель разбіў шкло і, выбраўшыся з кабіны, накіраваўся ў атаку. З кожным крокам ён станавіўся большым — на косткі наліпалі мышцы, вытканыя з агню і дыму. Маргарыта бачыла, як з мільёнаў пустых вачніц вырываюцца чорныя аблачыны і ляцяць да аўтобуса, які цяпер ехаў сам.

Зайка адшпурнуў апошняга пасажыра і адважна кінуўся насустрач ворагу. Яны сышліся на сярэдзіне салона і пачалі люта калашмаціць адзін аднаго. Прагіналіся парэнчы, зрываліся з мацаванняў крэслы, сыпалася шкло...

Дзяўчынка кусала вусны, перажываючы, што нічым не можа дапамагчы Зайку. Вадзіцель быў большы і цяжэйшы за яго, да таго ж у яго выраслі дзве дадатковыя рукі...

Сутычка цягнулася і цягнулася — праціўнікі, разумеючы, што прайграўшага не будзе, біліся адчайна. Аднак, пазбаўлены падсілкоўвання, Зайка неўзабаве пачаў выдыхацца. Ён губляў кавалкі плюшу і сыходзіў яркай блакітнай крывёю.

У нейкі момант вадзіцель падманным рухам паваліў Зайку і сеў на яго з намерам разбіць галаву кулаком, які пераўтварыўся ў молат. Пяцікласніца не магла заставацца на месцы — сябру патрабавалася дапамога.

Маргарыта ўскочыла і ўдарыла вадзіцеля мабільным тэлефонам. Прытомнасці той не страціў, аднак на імгненне забавіўся , адкідваючы дзяўчынку свабоднай рукой.

Зайка вывернуўся і ўдарам лапы прабіў вадзіцелю грудзі. Пяцікласніца бачыла ў Інтэрнэце, як выбухае шалёны агурок. Вадзіцель лопнуў, абдаўшы ўвесь салон пырскамі, якія былі падобныя на нафту.

— Бабуля... — Маргарыта выціснула з сябе ўсмешку. Над дзяўчынкай схіліўся Зайка з тварам бабулі. Ён беражліва выцер дзяўчынцы твар і паклаў лапу на лоб. Пяцікласніцы адразу палягчэла. — Ты вярнулася. Я так рада!

— Усё добра, Прынцэска. Больш цябе не пакрыўдзяць. Пасядзі. Зараз паедзем дадому.

— І дзядуля тут? — узрадавалася Маргарыта. Ёй зусім не здавалася дзіўным, што твар дзядулі наклаўся на твар бабулі. Старыя ўсміхаліся.



— Хіба я мог пакінуць сябра ў бядзе?

Пяцікласніцы стала хораша. Як даўным-даўно, калі бабуля і дзядуля яшчэ былі жывыя.

Зайка паменшыўся і сеў за руль. Пакуль яны ехалі назад, дзяўчынка распавядала бабулі і дзядулю апошнія навіны. За год іх назапасілася вельмі шмат.

Снег і дождж у горадзе не спыняліся, у разбітыя вокны ўрываўся халодны вецер, але Маргарыта радавалася. Аўтобус стаў на бязлюдным прыпынку.

— А чаму мы не едзем дадому?

— Нам далей нельга, Прынцэска, — сумна сказала бабуля і змахнула слязу.

— Чаму нельга? Я хачу, каб вы засталіся!

— Прабач, Прынцэска.

— Тады можна нам з мамай да вас?

— Яшчэ рана. Але, даю табе слова, мы ўбачымся.

Зайка заструменіў блакітным дымам.

— Бабуля, не сыходзь! — пяцікласніца заплакала і сціснула Зайку ў абдымках у спробе ўтрымаць дым. — Калі ласка! Дзед! Стойце!

— Беражы Зайку, Прынцэска, — бабуля і дзядуля спляліся ў двайную спіраль. — Калі табе будзе дрэнна, ён зноў пакліча нас...

— Не, не сыходзьце!

Блакітная спіраль растала ў паветры, а дзяўчынка апусцілася на падлогу і зарыдала ў голас.

— Прынцэска, я ледзь не звар'яцела! — маці ўляцела ў салон і абняла дачку.

— Усё добра, мамачка, — Маргарыта ўсміхнулася.

У пярэдніх дзвярах, побач з вадзіцелем таксі, які сціскаў манціроўку, стаяў тата. Упершыню цвярозы.

*14-17 мая 2018 года*

# Лёд

Міжнародная касмічная станцыя «Венецыя Катарына Дуглас Берні» чамусьці выклікала ў інспектара Дэпартамента пазаземных крымінальных расследаванняў Ратаўта Сарвы асацыяцыю з выкінутым на бераг кашалотам. Магчыма, з-за адсека, які разгерметызаваўся і пужаў сваім падабенствам з ірванай ранай.

Па меры набліжэння трэмбакула «Solvognen-XI» да МКС станавіліся адрознымі featured рознапамерныя абломкі, якія плавалі вакол «Венецыі Катарыны Дуглас Берні». Сарва з паўзамі зрабіў некалькі лічбавых фатаграфій. На першы погляд, на ўнутраны выбух не падобна. Роўна, як і на атаку звонку.

Праверыўшы змесціва чамаданчыка са следчым інструментарыем, інспектар дачакаўся стыкоўкі і праз герметычны стыкоўны пераходнік перайшоў на

борт МКС, дзе яго сустрэлі памочнік капітана, інжынер-механік і інжынер-энергетык. Мужчыны нават не спрабавалі выглядаць бадзёра.

Як другі чалавек пасля капітана, пачаў Сезар Вільялобас:

— Хачу папярэдзіць, спадар інспектар, што штучная сіла цяжару можа знікнуць у любы момант. Абломак ашалёўкі пашкодзіў цэнтрыфугу. Пакуль не скончыцца рамонт, магчыма пазаштатнае кручэнне станцыі.

— Колькі часу зойме рамонт? — кручэнне «Венецыі Катарыны Дуглас Берні» пагражала раскідаць абломкі. Добра яшчэ, што труп зачапіўся за мачту.

— Цяжка сказаць, — пацiснуў плячыма Бедржых Шпрынгл. — Я адправіў наверх усіх тэхнікаў. Пастараемся даць рады як мага хутчэй, але канкрэтных тэрмінаў не назаву.

— Іншыя ахвяры, акрамя прафесара дэ Йонга, ёсць? — Сарва выцягнуў планшэтны персанальны камп'ютар і адкрыў бланк новай справы.

— На шчасце, няма, — адказаў памочнік капітана, уводзячы Сарву да лабараторных модуляў. — У момант разгерметызацыі прафесар дэ Йонг знаходзіўся ў лабараторыі адзін. Праводзіў аналіз даных радыёспектрометра «Мухі».

— «Мухі»?

— Даследчы зонд, — патлумачыў памочнік капітана. — У нас іх восем. Мы з іх дапамогай вывучаем транснептунавыя аб'екты.

— Прычынай гібелі прафесара дэ Йонга не магла паслужыць некантралюемая дэкампрэсія, выкліканая сутыкненнем з мікраметэарытам або касмічным смеццем, напрыклад? — адказы членаў экіпажа Сарва акуратна ўносіў у памяць ППК.

— Выключана, — запэўніў Рычард Андэрвуд. — Карбінавая сетка і ахоўны экран не прапусцяць. Да таго ж, мы вядзем назіранне за подступамі да станцыі ў рэжыме рэальнага часу.

— Вы маглі нешта прапусціць.

— Памеры вочак не дазваляюць прасочвацца скрозь сетку аб'ектам, якія могуць нанесці МКС хоць бы мінімальны ўрон. Прадбачачы вашае наступнае пытанне, спадар інспектар, адказваю: сетку праверылі. І неаднаразова. Ніякіх дзірак. Ахоўны экран не адключаўся.

— У раёне лабараторнага адсека не здзяйснялася ніякіх работ або выпрабаванняў?

— Не, — пакруціў галавой памочнік капітана. — Доктар Катаякоскі строга сочыць за выкананнем правілаў бяспекі.

— Няма правіл без выключэння.

— Мне незразумелы ваш скепсіс, спадар інспектар, — памочнік капітана звёў бровы на пераноссі. — З гэтым у нас вельмі строга, запэўніваю вас. Такімі рэчамі не жартуюць.

Мяркуючы па змрочных тварах членаў экіпажа, патрабаваліся тлумачэнні.

— Рэгламент патрабуе ад мяне адпрацоўваць усе вер... — скончыць Сарву не ўдалося: падлога і столь нечакана памяняліся месцамі, а затым мужчыны быццам патрапілі ў шэйкер ва ўмелых руках бармэна.



Сарва згрупаваўся, імкнучыся прыкрываць галаву. Сутыкненні з пластыкавымі і металічнымі паверхнямі атрымліваліся жорсткімі. На шчасце, працягвалася дзікае кручэнне нядоўга.

— Ненавіджу гэта паскудства! — пазелянеламу інжынеру-энергетыку спатрэбілася дапамога Сарвы і памочніка капітана, каб падняцца. Андэрвуд трымаўся за локаць і моршчыўся ад болю. На ілбе Вільялобаса брыняў гуз. — Калі ж нарэшце адрамантуюць гэтую чортавую цэнтрыфугу?

— Магло быць і горш, — усміхнуўся інжынер-механік. — Спадар інспектар, як вы?

— Са мной усё ў парадку, спадар Шпрынгл. Дзякую вам за клопат... Спадары, — звярнуўся да памочніка капітана і інжынера-энергетыка Сарва, — вам варта паказацца лекару. І як мага хутчэй. Мяркую, спадар Шпрынгл здолее ўвесці мяне ў курс справы.

Памочнік капітана кіўнуў, і пацярпелыя сышлі.

— Revenons a nos moutons. Працягнем, — супрацьударны корпус і небіткі экран дазволілі планшэтнаму персанальнаму камп'ютару ацалець. — Скажыце, спадар Шпрынгл, у лабараторным адсеку нішто не магло выбухнуць?

— Там няма чаму выбухаць, спадар інспектар. Камп'ютары, прынтары, крыніцы бесперабойнага сілкавання, стабілізатары напружання, капіравальны апарат і іншае камп'ютарнае абсталяванне. Максімум шкоды ад іх — гэта кароткае замыканне і пажар. Пранесці што-небудзь у лабараторыю нумар дванаццаць можна толькі з дазволу доктара Катаякоскі. Ды і няма дзе на станцыі ўзяць выбухоўку і вогненебяспечныя рэчывы. Профіль у нас не той.

— Калідор да лабараторыі і яна сама аснашчаныя сістэмай відэаназірання?

— Інфармацыя з камер паступае на цэнтральны пульт на капітанскім масціку. Відэазапісы захоўваюцца на працягу дваццаці чатырох гадзін, калі не будзе дадатковых указанняў ад доктара Катаякоскі. Хочаце паглядзець відэа прама цяпер?

— Крыху пазней, спадар Шпрынгл. Пасля таго, як агледжу лабараторыю і ўбачу цела. Прычыну смерці прафесара дэ Йонга вызначылі?

— Разрыў лёгкіх і буйныя бурбалкі паветра ў крыві.

— І тое, і другое не пакідала прафесару аніводнага шанцу выжыць, нават калі дапамога падаспела б своечасова... — у планшэтным персанальным камп'ютары з'явілася новая адзнака. — Ваш калега мог пайсці на самагубства?

— Прафесар дэ Йонг? — інжынер-механік паглядзеў на Сарву як на чалавека, які сказаў сусветнае глупства. — Ніколі. Ён быў занадта захоплены навукай. Вам Вільялобас і Андэрвуд тое ж самае скажуць. Хто заўгодна, толькі не прафесар дэ Йонг! Не, не і яшчэ раз не.

— У яго былі ворагі?

— Я хутчэй паверу ў тое, што Сонца круціцца вакол Зямлі, спадар інспектар, чым у тое, што прафесар дэ Йонг мог выклікаць у кагосьці антыпатыю. Наймілы чалавек!.. Звярніце лепш увагу на зварныя швы. Дакладней, на іх якасць.

— Лічыце, справа ў вытворчым браку, спадар Шпрынгл?

— Больш проста няма чаму быць прычынай.

Мужчыны спыніліся перад герметычнай перагародкай, якая адрэзала калідор ад лабараторыі. Сарва прытуліўся да ўстаўкі з алюмасілікатнага шкла. Уваход у лабараторыю замыкаўся звычайнай крэмальернай засаўкай.

— Прафесар дэ Йонг працаваў без асістэнтаў?

— Ён не любіў турбаваць людзей па начах, спадар інспектар. У прафесара дэ Йонга не было выразнага працоўнага графіка.

— Праводзьце мяне да атмасфернага шлюзу, спадар Шпрынгл.

Надзеўшы беласнежны скафандр, — сімбіёз EMU і Biosuit, — Сарва пакінуў станцыю. Чаравікі з магнітнай падэшвай надзейна фіксавалі інспектара на ашалёўцы, а ручныя магнітныя захопы дазвалялі перасоўвацца ў любым кірунку. Галоўнае, каб фал не заблытаўся.

Адлегласць паміж корпусам і ахоўным экранам моцна абмяжоўвала манеўр, і на тое, каб дабрацца ад пашкоджанага сегмента, у Сарвы сышло больш часу, чым ён планаваў.

З лабараторыі выцягнула ўсё, што не было замацавана, з-за чаго адсек здаваўся голым. Сарва адшпіліў фал — пры кручэнні страховачны трос мог захліснуцца і на шыі, а затым забраўся ў лабараторыю, дзе прыступіў да агляду, радуючыся магчымасці правесці выпрабаванне эксперыментальнага прыбора — палеафонаграфічнага гуказдымальніка.

— Што скажаце, спадар інспектар? — пацікавіўся памочнік капітана, калі Сарва вярнуўся на борт. Прысутнічаў таксама інжынер-энергетык, з такім жа халодным кампрэсам. — Брак зварнога шва?

— Festina lente, спадар Вільялобас. Паспешныя высновы вельмі часта прыводзяць да фатальных памылак. Дзе труп?

— Мы трымаем цела на трэцяй грузавой платформе.

— І запрасіце, калі ласка, бартавога медыка.

Прафесара дэ Йонга клапатліва прыкрылі бледна-сіняй медыцынскай прасцінай. Сарва адкінуў яе. Рукі, ногі, жывот і ягадзіцы ўсё яшчэ заставаліся павялічанымі. Скрозь скуру, якая мела сінюшнае адценне, праглядаліся лопнулыя капіляры. Атрымаў навуковец і ўльтрафіялетавыя апёкі.

— Вы хацелі бачыць мяне, спадар інспектар? — лекара, якога суправаджаў інжынер-энергетык, відавочна накіравалі на «Венецыю Катарыну Дуглас Берні» адразу пасля інтэрнатуры.

— Правядзіце аўтапсію, спадар Саліх, — прозвішча Сарва прачытаў на тэкстыльнай нашыўцы на грудзях бартавога медыка.

— Ёсць неабходнасць?

— Рэгламент, — пазбег падрабязнасцяў Сарва.

— Добра, спадар інспектар, я зраблю афіцыйную выснову пра смерць. — Лекару яшчэ трэба было навучыцца кіраваць сваімі эмоцыямі. Не спадабалася.



— Спадар Вільялобас, а зараз я хацеў бы паглядзець відэазапісы, якія тычацца разгерметызацыі лабараторыі нумар дванаццаць.

Члены экіпажа з'явіліся ў калідоры, які вёў да лабараторыі, толькі пасля таго, як адбылася разгерметызацыя. Ніякай панікі і разгубленасці — кожны ведаў, што яму трэба рабіць. Відэазапіс з камеры ў самой лабараторыі пацвярджаў словы інжынера-механіка.

— Я ж казаў, што ўся справа ў браку шва, — не прамінуў нагадаць Шпрынгл. Яго калегі заківалі.

— Спадарства, вы можаце вярнуцца да сваіх абавязкаў, — Сарва не стаў удавацца ў дыскусію. — А я займуся сістэматызацыяй запісаў... Спадар Вільялобас, калі вас не абцяжарыць, праводзьце мяне да медыцынскага пункта.

— Вам кепска, спадар інспектар?

— Хачу сёе-тое высветліць.

Інжынер-механік страсянуў галавой. Затым яшчэ раз, прымушаючы падазраваць, што звар'яцелае кручэнне адбілася і на ім. Аднак усмешка развеяла ўсе сумневы.

Па дарозе памочнік капітана паказаў Сарву выдзелены яму жылы бокс.

— А, гэта вы, спадар інспектар... — пры з'яўленні Сарвы бартавы медык уціснуў недакурак у металічную попельніцу і разагнаў дым. — З афіцыйным заключэннем давядзецца пачакаць.

— Нешта не так, спадар Саліх? — насцярожыўся Сарва.

— У прафесара дэ Йонга быў асматычны шок.

— Вы ўпэўнены, спадар Саліх?

— Сумняваецеся ў маёй кампетэнцыі, спадар інспектар?.. І дарэмна. Мне, можа быць, і не хапае медычнай практыкі, аднак ведаў — звышдастаткова!.. Калі ўсё яшчэ не верыце мне, зірніце самі. — Лекар павярнуў да Сарвы манітор.

Разбурэнне клетак было ў наяўнасці. А гэта азначала, што...

— Папрашу вас трымаць усё ў таямніцы, спадар Саліх.

— Зарба! Сярод нас блукае забойца.

У жылым боксе Сарва падключыў гуказдымальнік да ноўтбука і запусціў праграму расшыфроўкі слядоў акустычных хваль. Вібраакустычны сігнал атрымаўся выразным, але інспектара ён збянтэжыў. Нешта было не так.

Сарва надзеў навушнікі і пачаў перамотваць гукавую дарожку наперад-назад, раз-пораз адбіваючы клавішу прабелу. Нічога падазронага...

Тады чаму інтуіцыя пярэчыць такой выснове?

Толькі праз паўгадзіны, выкарыстаўшы пасекундны рэжым прайгравання, інспектар нарэшце атрымаў адказ.

Даўшы сабе нейкі час адпачыць, Сарва выцягнуў камунікатар.

— Спадар Вільялобас, запрасіце, калі ласка, да мяне Андэрвуда і Шпрынгла. І самі падыходзьце.

Памочнік капітана не стаў задаваць дадатковых пытанняў, а праз чвэрць гадзіны разам з інжынерам-механікам і інжынерам-энергетыкам пераступіў парог бокса.

— Прафесара дэ Йонга забілі, — паведаміў Сарва, уважліва назіраючы за рэакцыяй членаў экіпажа, але ні адзін з мужчынаў нічым сябе не выдаў. — Злачынца выкарыстаў арыгамі-бот, апрацаваны нанатэхналагічным спрэем «Vantablack», які паглынае амаль сто працэнтаў трапіўшага на яго выпраменьвання, і разак з фулерытавым напыленнем. Ніякага браку шва — арыгамі-бот ускрыў лабараторыю нумар дванаццаць, пакінуўшы толькі тонкі пласт, які выціснула ціскам паветра, і пайшоў за некалькі секунд да разгерметызацыі. Прафесар дэ Йонг не мог выжыць — тэрмарэгулюючае адзенне не разлічана на звышэкстрэмальны холад.

— Пачакайце, спадар інспектар, — страпянуўся памочнік капітана. — А хіба прафесар дэ Йонг памёр не ад разрыву лёгкіх?.. Якое яшчэ замярзанне? У вакууме цяпло адводзіцца павольна.

— Злачынца выкарыстаў бомбу, ядзерная рэакцыя ў якой прайшла з паглынаннем цяпла. Яна спрацавала, як толькі ціск у лабараторыі ўпаў. Паміж разгерметызацыяй і выбухам прайшло менш за секунду.

— Дапусцім, — прыняць дадзенасць аказалася нялёгка. — Але як бомба трапіла ўнутр?

— Пры ліквідацыі непаладак, спадар Вільялобас, — погляды прысутных спыніліся на інжынеры-энергетыку. Андэрвуд збялеў. — Ні прафесар дэ Йонг, ні яго асістэнты нічога не западозрылі. Што можа быць больш натуральным за рамонтныя работы?.. Ускрываць адсек уручную — нязручна, няма дзе развярнуцца. Ды і небяспечна — струмень паветра можа шпурнуць на ахоўны экран. З forum delicti, месца злачынства, хутка не ўцячы, працяглая адсутнасць з вялікай доляй верагоднасці можа быць заўважаная...

— Гэта не праўда! — дрыготкім голасам закрычаў інжынер-энергетык. — Я нікога не забіваў!

— Застаецца толькі арыгамі-бот, — працягнуў Сарва. — Я знайшоў у касмічным пылу на ашалёўцы сляды ад пасадачных апор... Злачынцу абавязкова патрабавалася гарантавана забіць прафесара дэ Йонга — пры звычайнай разгерметызацыі верагоднасць выжыць даволі высокая. Труп павінен быў прагрэцца ля ахоўнага экрана, што дазволіла б замесці сляды. Але... Заўсёды можа ўмяшацца выпадковасць. Калі б цела не зачапілася за мачту...

— Дапусцім, — паўтарыў памочнік капітана, косячыся на ашаломленага інжынера-энергетыка. — Але як злачынец мог кіраваць ботам ва ўсіх на віду?

— Для андроіда гэта нескладана, спадар Вільялобас.

— Які я вам андроід? — абурыўся Андэрвуд. — Я — чалавек! Чалавек!.. Ды і з-за чаго мне забіваць прафесара?

— Ілжывыя ўспаміны. Хоць я не выключаю і сістэмны збой.

— Лухта нейкая!.. Спадар Вільялобас, няўжо вы ва ўсё гэта верыце?.. Скажыце ж яму, што ніякі я не андроід!

На інжынера-энергетыка было шкада глядзець.

— Вы — не, спадар Андэрвуд. А вось спадар Шпрынгл...

— У нас што сёння — свята шызафрэніі? — нахмурыўся інжынер-механік. — Ці вам нядужыцца, спадар інспектар?

— У андроідаў не бывае галавакружэння, спадар Шпрынгл, бо гэта ілюзія, якая выклікаецца інэрцыйнасцю вестыбулярнага апарата. Вы — адзіны, на кім ніяк не адбілася пазаштатнае кручэнне «Венецыі Катарыны Дуглас Берні». Калі б вы былі чалавекам, вадкасць унутры паўкругавых каналаў ціснула б на купалы, а тыя, у сваю чаргу, на клеткі-рэцэптары. Гэта ў чалавека пасля таго, як спыняецца кружэнне, вадкасць па інэрцыі працягвае рух па ранейшай траекторыі. Мозг андроіда не ўспрымае ціск вадкасці як працяг кружэння.

— Зрэшты, нашто было канцэнтраваць увагу на якасці зварнога шва?.. Занадта прамалінейна для чалавека-злачынцы. Ну і, нарэшце, вашы вочы, спадар Шпрынгл. Шмат вы бачылі людзей, здольных трансляваць зрэнкамі белы шум?

*4-10 кастрычніка 2017 года*

# У гасцях у казкі-2:Кіднэпінг

Мабільны тэлефон нагадаў пра сябе ў самы разгар планёркі, калі старшыня СВК «Белавежскі» перайшоў ад разносу трактарыстаў да раздачы «каштоўных» указанняў камбайнёрам.

Песля запнуўся на паўслове і грозна паглядзеў на Цімафея Сцібрака. Вадзіцель паспешліва палез у кішэню шорт, наракаючы на тое, што забыўся адключыць гук. Выклік паступіў па «скайпе». Абанент быў невядомы. Сцібрак дакрануўся да піктаграмы адбою, але працягнуць старшыні не ўдалося. Смартфон зноў разрадзіўся легкадумнай мелодыяй.

— Сцібрак! — ноткі раздражнення ў голасе Песлі не прадвяшчалі нічога добрага. Як і твар, які наліваўся чырванню.

— Прабачце, Кандрат Емяльянавіч! — вадзіцель збіраўся было і зусім выключыць злашчасны тэлефон, аднак па запарцы пераблытаў піктаграмы.

— Гой есі, немец! — узрадавана загарлапаніла варона, якая з'явілася на дысплеі. На яе шыі вісеў масіўны залаты ланцуг, а пёры ўпрыгожвалі залатыя пярсцёнкі. — Маю архіважны гешэфт да цябе.

— Мне трэба выйсці! — Сцібрак літаральна выскачыў у калідор. — Я таксама рады цябе бачыць, Анжыалета! Што здарылася?

— Алярм! — пракартавіла варона, схапіўшыся крыламі спачатку за галаву, а затым і за сэрца. — Нахабна выкрадзена Баба-Яга! Казцы капец!

— Супакойся, Анжыалета!.. Ты ўпэўненая, што Бабу-Ягу сапраўды выкралі?

— Стопудова! Будзь інакш, старая карга даўным-даўно б вярнулася... Толькі ты можаш дапамагчы, немец! Ты ж — герой!

— Як жа я вам дапамагу?

— Зараз накалдую табе партал, — варона знікла з кадра, каб праз некалькі імгненняў вярнуцца з мятлой. — Гэй, шапка блыхастая, што казаць патрэбна?

папярэднюю вышыўку, за аздобу падола той сукенкі ўзялася. Не пашкадавала з уласных запасаў бісер выкарыстаць. На наступны дзень скончыла. Захапілася, амаль не адрываючыся, працавала. Ды і месца вольнага на тым падоле сукенкі не так ужо і шмат заставалася, усяго адна паласа нешырокая.

Толькі скончыла — фея нібыта з паветра саткалася. Паглядзела працу, спадабалася ёй. «Дагадзіла ты мне, — кажа. — Як цябе аддзячыць?»

«Не трэба мне ніякай аддзякі. У мяне ўсё, што захачу, ёсць, — адказвае князёўна. — Дазволь толькі лічыць цябе сваёю сяброўкай».

«Эх, непрактычнае ты дзіцяня! — кажа фея. — Ці мо вельмі сціплае... Але гэта добра, сціпласць. Што датычыць сяброўства — то якія мы сяброўкі, калі мне тры тысячы гадоў, а табе толькі дзевяць. Лепей я тваёю апякункай буду. Пакінь гэтыя каралі ў сябе, калі маё заступніцтва спатрэбіцца, раскусі пацерку, а насенне, што ўнутры знойдзеш, сыпані навокал. А за працу заўжды плаціць трэба. І я заплачу. Не золатам-срэбрам, ці там дыяментамі-перламі, а нечым нашмат даражэйшым. Будзеш ты разумець мову птушак, звяроў і раслінаў. Толькі прыслухоўвайся ўважліва.»

Сказала так, і да князёўны крышталёвай палачкай даткнулася. Відаць, чароўнай, бо зазвінела ў той увушшу, зашапацела, ажно галава ад нечаканасці закруцілася. А сама ж-жу-н-н — і ў вакно вылецела. Глядзіць князёўна, а ў яе на шыі тыя памаранчавыя каралі. Прыслухалася — а за вакном яблыня з вішняй спрачаюцца — хто больш карысны, ды ў каго кветкі прыгажэйшыя, ды плады смачнейшыя. А на галінах яблыні сарока стракоча, нешта шчыглу, які на вішні, распавядае. Ведама — сарокі першыя ўсе навіны даведваюцца, ды па свеце разносяць. Падышла князёўна бліжэй да вакна, напружыла слых, пачула сарочыну навіну. І жахнулася, бо навіна князя, тату ейнага, датычыла. Ён якраз некалькі дзён таму з усёю світай, з княгіняй, ды з гасцямі заморскімі ў Белавежскую пушчу на паляванне паехаў. Не вярнуўся яшчэ.

Сарока трашчала шчыглу, што ў час палявання, для высакародных паняў у пушчы высокі памост пабудавалі. Каб яны ў бяспецы маглі тое паляванне, мужнасць сваіх сужонкаў, назіраць. Паўз яго статак зуброў загоншчыкі прагнялі, а адзін зубр, самы вялікі, дужы і раз'юшаны, ударыў рагамі, ды падпору таго памоста знёс. І паваліўся памост, і са страшэнным віскам пасыпаліся з яго кабеты. І зубр той з налітымі крывёй вачыма панёсся на гэтую віскучую стракатую кучу. І нарабіў бы бяды, каб не сам князь, які ратуючы гасцей і княгіню, бо і яна была на тым памосце, скочыў з каня проста на спіну зубра. І той, калі адчуў на спіне нечаканага вершніка, панёс яго цераз гушчар, імкнучыся скінуць і затаптаць. І гэта доўга не ўдавалася яму, а калі ўрэшце ўдалося, то паддзеў князя рагамі і закінуў далёка ў возера, дзе з дна б'юць сцюдзёныя крыніцы, з-за якіх вада ў возеры халодная ў любую пару года. Не прабіў зубр вострымі рагамі князя, бо той на сабе жалезную кірасу насіў, але з-за кірасы і выплыць не здолеў, жалеза яго на дно пацягнула. Кінуліся ў ваду князевы пахолкі, нырцом да дна, выцягнулі яго на бераг, ён ужо беспрытомны быў. Але знайшоўся сярод гасцей бывалы хлопец, Міколам клічуць, а родам з нейкага Гусава. Зрэзаў ён з князя кірасу, выціснуў ваду з нутра, ды пачаў дзьмуць яму ротам у рот. Закашляўся князь, дыхаць пачаў. Але пасля халоднай вады прычапілася да князя гарачка. Зараз яго ў Нясвіж вязуць, невядома ці выжыве. Надта ўжо гарачка моцная, ды кашаль.



Ускінулася ў роспачы князёўна, забегала па пакоі, не ведаючы што рабіць. Але хутка прымусіла сябе супакоіцца. Узяла ў зубы пацерку з караляў, сціснула. Трэснула яе паверхня, а ўнутры там поўна каменнага насення. Сыпанула насенне перад сабою, і пачула, як за вакном крылы зажундзелі, фея прыляцела, здзіўленая — не прайшло і дзесяці хвілінаў, як развіталіся, а ўжо яе выклікае. Выслухала князёўну і кажа: «Гора тваё сур'ёзнае, правільна зрабіла, што мяне паклікала. Пана князя, тату твайго, можна вылечыць адварам пладоў, якія на дрэвах у далёкай Азіі растуць. Рыхтык такія, як пацеркі на тваёй шыі, толькі не каменныя, а жывыя. Плады гэтыя тамтэйшым валадаром забаронена ў іншыя краіны вывозіць. Іх там людзі са смуглявай скурай ды вузкімі вачыма ахоўваюць. Калі прычэпяцца да цябе — раскусі той плод, ды сыпні ягонае насенне ім за каўнер.

А каб хутка паспець — вунь за вакном табе транспарт.»

Глядзіць князёўна — стаіць у садзе белы конь са страказінымі крыламі. Вылезла праз вакно, каб слугі ды нянькі, ды гувернёры не пабачылі, на догляд якіх яна была пакінута, пакуль князь з княгіняй на паляванні будуць. Ускочыла на каня, узляцеў ён і панёсся ў Азію, ажно грыва развяваецца. Доўга ляцелі, сонца ўжо да заходу хіліцца пачало. Прызямліўся конь у шыкоўным садзе. Там і яблыкі, і грушы, і гарэхі розныя, і такое, што нават назвы князёўна не ведае і не бачыла ніколі. Ходзіць яна па садзе, шукае плады, што на пацеркі, падарунак феі, подобныя. Знайшла нарэшце. Куст як куст. Густы, лісты зялёныя — нічога асаблівага. Толькі ўвесь усыпаны пладамі — рыхтык, як пацеркі на яе шыі. Сунулася рваць, аж не — усе галінкі куста вострымі калючкамі ўсеяны. Села на зямлю, заплакала — што не можа нарваць, так балюча куст колецца. Ды яшчэ лаецца на яе, зладзейкай абзывае. Ціха шапаціць, а князёўна разумее, пра што. Яно і праўда — нядобра, без дазволу ў чужы сад убілася. Ды нічога не зробіш — татава жыццё пад небяспекай, гэта апраўдвае крыху. Паплакала, сціснула зубы, выцерла слёзы — балюча, ды трэба тату ратаваць. І палезла ў куст. Рукі да крыві скалола, вопратку парвала, але нарвала поўныя кішэні.

Тут з'яўляюцца аднекуль вартаўнікі. Людзі, але не такія, як князёўна дагэтуль бачыла. Скура смуглявая, вочы, як шчылінкі, валасы чорныя, як пёры ў груганa, ды цвярдыя, як конская грыва. Спрабуюць схапіць князёўну. А яна раскусіла той плод з калючага куста ды сыпнула насенне з-пад абалонкі ім за каўнер. Заенчылі вартаўнікі, закруціліся, сталі сабе плечы чухаць, на зямлю ўпалі, качаюцца — так ім тое насенне казыча. А князёўна тым часам — скок на свайго крылатага каня, ды і дала лататы. Ляцелі-ляцелі, сонца ўжо за даля-

гляд зайшло. Кажа князёўне конь — маўляў, я не магу ў цемры лётаць, трэба на зямлю апусціцца, да раніцы перачакаць.

Прызямліліся недзе на беразе. Ці то мора, ці то возера — цёмна, не разабраць. Бераг камянямі ўсыпаны, удалечыні нейкая зубчастая сцяна цямнее, мабыць, горы. Пахаладнела. Сабрала князёўна сухой травы і кажа каню, каб ударыў падковай па камені. Ударыў той, з падковы іскры сыпанулі, тую траву запалілі. Ляглі ля вогнішча, грэюцца. Тут чуе князёўна — нібыта нейкія звяры перагаворваюцца, дамаўляюцца, як лацвей іх з канём абкружыць, каб з'есці. Тады выклікала яна фею — пабаялася, што да раніцы можа не дачакацца. З'явілася фея і кажа: «Гэта кракадзілы з возера ды змеі з гор. Вазьмі насенне з жывога плада ды насып дарожку вакол свайго табара.» Як насыпала князёўна дарожку, выраслі з таго насення густыя-густыя, калючыя-калючыя кусты. Такія густыя і такія калючыя, што кракадзілы са змеямі не здолелі да іх падабрацца. Так і распаўзліся, калі неба на ўсходзе ружавець пачало. А князёўна гэтай ночай назву для расліны прыдумала. «Раз усе галіны калючкамі пакрыты, шыпамі вострымі, то хай так і называецца — «шыпшына».»

Не паспела сонца высока падняцца, як з'явілася князёўна ў Нясвіжскім палацы. А там вэрхал — лекараў з розных краёў падвозяць, каб князя ад гарачкі ратаваць. Узрадаваліся ўсе, калі яна вярнулася — ніхто не паверыў чуткам, што князёўна на белым кані са страказінымі крыламі зляцела. Думалі — можа, хто з гувернёраў пакрыўдзіў, пакуль бацькоў дома не было, ды і сышло дзіцяня з дому. Часам так бывае — збягаюць дзеці. Але гэта кепскія дзеці, яны бацькоў не шануюць, бо тыя моцна перажываюць, нават захварэць могуць. Князёўна ж , наадварот — без дазволу дом пакінула дзеля таго, каб бацьку выратаваць ад хваробы.

А князёўна загадала, каб з кухні прынеслі вару. Закінула туды жменю пладоў, закруціла ў кажух, а праз гадзіну, калі вар астыў, дала пану тату выпіць. Праз нейкі час яшчэ. І яшчэ. І здарыўся цуд. Ніякія заморскія лекары не маглі даць рады хваробе, а князёўна здолела. Ацаліўся князь. А князёўна частку тых прывезеных пладоў высушыла — на ўсялякі выпадак. А астатнія па лясах і парках навакольных пасеяла. З тае пары і расце па Беларусі шыпшына. З цягам часу зразумелі людзі, што яна не толькі пладамі лекаваць можа, а і каранямі.

Увесну расцвітае шыпшына прыгожымі духмянымі ружовымі кветкамі, якія не сорамна нават каханай падараваць. Пачалі садоўнікі працу з шыпшынаю, сталі выводзіць новыя гатункі і атрымалі кветкі розных колераў — і белыя, і чырвоныя, і нават чорныя. Толькі гэтыя, новыя, ужо не мелі тых пладоў, што дзікая шыпшына. Гэтыя новыя, выведзеныя штучна, гатункі сталі называць ружамі. Апрача прыгажосці, ружы яшчэ вельмі прыемна пахнуць. І з іх пялёсткаў робяць так званы «ружавы алей». Ён надзвычай духмяны, і з яго самую дарагую парфуму робяць.

Фея потым доўга яшчэ князёўнай апекавалася. Ажно пакуль тая не раскусіла апошнюю пацерку на каралях і не запрасіла фею на сваё вяселле. Князёўна стала княгіняй і апякункай сваіх дзяцей. А калі распавядала ім на сон казкі, гэта заўжды былі казкі пра фею са страказінымі крыламі. Княгіня ў сваіх аповядах называла яе «Шыпшынкай».



# Не бойцеся марыць!

На сонечным баку касагора, за якім сіне-зялёнай сцяноў стаяў лес, раскінулася шырокае поле. Яго засявалі то жытам, то рапсам, то садзілі бульбу. А сёлета пасеялі лён, які хутка ўзышоў, хутка рос, хутка стаў вышынёю больш за метр, і нарэшце зацвіў. Непадалёку ад палетка з ільном, аддзеленае ад яго нешырокай мяжою, размяшчаўся палетак з грэчкай, якая таксама цвіла сваімі ружовымі кветкамі. Над грэчкай увесь дзень гулі пчолы і трапяталі матылі, а над ільном, калі і залятаў хто, то вельмі рэдка. І лён ад гэтага вельмі засмучаўся.

— Якая ты шчаслівая, — амаль штодзень казаў лён грэчцы, — цябе так любяць! Ты прыгожая, я зайздрошчу тваім бела-ружовым кветкам. Эх, як бы мне хацелася, як я мару таксама быць хоць трохі гэткім прыгожым, як ты... Што за лёс мне выпаў — мае кветкі такія маленькія, такія нікчэмныя, што іх ніхто не заўважае.

— Што кветкі? — адказвала яму грэчка. Цвіценне — гэта такі кароткі і нязначны перыяд жыцця, што няма чаго ім асабліва пераймацца. Галоўнае — быць карысным, а з гэтым, як мне падказвае жыццёвы досвед, у цябе будзе ўсё добра. Нават можа лепш, чым у мяне...

Але лён не слухаў яе і ўвесь час скуголіў — ах, які ён няшчасны, непрыгожы, нікому не патрэбны. Вы, шаноўныя чытачы, мабыць, і сярод людзей сустракалі такіх, што бесперапынна скардзяцца і наракаюць на свой лёс? Вось і лён быў гэткі ж. Ажно пакуль не здарыўся адзін выпадак...

На ўскрайку лесу, што рос за касагорам, знаходзілася сядзіба, дзе жыла маладая прыгажуня. Слава пра яе прыгажосць кацілася ажно за далягляд. І калі прыйшоў час, і яна стала дастаткова дарослай, да прыгажуні пачалі сватацца маладыя і не вельмі маладыя хлопцы. Прыгажуня зусім не хацела замуж, не хацела пакідаць тату і матулю, і таму ўсім адмаўляла. Яна была добра выхаванай і рабіла гэта мякка, каб не пакрыўдзіць прэтэндэнтаў на яе руку і сэрца. «Аддаць руку і сэрца» — гэта азначае згоду выйсці замуж, калі хто не ведае. Яна не выкочвала гарбуз, як рабілі ў выпадку адмовы нашыя прабабулі. Яна запрашала чарговага жаніха на рэчку, што працякала за лесам, на шпацыр па лясных сцежках, па ўскрайку палеткаў, і падчас тых шпацыраў тлумачыла хлопцам прычыну адмовы.

Я нават не называю імя той прыгажуні, бо сённяшняя гісторыя зусім не пра яе. Яна ўсяго толькі выпадкова даткнулася да гэтай гісторыі. Даткнулася і нават не заўважыла гэтага, бо што людзям перажыванні нейкага там лёну, ці грэчкі, калі вырашаецца іх, чалавечы, лёс?

Якраз у час цвіцення лёну да прыгажуні прыехаў у сваты малады марак, які толькі што вярнуўся з мора. Ён быў таксама прыгожы, па-мужчынску прыгожы, самаўпэўнены і крыху пыхлівы. Прыгажуня па звыклай ужо завядзёнцы запрасіла марака на шпацыр, яны пакінулі сватоў у хаце з татам і матуляй, і на беразе рачулкі прыгажуня сказала мараку, што яна не кахае яго, што яна яшчэ не збіраецца замуж, што яна для гэтага замаладая, што не хоча пакідаць бацькоў, што не ў змозе жыць далёка ад родных лясоў, балотаў, ракі... Жанчына ўмее шмат чаго сказаць, каб адмовіць. Але марак не здаваўся, ён ніколі не здаваўся і працягваў дабівацца сваёй мэты. Каб зачараваць прыгажуню, ён пачаў распавядаць ёй пра свае марскія паходы, пра далёкія краіны, пра акіяны, пра штормы, пра шматлікія моры, дзе яму прыходзілася вандраваць. Ён так маляўніча распавядаў, што прыгажуня захапілася яго аповедам, пачала непадробна-зацікаўлена распытваць пра мора. А калі яны выйшлі з лесу на край палетка, дзе рос лён, марак убачыў блакітныя хвалі, якія ветрык гнаў па паверхні палетка, ён узрушана ўсклікнуў: «Ах! Якая прыгажосць! Гэты палетак лёну падобен на Сяродземнае мора! Яно ў ціхае надвор'е гэткае ж сіняе! Калі ты дасі згоду, я пакажу табе яго. І ты закахаешся ў мора гэтак жа, як кахаеш гэтыя кветкавыя хвалі!» Што адказала прыгажуня, лён не пачуў, але ён добра пачуў словы марака, якімі той параўноўваў яго з морам. А праз нейкі час прыгажуня паказвала палетак лёну мастаку. І той таксама зачараваўся яго прыгажосцю, і параўнаў з морам. А потым быў яшчэ чарговы жаніх, які ўзгадаў, што кветка лёну ёсць нават на нейкім гербе. Праўда, спачатку на тым гербе кветка была з шасцю пялёсткамі, а потым гэтыя шэсць неяк непрыкметна ператварыліся ў пяць...

Лён канчаткова ўпэўніўся, што ён гэткі ж прыгожы, як і грэчка. Дарма, што над ім не лётаюць пчолы і матылі. І нарэшце перастаў даймаць суседку скаргамі і стогнамі пра свой няшчасны лёс, пра дробныя непрыгожыя кветкі. Ці не так часам і людзі — варта сказаць ім добрыя прыемныя словы, і яны забываюць пра свае ўчарашнія ўяўныя беды? Не шкадуйце прыемных слоў.

Але нядоўга лён знаходзіўся ў задаволена-супакоеным стане. Прайшло колькі дзён — і ён адцвіў. На месцы кветачак пачалі расці і налівацца карабочкі. І лён зноўку згубіў гумор. З ранку да вечара ён, не перастаючы, наракаў на кепскі лёс, на тое, што нікому не патрэбны, што жыццё яго нікчэмнае, што галоўнай яго мары — пабачыць мора, на якое ён быў падобны, калі быў маладым — ніколі не збыцца... Грэчцы абрыдла яго супакойваць і яна моўчкі слухала стогны лёну.

Ішоў час, карабочкі на месцы блакітных кветачак лёну наліліся і зрабіліся бурымі, а яго сцябліны пацямнелі і зацвярдзелі. І ён ужо больш не скардзіўся. Маўчаў і думаў пра мора, пра сваю маладосць, пра пчол, якія часам усё ж садзіліся на яго кветачкі, хоць нектару ў іх было зусім няшмат. А вядома ж, што пчолы сядаюць на кветкі не таму, што яны яркія і прыгожыя, а таму, што іх прываблівае нектар, салодкі сок кветак. Яркая афарбоўка дазваляе ім хутчэй заўважыць кветку. Лён не пераставаў марыць аб моры, хоць ужо не верыў у здзяйсненне гэтай мары.



Аднойчы на поле прыйшлі камбайны. Яны каціліся па палетку ўперад і назад і зразалі лён ля самай зямлі, счэсвалі з яго вяршынак карабочкі, а сцябліны раскладвалі за сабою роўнай шырокай паласою. Карабочкі, у кожнай з якіх ляжалі па дзесяць гладкіх і бліскучых бурых зярнятак, везлі на завод, дзе з іх вызвалялі льняное насенне. А сцябліны яшчэ некалькі тыдняў ляжалі на полі.

Калі лён на полі стаў зусім цёмны, зноў прыйшлі камбайны, сабралі яго з зямлі, скруцілі ў вялізныя тугія рулоны і пагрузілі на аўтамабілі, якія даставілі рулоны на ільнозавод. Там сцябліны ламалі, мялі, трапалі, часалі... Лён разумеў гэта так, што жыццё заканчваецца, моцы змагацца ў яго няма, і таму моўчкі пераносіў усе працэдуры. Чакаў канца, бо ўсё, што нарадзілася некалі, павінна мець свой канец.

Але дзіўна! Чым больш аперацый пераносіў лён, тым больш маладым, эластычным, здаровым ён сябе адчуваў. Урэшце са сцябліны выдалілі ўсё дрэвападобнае і пакінулі толькі доўгія — на ўсю даўжыню сцябла — валокны. Моцныя вельмі. «А жыццё працягваецца...» — думаў пра сябе лён. І сапраўды — з ягоных валокнаў спачатку скруцілі ніткі. Потым з адных нітак — тут ужо як каму пашанцавала — скруцілі пасмы, а з пасмаў — так званыя «кабалкі», а з кабалкаў — тоўстыя, вельмі тоўстыя вяроўкі. Маракі іх называюць «тросы». Ніякіх «вяровак», толькі «тросы». З іншых нітак сатканы розныя тканіны. У тым ліку і тоўстую, вельмі моцную тканіну — парусіну, з якой шыюць ветразі для караблёў.

І прыйшоў час — матросы выцягнулі лён, які зараз увасобіўся ў тросы і ў ветразі, з цёмнай шкіперскай каморы на верхнюю палубу. І тросы з ветразямі апынуліся там, дзе ім прызначана — на мачтах і на люхтах. І здарылася тое, аб чым лён марыў — ён імчаўся разам з караблём, рассякаючы сінія марскія хвалі. За кармой карабля заставаўся бела-ружовы пенны след. Лён ганарліва выпінаў грудзі-ветразі і шаптаў ветру сваю гісторыю, сваю мару, якая здзейснілася. Ніколі, чуеце, ніколі не адмаўляйцеся ад сваіх мараў!

— А як жа з насеннем? — спытаеце вы.

Частку насення пакінулі... на насенне. Каб наступным годам зноў засеяць дзе-які палетак. А з рэшты выціснулі алей. Паглядзіце ў вашай лядоўні — магчыма там вы яго знойдзеце. Надзвычай карысная рэч! Асабліва для дзяцей.

А яшчэ дадалі ў льняны алей расцёртыя ў пыл каляровыя камяні, і ён стаў фарбай. Гэтую фарбу набыў мастак, той — памятаеце — які сватаўся да прыгажуні. А ён нацягнуў на раму тканіну — таксама льняную — і намаляваў на той тканіне... Як вы думае — што? Ён намаляваў мора! Так што і тут мара лёну спраўдзілася — ён не толькі пабачыў мора, а і сам стаў яго застылымі хвалямі.

Будзьце ж адважнымі — умейце марыць! Нават, калі мары здаюцца нерэальнымі. Майце адвагу!

# Амаль сапраўдная гісторыя пра спраўджванне мараў

На ўскраіне маленечкага мястэчка, побач з чыгункай, стаіць пад чырвонай металадахоўкай звычайны дамок з пенаблокаў. Дамок добра атынкаваны, а яго сцены пафарбаваны ў ружовы колер. Тата хацеў у белы, але мама дамагглася, каб у ружовы. Нейкія матылі, відаць, падмануўшыся ружовым колерам, сталі адкладваць на тынкоўку яйкі, і з іх потым вывеліся тлусныя валасатыя вусені, якія безвынікова шукаюць там ежу. А інакш, як растлумачыць іх прысутнасць на сценах?

Апрача мамы і таты, у дамку жыве Віцця. Па-сапраўднаму яе клічуць Вікторыя, гэта з лаціны азначае «Перамога», але ўсе называюць яе Віцяй, і яна прывыкла. Калі б хто сказаў «Вікторыя», яна б не адразу зразумела, што звяртаюцца да яе. Віцці шэсць гадоў і ёй вельмі сумна быць адзіным дзіцем у мамы і таты. «Мама! — часта просіць Віцця. — Нарадзі мне брацікa або сястрычку... Або сабаку...» Тады тата з мамай смяюцца, ажно заходзяцца. А чаго? Што смешнага, калі чалавек хоча мець побач блізкага? «Дурненькая, — кажа мама, — ці ж у цябе няма блізкіх? А я з татам?» Яно то гэтак, але ж дарослыя блізкія, гэта зусім не тое, што не дарослыя. А што датычыць сабакі — мама катэгарычна супраць, а тата сумняецца.

Набліжацца да чыгункі, якая зусім побач, Віцці забаронена. Затое з другога боку, калі аддаляцца ад чыгункі, знаходзіцца лес. Туды Віцця можа хадзіць колькі захоча. Толькі недалёка. А калі раптам заблудзіцца, то тата навучыў — яна павінна пачакаць чарговага цягніка, яго вельмі далёка чуваць, і ісці на ягоны стукат, ажно пакуль не выйдзе да чыгункі. Потым уздоўж рэек, толькі не па іх, а наводдаль, лёгка вярнуцца дахаты. Тата два разы хадзіў з Віцяй у лес, потым рабіў выгляд, што яны заблудзіліся, і прасіў яе вывесці дадому. І Віцця абодва разы справілася. І вельмі гэтым ганарылася. Пасля гэтага тата і дазволіў Віцці наведваць лес самастойна, хоць мама спрабавала пярэчыць.

А на днях на краі лесу да Віцці падбег шчанючок. Белы, з доўгай тоўсценькай мордачкай. Ён заглядаў ёй у вочы і так махаў хвосцікам, што Віцця занепакоілася, каб той не адламаўся. Віцця ведае — калі, да прыкладу, шмат разоў згінаць туды-сюды дрот, ён на месцы згінання ламаецца. Віцця прысела на кукішкі, пагладзіла шчанючка, а ён, не перастаючы віхляць хвосцікам, падскочыў, лізнуў яе ў вусны, потым абсікаўся і ўпаў на спіну. Віцця гладзіла яго ружовы жывоцік і ўжо прыдумляла аргументы, каб пераканаць маму пакінуць шчанючка ў сябе, як падышоў хлопец і надзеў на яго станік са шворкай. Настрой у Віцці сапсаваўся — вось так заўжды. Толькі, здаецца, прыйшло шчасце, а тут раз — і ўсё пайшло пылам. Хлопец ганарыста распавёў, што шчанючку адзін месяц, і што ён пароды «бультэр'ер». «Буль...» — ён не ведае, што азначае, а «тэр'ер» — ад лацінскага слова «тэрра», значыць «зямля». Чаму яны земляныя? Мабыць, таму, што ўмеюць капаць норы. Ці жыць у норах...

Значыць, шчанючок пароды «земляны буль» — зрабіла выснову Віцця.

Пад дамком, дзе жывуць мама, тата і Віцця, ёсць лёх. Гэта такое памяшканне ніжэй узроўню зямлі . Сцены яго абкладзены цэглай, там заўжды прахалода, нават улетку. Пасярэдзіне лёха праход, а з бакоў зроблены выгарадкі з дошак. У самай вялікай выгарадцы ссыпана бульба, у меншых — морква, буракі, рэдзька. Яшчэ ўздоўж сцен тата зрабіў паліцы. Яны застаўлены слоікамі з замарынаванымі мамай яшчэ летась агуркамі, памідорамі і яшчэ ўсялякім розным... Мама называе гэта «закаткі». Тата бурчыць, калі мама пачынае ў канцы лета рабіць свае «закаткі», але мама кажа, што «ўзімку, як знойдзем». Яшчэ ў лёху стаяць некалькі бочак з салёнымі агуркамі, квашанай капустай ды кубельцы з салам.

— Якая мэта твайго жыцця? — пыталася маленькая з'едлівая бульбінка вялікую, што ляжала ў лёху па суседству на самым версе ў бульбяной выгарадцы. — Я маю на ўвазе звышмэту, самае галоўнае, дзеля чаго ты існуеш. Дзеля чаго ты адрасціла сабе гэткую мажную паставу? Каб з цябе прыгатавалі бабку, клёцкі, або пюрэ? Я не кажу ўжо пра тое, што цябе могуць зварыць «у мундуры», або проста запячы на вуголлях....

— Па-першае, будзьце так ласкавы, звяртайцеся да мяне на «Вы», — адказвала вялікая бульбіна. — Я, між іншым, належу да элітнага сорту, які цягам дзесяцігоддзя выводзілі вучоныя. А па-другое, чаму так прымітыўна? Чаму абавязкова на вуголлях? Існуе шмат соцень страваў з бульбы, або з бульбы і іншых інгрыдыентаў. І большасць з іх адносяцца да так званай «высокай кухні»... Накарміць жывую істоту — хоць чалавека, хоць жывёлу — ці не годная мэта жыцця расліны? Але, калі ўжо Вы задаяце гэткія пытанні, то дазвольце і мне пацікавіцца Вашаю звышмэтай? Дзеля чаго жывеце Вы, даражэнькая...? («Бязродная анэрэксічка», — хацела дадаць яна, але ўстрымалася, бо была добра выхаванай, можна сказаць, нават шляхетнай.)

— Я жыву дзеля таго, каб наша раса, наш від, які вядзе свой радавод праз стагоддзі ажно з Амерыкі, не знік з гэтай зямлі! —усклікнула бульбінка. — Я хачу прарасці вялізным кустом і нарадзіць шмат-шмат клубняў. І такім чынам прадоўжыць існаванне нас у нашых нашчадках!

— А, дык Вы — абарыгенны амерыканскі від? Прыемна пазнаёміцца. Павінна сказаць, калі Вас не скормяць свінням, што з-за дробнага памеру цалкам магчыма, то маеце ўсе шанцы на выкананне сваёй місіі, — сур'ёзна прамовіла вялікая бульбіна. — Бо дробную бульбу часта выкарыстоўваюць у якасці «насенкі». З Вас можа вырасці неблагі куст. Між іншым — бачыце на мне так званыя «вочкі»? Калі мяне парэзаць на кавалачкі, так, каб на кожным засталося «вочка», то з кожнага кавалачка можа вырасці гэткі ж куст, як з ўсёй Вас. Так што, я б папрасіла крыху знізіць Ваш пафас. Хутчэй за ўсё гэтага не будзе: бульба майго памеру зазвычай ідзе ў ежу. І я не баюся гэтага, нават ганаруся, што маё існаванне дасць магчымасць існаваць яшчэ некаму.

Тут бульбіны змоўклі, бо ў лёх спусцілася па прыступках Вікця. Мама папрасіла яе дапамагчы па гаспадарцы. Вікця пстрыкнула выключальнікам, бо ў лёху было не толькі холадна, але і цёмна, хуценька накідала вядзерца.

— Вось так, шаноўная, — шапнула вялікая бульбіна маленькай бульбачцы, калі Вікця прынесла вядзерца на кухню , — усё паказвае на тое, што працягваць наш бульбяны род прыйдзецца некаму іншаму... Лёс складваецца так, што нас з'ядуць... І дзякуй Богу.

У ружовым дамку Вікця мае свой уласны пакой. Перш чым увайсці да Вікці, мама і тата заўсёды стукаюцца ў дзверы. І ўваходзяць толькі пасля яе дазволу. У пакоі стаіць драўляны Вікцін ложак, паліцы з кніжкамі, кардонная скрыня з цацкамі, а да сцяны прымацавана «швэдзкая сценка», а ўгары да «швэдзкай сценкі» — турнік, з якога звісае таўшчэразны канат. Вікця часам узбіраецца па «швэдзкай сценцы» да столі, там чапляецца за канат і па ім спускаецца долу, на падлогу. Уначы, калі па чыгунцы праносяцца цягнікі, Вікця адчувае, як вібрыруе ложак. Але яна ўжо прывыкла, і гэта яе зусім не непакоіць.

У пакоі Вікця дастала са скрынкі лялькю «Барбі» і лялькю «Пупс» і паспрабавала гуляць з імі на ложку. Барбі была нібыта старэйшай сястрой Вікці, а Пупс малодшым брацікам. Але гульня не клеілася. З галавы не выходзіў белы шчанючок. «Гм, — думала Вікця, — бультэр'ер... Земляны буль... Што за «буль»? Падобна на бульбу... Земляная бульба... А якая яшчэ бывае бульба? Земляная — бо расце ж у зямлі!»

Вікця схадзіла на кухню, узяла там дзве бульбіны — адну вялікую, другую маленькую, даўгаватую. У куханнай мэблі знайшла пук драўляных палачак. Мама называе іх «шпажкі», імі замацоўваюць перад гатаваннем скруткі з мясных палосак. Вымыла бульбіны ад пяску пад чарупінай, і яны сталі амаль белымі. Жаўтаватымі, але пры патрэбе можна было ўявіць, што яны белыя. Паламала тры шпажкі напалам і чатыры паловы ўторкнула ў вялікую бульбіну — гэта ногі. Яшчэ з адной зрабіла шыю, на якую насадзіла маленькую бульбінку — галаву. Апошняя палова стала хвастом. Пры добрай фантазіі можна ўявіць, што гэта шчанюк. Бультэр'ер. Земляны буль. Фантазія ў Вікці добрая. Яна крыху пагуляла з Булем, а потым паклала яго ў скрынку, дзе яшчэ было месца. Паміж Барбі і Пупсам.

— Падобна на тое, што час быць з'едзенымі трохі адкладваецца... — сказала тулава Буля галаве, калі сонца за вакном схавалася, і ў пакоі наступіў змрок. Вікця даўно ўжо развіталася надабранач з татам і мамай і ціха пасапвала ў ложку. — Да той пары, пакуль наша гаспадыня з намі не нагуляецца. Ёсць небяспека папросту звянуць і высахнуць. Пасля гэтага мы не здолеем стаць ні насеннем, ні ежаю. Як Вам такі паварот лёсу?

— Ведаеце што? Мы тут не адны, і астатнім цацкам будзе дзіўна, калі яны заўважаць, што тулава Буля размаўляе. Баюся, што гэта можа прывесці да пэўных непаразуменняў. Так што давайце дамовімся — размаўляе толькі галава. Гэта значыць — я.



Тое, што ў новай Вікцінай цацкі размаўляюць між сабою тулава і галава, ніхто не заўважыў. Затое запішчала тоненькім галаском Барбі:

— Фэ! Ты, тоўсценькі сабачок! Ад цябе смярдзіць псінай!

— Па-першае — пахне, а не смярдзіць — не псінай, а зямлёю. Я — земляны Буль. Можна проста Буль. А калі Вам недаспадобы пах зямлі, то ўявіце сабе, што некаму можа быць недаспадобы пах пластмасы, з якой створаны Вы. Адпор Барбі давала маленькая бульбінка, якая цяпер «прадстаўляля інтарэсы» ўсёй самаробнай цацкі.

Буль, дакладней яго галава, за словам у кішэнь не лезла, і неўзабаве перапалка перарасла ў сапраўдны скандал. Большасць цацак была настроена супраць навічка — Буля. Пупс крычаў, Барбі вішчэла, мэбля ў цацачным пакоі грымела дзверкамі, электронная развіваючая гульня раўла галасамі жывёл, кудахтала, ціўкала, стракатала птушкамі. Падняўся такі гармідар, што прачнулася Вікця, і пачула Вікціна мама, зайшла ў пакой. Натуральна, пастукала перад тым. На стук цацкі імгненна змоўклі, і мама нічога не зразумела.

— Што, Віктуся, не спіцца? Ой, тут так горача! Я, бадай, што адчыню вакно. Ноч халаднаватая, камары пры такой тэмпературы не лётаюць, а ў цябе будзе свежае паветра.

Калі мама пайшла, Вікця дастала са скрынкі Буля, пагладзіла па шурпатай спінцы, уздыхнула і паставіла на падваконнік. Заплюшчыла вочы і ўявіла на падваконніку сапраўднага шчанючка з кароткай белай мяккай поўсцю. Паслухмянага, ласкавага і разумнага. Яна вучыць яго па камандах садзіцца, класціся і ўставаць. Падбягаць. Шукаць і прыносіць рэчы. Яны разам ходзяць у лес, і Буль — так, толькі такое імя ён мае — нюхам знаходзіць для яе самыя лепшыя баравікі. Яна корміць яго... Чым? Трэба будзе спытаць у таты або мамы, яны ўсё-ўсё ведаюць... Вікціны фантазіі расплыліся, закалыхаліся, пачалі чэзнуць. Яна на імгненне расплюшчыла вочы і не пабачыла на падваконніку самаробнага Буля. «Відаць, упаў за вакно, — ляніва падумала Вікця. — Заўтра забяру». І канчаткова заснула.

Буль сапраўды зваліўся за вакно. Самаадчуванне, што ён — гэта дзве бульбіны, з запалкамі-нагамі і шыяй, знікала, і з'явіліся якасці сапраўднага сабакі. Ён разумеў, што як сабака непаўнавартасны, але меў ужо абвостраны нюх і цікаўнасць. За сваё нядоўгае «сабачае» жыццё ён бачыў вельмі няшмат і яму вельмі карцела падарожнічаць, паглядзець на свет. Хацеў пругка скочыць, упаў, кулём пакаціўся па мокрай ад расы траве. Падняўся, абтросся і асцярожна, узіраючыся ў начную цемру, прынюхваючыся і прыслухоўваючыся, пайшоў уздоўж сцяны дома. Стаў паводзіць сябе, як сапраўдны сабака.

Туп-туп-туп — пачуліся зусім блізка частыя крокі, Буль спалохаўся і застыў. Гэтак застываюць, унюхаўшы паблізу дзічыну, сабакі некаторых»падстрэльбавых» парод — сэтэры, дратхары і курцхары, спрынгер-спаніэлі... Да яго падбег вожык, панюхаў, чмыхнуў і пабег далей. Вожыкі не ядуць бульбу. Гэтак жа яны не ядуць ні яблыкі, ні грыбы. Вожыкі харчуюцца рознымі насякомымі і

чарвякамі. Насякомых у траве навокал было, відаць, шмат, адусюль даносілася стракатанне конікаў.

«Добра, што мне не трэба харчавацца, — падумаў Буль і пабег праз двор. — Быць сабакам з бульбы — у гэтым ёсць, відаць, нейкія перавагі...» Ён праціснуўся між штакецінамі агароджы, перасек грунтовую дарогу, што вяла паўз лес да Вікцінага дамка, і ўбачыў перад сабою сцяну з дрэваў. Над Булем раптам узнік трапяткі сілуэт — гэта сава пачула ў траве рух. Але імгненна разабралася, што шапаціць не мыш, бязгучна зляцела. Мястэчка, якое сваімі ліхтарамі засвечвала неба, засталося ззаду. Ужо ўзышоў і даволі высока падняўся месяц, круглы і бліскучы, як срэбныя шары на абразах у святога Міколы. Месяц кідаў на зямлю сваё прывіднае святло, між дрэвамі светлыя плямы чаргаваліся з глыбокімі ценямі, і тыя цені здаваліся страшнымі пачварнымі стварэннямі. Буль палохаўся, спыняўся, нюхаў паветра. Між кронамі дрэў на чорна-сінім небе ззялі прыгажэй, чым навагодняя гірлянды, нябесныя свяцілы. Зоры і планеты. Зоры зіхацелі блакітна і мігатліва, планеты — іх нашмат меней — чырвоным, белым, жоўтым пастаянным святлом. Буль задраў галаву наколькі дазваляла драўляная шыя і ўзіраўся. Па лясной сцяжыне дзелавіта, раз-пораз заміраючы і прыслухоўваючыся, нетаропка бегла ліса. Буль не ведаў, што ад яе чакаць, і прылёг у траве. Здрадна зашамацеў леташні сухі ліст, ліса імгненна змяніла накірунак, збочыла са сцежкі і накіравалася дакладана да яго. Усё абышлося. Ліса адзін раз нюхнула і вярнулася назад. Шчанюк Буль з дзвюх бульбін яе не зацікавіў.

Ліса прадоўжыла свой шпацыр на сцежцы, а Буль пайшоў наўпраткі праз лес. Каб быць больш незаўважным — інстынктыўна выбіраў шлях па ценявых плямах, імкнучыся не выходзіць на асветленыя. Часамі спыняўся і падоўгу прыслухоўваўся. І ў адзін з такіх прыпынкаў пачуў недзе далёка ў гушчары віск.

— Выбачайце, што падаю голас, — сказала бульба-тулава бульбачцы-галаве, — але гэта віск малога дзічка. Парасятка, так бы мовіць. Мяркую, што па лесе пасвіцца статак дзікоў. І калі яны нас знойдуць, то будзьце ўпэўненай — Вы ніколі не станеце матуляй бульбянога вывадку. Між іншым, нюх у дзікоў разоў у дзесяць вастрэй за сабачы, наш, раз ужо мы ўдваіх складаем сабаку. Думаю — самы час даваць драла. Спадзяюся, нашы ногі-палачкі не пакідаюць пахавага следу.

— Скуль Вы гэта ўсё ведаеце? — з зайздрасцю спытала бульбінка-галава. — Пра голас парасяці, пра нюх дзікоў, што ён лепшы сабачага?

— Не забывайцеся, што мае продкі нарадзіліся на дзялках навукова-даследчага інстытута Акадэміі навук. — Элітнай бульбіне карцела дадаць «мая дзікая супляменніца», але яна зноў стрымалася. — Я шмат чаго ведаю яшчэ ... Аднаго не магу зразумець — як гэта Вы, абарыгенная амерыканская бульбінка, трапілі ў культурны асяродак?

— Як трапіла, тое доўгая гісторыя. А я чую, што дзікі набліжаюцца. — Сапраўды, раз-пораз на ўвесь лес разлягаўся магутны рык секачоў. — Ну, то які план прапануе пані арыстакратка дзеля выратавання тулава і галавы землянога Буля? — спытала бульбінка. —Выбачайце за з'едлівасць, я ў акадэміях не тусавалася...

Буль, які адчуваў сябе таксама асобай, зусім не дзівіўся гутарцы ягонага жывата з ягонай галавою. Ён толькі прынюхваўся — ветрык ужо даносіў да яго цяжкі дзічыны пах — і нервова размахваў хвастом, спытаў у большай бульбіны: «Што будзем рабіць?», і тая параіла бегма сыходзіць з дарогі статку такім чынам, каб ветрык не прынёс яму бульбяны пах.

Буль уяўляў сабою тры асобы — галаву, тулава, якія былі самастойнымі, і ўласна сябе, самаробную цацку — Буля. Атрымоўвалася так, што калі Буль размаўляў, ён размаўляў бульбай-галавою. Гэта было зручна, бо, калі ён гаварыў, бульба-галава маўчала, і можна было размаўляць і не чакаць, што цябе пераб'юць. Бо тая маленькая бульбінка не абцяжарвала сябе добрымі паводзінамі. Такім чынам, калі размаўляў Буль — малая бульба была пазбаўлена такой радасці, і сама «ўставіць тры грошыкі» магла толькі, калі Буль маўчаў. Вялікая ж бульбіна, як ужо было сказана, мела рузуменне шляхетнасці. Таму гутаркі паміж гэтымі трыма асобамі адбываліся надзвычай арганізавана — ніхто нікога не перабіваў.

Ён кінуўся ўбок і доўга бег, не забываючы слухаць храбусценне сухіх галінаў пад капытамі, рохканне і рыкі дзікіх свіней, якія станавіліся ўсё цішэй. Калі яны зусім сціхлі, Буль спыніўся.

— Апрача дзікоў, хто яшчэ небяспечны для нас у гэтым лесе? — спытаў Буль у свайго тулава, якое ўяўляла сабою згустак выхавання і ведаў. — Калі вам аднолькава ганарова стаць пачаткам бульбянога вывадку, або пракарміць чалавека ці жывёлу, то мне, сабаку, не да твару быць з'едзеным нейкімі тамляснымі свіннямі...

— Няшмат хто, — з гатоўнасцю падзяліцца ведамі адазвалася вялікая. — Значыцца так... Дзікі ўжо былі. Яшчэ могуць ласі. Яны нават могуць «капыціць» бульбяныя палеткі, выкапваючы нас. Больш, здаецца, нам ніхто не страшны. Можа, толькі зубры... Але адкуль тут, у двух кроках ад мястэчка возьмуцца зубры?

— Ведаеце што? Я ўжо адчуваю, як мне не хапае Вікці. Я ўсё ж сабака. Хоць і незвычайны. Маё прызванне — быць побач з гаспадаром, ахоўваць і любіць яго. Вы як сабе хочаце, а я вяртаюся! — сказаў Буль і засмяяўся. Бо з'яўляючыся асобай, Буль адначасова змяшчаў у сабе яшчэ дзве асобы, два «я». І калі вяртаўся ён, вярталіся і ягоныя галава з тулавам.

Якраз у гэты час паўз дамок, дзе спала Вікця і яе мама з татам, праходзіў чарговы цягнік. Гулі рэйкі, стукалі на стыках колы, а яшчэ цеплавоз, набліжаючыся да пераезду, вельмі гучна загудзеў. І хоць Буль не атрымоўваў гэткі ўрок, які мела Вікця ад таты, ён сабачым інстынктам здагадаўся, якім чынам вярнуцца да гаспадыні, якую ён ужо ўсім сэрцам любіў. «Усім сэрцам» — так кажуць, каб адзначыць, што любяць вельмі моцна. Насамрэч, у Буля не было ніякага сэрца, раз ужо ён быў з бульбін і шпажак.

Месяц схіліўся над даляглядам і пабялеў, зоры і іншыя свяцілы на небе пачалі чэзнуць, ды і само неба з чорна-сіняга пашарэла, а на ўсходзе афарбавалася чырвоным. Буль доўга бег (не забудзем, што ён зусім малы), ажно пакуль не ўпёрся ў чыгуначны насып. Павярнуў і пабег уздоўж насыпу, у бок мястэчка, якое прачыналася гукамі аўтамабіляў, нешматлікімі постацямі месцічаў на ходніках. І вось, нарэшце, у ранішнім змроку з'явіліся ружовыя сцены. Буль пахадзіў туды-сюды ля вакна, потым забраўся ў куст вяргіні, спрытна выкапаў там норку, забраўся ў яе і чуйна, як яму здавалася, заснуў. Тут, пад вакном гаспадыні, ён адчуваў сябе на варце яе спакою.

Удзень Віцця ўспомніла пра Буля, палазіла па траве пад вакном, але нічога не знайшла. А пасля апоўдня насунуліся хмары, якія абрынулі моцную зліву. Яна абрушыла, замыла норку з Булём. Але ён быў не звычайным сабакам. Звычайны ў такіх умовах загінуў бы.

Пасля лета прыходзіць восень. Халаднее, пачынаюцца дажджы. Жаўцее лістота на дрэвах, жухне трава. У небе з'яўляюцца чароды гусей, жураваў, буслоў — яны пакідаюць Радзіму, адлятаюць у вырай. Гэта там, дзе цёпла, дзе можна знайсці ежу. Але сярод восені заўсёды бывае некалькі дзён, калі раптам усталёўваецца цёплае, сонечнае надвор'е. Гэтыя дні беларусы называюць «бабіна лета».У паветры тады лятуць маленькія павучкі, яны чапляюцца да павуцінак, і нават лёгкі ветрык падхоплівае гэтыя павуцінкі разам з павучкамі і нясе, нясе... Калі ветрык сціхае, павучкі ціха прызямляюцца на траву, і тады ўся трава пакрыта шыкоўным срэбным вэлюмам. Гэта надзвычай прыгожае відовішча.

У адзін з дзён «бабінага лета» Віцця разам з татам прыбіралі падворак вакол ружовага дамка. Трэба было згрэбсці ў кучу і спаліць смецце, сухое бацвінне з агарода, апалую лістоту. Вакол Віцці круціўся і перашкаджаў працаваць маленькі, няспрытны яшчэ, белы шчанючок. «Буль! Не лезь пад ногі! — смяялася Віцця. — Не кусайся!».

Калі паламалі сухія сцяблiны былога куста вяргіні, што рос насупраць Віцінага вакна, унутры ўбачылі бульбоўнік. Туды адразу ж кінуўся шчанючок і з імпэтам пачаў капаць там пярэднімі лапамі, адкідваючы зямлю далёка назад. Тата прынёс рыдлёўку, загнаў яе ў зямлю ля бульбоўніка і вывернуў на паверхню клубні, пераплеценыя карэньчыкамі. Усярэдзіне купы маладых бульбін знаходзіліся дзве цёмныя, зморшчаныя, злучаныя драўлянай палачкай. З большай тырчэлі яшчэ пяць. «Земляны Буль», змайстраваны ў пачатку лета Віццяй, дагэтуль знаходзіўся на варце пад вакном гаспадыні. А яго тулава і галава выканалі сваё прызначэнне — нарадзілі шмат новых бульбін.



*Эдуард Галустаў. «Вялікае піццё гарбаты»*



# Вінцэсь Мудроў

**празаік. Аўтар кніг прозы: «Жанчыны ля басейна», «Гісторыя аднаго злачынства», «Зімовыя сны», «Ператвораныя ў попел», «Альбом сямейны» і інш. Нарадзіўся ў 1953 годзе ў Полацку. Жыве ў Полацку.**



# Селігер

— Куды гэта ты збіраешся? — спытала цётка Лёля пляменніка, дваццацідвухгадовага студэнта Вадзіма. Пляменнік не паспеў прыйсці дахаты, як зноў, на хаду жуючы здобную булку, нацягнуў на плечы гаматны, у дробную палоску, пінжак.

— Бягу да рэцэнзента, — няўцямна, з набітым ротам, адказаў пляменнік.

— Дзевяць гадзін вечара. Рэцэнзент хутка спаць ляжа.

— Падыму з ложка. Мне заўтра на цягнік.

Хлопец паправіў каўнер кашулі, абцягнуў пінжак, збіраўся ісці да дзвярэй, ды цётка схапіла за рукаво.

— Пачакай хвілінку, — Лёля пайшла на кухню, грукнула дзверцамі шафкі і неўзабаве выйшла з пляшкаю грузінскага каньяку ў руцэ. — На во... аддасі рэцэнзенту. А то напіша абы-што.

— Ды не трэба. Ён, кажуць, не п'е.

— Бяры-бяры... бачылі мы тых рэцэнзентаў. П'яніца на п'яніцы.

Вадзім паскроб патыліцу, падхапіў бутэльку. «Сапраўды, чорт яго ведае, таго рэцэнзента. Можа і адмоўнае штосьці напісаць. А то і наогул скажа, што ноч на двары, раніцай прыходзь», — апанаваны такімі думкамі, пляменнік пхнуў бутэльмент у палатняную торбу.

Вадзім быў студэнтам 5-га курса палітэхнічнага інстытута, але не ленінградскага, а правінцыйнага. Аднак пераддыпломную практыку праходзіў у Ленінградзе, на заводзе «Рускі Дызель». І вось дыпломны праект быў гатовы, занесены рэцэнзенту, інжынеру з таго самага «Рускага Дызеля», і засталося толькі атрымаць рэцэнзію.

Жыў інжынер даволі далёка, ля станцыі метро «Ламаносаўская». Дабіраўся да «Ламаносаўскай» добрых паўтары гадзіны, а калі падышоў да запаветнага дзевяціпавярховіка і зірнуў на гадзіннік, дык нават рот разявіў. Думаў, няма дзясятай, а тым часам маленькая стрэлка падбіралася да адзінаццаці. У горадзе панавалі белыя ночы, было светла як днём — гэта і збіла з панталыку.

Інжынер — таўставаты, ускудлачаны, з сівымі валасамі, што выбіваліся з-пад саколкі, дзядзька, — відочна ўскочыў з ложка. Палашчыўшы віслае чэрава, незадаволена прагугніў:

— Ну, ты даеш. Мы з жонкай ужо спаць леглі. Заўтра прыходзь.

— Ды я заўтра ў Полацк з'язджаю. Ужо і квіток узяў.

Рэцэнзент уздыхнуў і, паківаўшы пальцам, маўляў, жонка спіць, на дыбачках пайшоў па калідоры, прыхапіўшы па дарозе халат, які вісеў на вешаку.

Дыпломны праект Вадзім занёс рэцэнзенту чатыры дні таму. Але той яго наўрад ці праглядаў, бо тубус з чарцяжамі стаяў у куце пакоя — там, дзе хлопец і паставіў.

— Што тут у нас? — інжынер падхапіў важкую тлумачальную запіску.

— Апрацоўка хадуна рухавіка Д-30, — бадзёра патлумачыў Вадзім, і гаспадар кватэры прыклаў палец да вуснаў. Зачыніўшы дзверы пакоя, інжынер раскінуўся ў фатэлі, перагарнуў старонкі.

— Та-ак... рухавік дызельнай падводнай лодкі. Калісьці ўся дакументацыя была засакрэчаная.

Добрую хвіліну інжынер вывучаў напісанае, нарэшце спытаў — як мацуецца загатоўка.

— Шрубакрут з рэверсам, — па-ранейшаму бадзёра, але ціха выдыхнуў дыпломнік.

— Шрубакрут, браток, учорашні дзень. Ты ж малады камандзір вытворчасці і мусіш задзейнічаць перадавыя тэхналогіі. Тут патрэбны пнеўматычны, а яшчэ лепш — гідраўлічны клямар.

— Дык у вас жа на заводзе шрубакрутамі карыстаюцца.

— Даражэнькі, на нашым заводзе нямецкае абсталяванне. І не трафейнае, а даваеннае.

— Гідраўліку з пнеўматыкай задзейнічаюць на серыйнай вытворчасці. А тут рухавік падводнай лодкі, якіх за год тры штукі са стапеля спускаюць, — парыраваў дыпломнік і рэцэнзент, уздыхнуўшы, паставіў на палях чырвоную птушачку.

— Якая чысціня апрацоўкі рабочай паверхні? — было наступнае пытанне.

Вадзім адказаў.

— А на якім варштаце ідзе апрацоўка?

Вадзім ізноў адказаў.

— На гэтым варштаце такой чысціні не дасягнеш.

Паслініўшы палец, рэцэнзент перагарнуў старонку.

«Праз паўтары гадзіны метро зачыняць», — падумаў студэнт, мелькам зыркнуўшы на гадзіннік.

Калі на палях з'явілася дзясятая птушачка, студэнт дастаў з торбы бутэльку.

— Гэта што?

— Каньяк.

— Схавай! — сувора выдыхнуў рэцэнзент і ў дыпломніка зашчымела пад сэрцам. А калі гэты зануда напіша адмоўную рэцэнзію? Што тады рабіць?

Між тым зануда пачаў гартаць старонкі, не праглядаючы.

— А што за каньяк?

— Грузінскі. Тры зорачкі, — акрыялым голасам паведаміў дыпломнік.

— Ну, тут заўвагаў няма... тут таксама ўсё добра, — замармытаў інжынер, не пасліняваючы слініць палец, неўзабаве адклаў тлумачальную запіску і сеў за пісьмовы стол.

На рэцэнзіях, відаць, інжынер даўно набіў руку, бо пісаў хутка, не адрываючы позірку ад паперы. Вадзім, неўпрыкмет, падышоў да яго з-за спіны, выцягнуў шыю і прачытаў: «Не гледзячы на дробныя заўвагі, дыпломная праца заслугоўвае адзнакі «выдатна».

Мудрагеліста распісаўшыся, рэцэнзент выслізнуў з пакоя і з'явіўся з двума кілішкамі.

— Я не буду! — рашуча выдыхнуў студэнт, але інжынер ляпнуў па плячы:

— Па кроплі. Каб добра абараніўся.

У метро ўсё ж такі паспеў, вылез на станцыі «Лясная» і шырокім крокам пашыбаваў па праспекце Энгельса ў кірунку Дрэздэнскай вуліцы, на якой жыла цётка. Душа Вадзімава прасіла песні. Можа, ад выпітага каньяку, можа, ад таго, што вакол буяла белая ноч, а магчыма, таму, што ў панядзелак абараніць дыпломны праект і развітаецца з інстытутам.

На рагу Манчэстэрскай яго перанялі.

— Эй, куды канаем?

Тры чувакі цёмнымі прывідамі выслізнулі з-пад дрэва, і ў Вадзіма чарговы раз сцялася сэрца. Такія сустрэчы а першай гадзіне ночы нічога добрага не лёсілі. Вадзім прыціснуў да грудзіны тлумачальную запіску. А як падзяруць ды пусцяць па ветры?

— Студэнт? — запытаўся чувак у пацёханых джынсах.

Вадзім кіўнуў.

— Адкуль?

— З Аўтава, — ён наўмысна назваў далёкі раён, з якім тутэйшыя «каралі» не варагавалі.

— А чаго па нашым раёне швэндаешся?

— Да цёткі іду. На Дрэздэнскай жыве.

— Капуста ёсць?

— Ды якая капуста. Бегаю па горадзе, ногі ў рукі ўзяўшы. На метро эканомлю.

Начныя прывіды пераглянуліся. Зразумелі, што са студэнта капейчыны не выб'еш.

— Ладна, адказваеш на маё пытанне — валі з вачэй. А не адкажаш — будзем з табой разбірацца, — з пагрозаю ў голасе выдаў чувак у пацёханых джынсах.

Вадзім наструніўся.

— Як згуляў «Зеніт» у апошнім туры?

— Адзін-адзін з маскоўскім «Дынама».

— А хто забіў?

— У дынамаўцаў Гершковіч, у «Зеніта» Маркін, — Вадзім быў аматарам футбола і глядзеў гульню на кіраўскім стадыёне.

— Табе, можна сказаць, пашанцавала. Больш па начах не швэндайся. Уцяміў?

— Уцяміў! — гукнуў студэнт, сарваўшыся з месца. Спачатку проста ішоў, потым рушыў подбегам, нарэшце, пусціўся на ўсе застаўкі. Баяўся, што прывіды кінуцца наўздагон. Прыпыніў крок толькі павярнуўшы на Дрэздэнскую вуліцу. «Як гладка ўсё ў жыцці ідзе. Рэцэнзію ў апошні момант займеў. Цяпер вось ад футбольных заўзятараў адбіўся. Але ж давядзецца дзесьці і спатыкнуцца», — Вадзім выцер пот з ілба і ўбачыў асветленае вакно на сёмым паверсе. Цётка не спала і чакала ягонага вяртання.

Назаўтра студэнт-дыпломнік сеў у цягнік Ленінград-Полацк і выехаў дахаты. Гэта быў дзіўны цягнік. Напачатку, амаль без прыпынкаў, ехаў у кірунку Масквы, і толькі даехаўшы да станцыі Балагое, паварочваў у бок Полацка. На дварэ сярэдзіна сямідзясятых, стальныя магістралі даўно апанавалі электравозы з цеплавозамі, а тут, на станцыі Балагое, да цягніка чаплялі куродымны паравоз. Расцягнуўшыся на ніжняй паліцы, студэнт адразу ж заснуў, і прачнуўся ад апраметнай цішыні. За вакном стаялі таварныя вагоны і будынка вакзала не было бачна.

— Дзе мы? — спытаў хлопец у кабеты, якая сядзела насупраць.

— У Балагім, — выдыхнула спадарожніца і, падумаўшы, паправілася: — У Балагом, — а памацаўшы пальцам скронь, паведаміла: — Не, назва, відаць, не скланяецца. — А вы студэнт?

— Так, у панядзелак абарона дыплома, — Вадзім пстрыкнуў пальцам па тубусе.

Яны разгаварыліся. У кабеты, як высветлілася, сын летась скончыў інстытут і быў накіраваны па размеркаванні ў Вялікія Лукі. Цяпер маці штомесяц ездзіла да сына і падвозіла харчы, бо ў Луках крамы пустыя. Неўзабаве спадарожніца пазяхнула і, як і Вадзім надоечы, легла на паліцу, прыкрыўшы ногі цёплай кофтай.

Цягнік падчапілі да паравоза, і за вакном паляцелі пасмы грывастага дыму, паплылі балацявіны з люстэркамі азярын, рэдкія вёскі са збуцьвелымі хатамі, такія ж рэдкія станцыі і паўстанкі — спрэс драўляныя, даўно не фарбаваныя, — і стараверскія, з пахілымі крыжамі, могілкі, якія падступалі да самай чыгункі. Потым цягнік заехаў у вусцішны лес, які стамляў вочы бясконцай чарадой бярозавых стаўбуроў, доўга ехаў у лясной зацені, на нейкі час вырваўся на прастор шырокага, пазначанай зялёнымі купамі кустоў поля, і зноўку панурыўся ў лясны гушчар.

«Як мала тут жыве народу і як тут усё занядбана», — думаў Вадзім, прыціснуўшы нос да вагоннай шыбы. У Піцеры метро, машыны, крамы, людзі, здобныя булкі, а ў гэтым лясным краі ні людзей, ні нармальных дарог. Адны балоты ды могілкі. Вадзім лёг, ізноў панурыўся ў сон, і прачнуўся ад штуршка ў пятку. Па праходзе прайшлі дзядзькі ў штармоўках і з рыбацкім прычындаллем у руках. Пад'язджалі да Селігеру — вялізнага возера, якое замілавалі ленінградскія рыбакі. А вось і яно само выплыла з-за кустоў — бясконцае, серабрыстае, злёгку падфарбаванае на небасхіле вечаровай палымніцай. На беразе возера туліўся горад Асташкаў. Цягнік тут стаяў сямнаццаць хвілін, і Вадзім вырашыў размяцца, бо ад мулкага лежака балелі косткі. Папрасіўшы спадарожніцу прыглядзець за ягонымі рэчамі, хлопец скочыў на пасыпаны паравозным жужалем перон, стукнуўшы пры гэтым гадзіннікам аб вагонны поручань. Шпацырнуць выйшла некалькі пасажыраў, і ўсе яны спехам, на паўсагнутых нагах, пашыбавалі да вакзала. Туды ж пайшлі і рыбакі, якія ехалі ў суседнім купэ. Вадзім прымружыўся і ўгледзеў дзеда з сівой барадой, які стаяў ля вакзала і здзімаў пену з піўнога кухля.



У вакзальным буфеце было ладна народу, але ж хацелася каўтануць тутэйшага піва. Буфетчыца поўніла кухлі ручной помпай непасрэдна з бочкі. У родным Полацку такога ўжо не пабачыш.

Піва было крыху кіславатае і пахла дубовай бочкай.

— Ну, як, смакуе? — да століка падсунуўся дзядзька ў зрэбнай, расцягнутай на шыі, цяльняшцы.

Не адрываючыся ад кухля, хлопец выставіў вялікі палец.

— Добра, гарадскія не набеглі. А то б да прылаўка не падступіліся. У нас з півам цяжка, — дзядзька нешта без перапынку казаў, але Вадзім не слухаў. Галава ягоная злёгку круцілася, і вочы міжволі заплюшчваліся ад задавальнення. Ачуўшыся, Вадзім ліхаманкава глянуў на гадзіннік. Цягнік стаяў яшчэ пяць хвілін. Кіўнуўшы на развітанне дзядзьку ў цяльняшцы, ён рушыў да выхаду і знянацку схаладнеў. Знадворку, усё больш імпэтна, рухаліся асветленыя квадраты вокнаў. Небарака вохнуў, пхнуў у спіну сівабародага дзядка, выбег у калідор і ўзбіўся на вакзальную прыбіральшчыцу. У адной руцэ яна трымала швабру, а ў другой вядро з вадой. Студэнт матлянуўся ўлева, цётка з перапуду хітнулася ў той жа бок. Урэшце схапіў цётку за руку, паспрабаваў пераскочыць цераз швабру і, зачапіўшыся за дзяржак, стукнуўся каленам аб цэментавую падлогу. Калі ж выбег, накульгваючы, на перон, дык угледзеў чырвоныя ліхтары апошняга вагона і скручаны сцяжок у руцэ праваднiцы.

— Стой! Стой! — крыкнуў не сваім голасам, ды праваднiца не пачула, бо сцяжок нават не здрыгануўся. Хвіліну бег па пероне, урэшце спыніўся і, абалшчыўшы вачыма чырвоныя агні і пасмы чорнага паравознага дыму, бязгучна прашаптаў: «Ну і ўліп!» Торба з тлумачальнай запіскай і тубус з чарцяжамі паехалі ў Полацк без гаспадара. Студэнт страсянуў «Камандзірскія». Секундная стрэлка не рухалася. Стукнуў гадзіннік, як скакаў з вагона — час і спыніўся. Бедачына зацкавана зірнуў у той бок, дзе заціхала рэха вагонных колаў. Уся надзея была на спадарожніцу, якая ехала ў Вялікія Лукі. Павінна сказаць праваднiцы, што сусед па купэ знік, а рэчы засталіся. А калі не скажа?

— Ад цягніка адстаў? — пачуўся жаночы голас.

Пасярод перона стаяла цётухна ў чырвонай фуражцы — дзяжурная па станцыі.

— Ці не кожны дзень стоп-краны зрываюць. А ўсё з-за піўнушкі. На мінулым тыдні, таксама адзін адстаў. Дык бег за цягніком з кухлем у руках.

Вадзіму такія балачкі не спадабаліся.

— Такой бяды. Заўтра паедзеце. Дзянёк у нас пагасціце, у возеры пакупаецеся.

— Дыпломны праект з'ехаў. Так што, выбачайце, мне не да жартаў, — буркнуў студэнт у адказ.

— Пайшлі, — ужо сур'ёзным тонам выдала дзяжурная і рушыла да вакзала.

«Абарона ў панядзелак. За гэты час тлумачальную запіску можна перапісаць, пагатоў, засталіся чарнавікі. А чарцяжы трэба як мінімум два тыдні

аднаўляць. Атэстацыйная камісія дзеля мяне аднаго збірацца не будзе. Давядзецца праз год абараняцца», — Вадзім сядзеў у станцыйнай дзяжурцы, прыслухоўваючыся да біцця крыві ў скронях, і ў галаве, як тыя жароны на млыне, круціліся цяжкія і трывожныя думкі.

— Які вагон? — спытала дзяжурная. Жанчына сядзела за перагародкай, пад брэжнеўскім партрэтам, і размаўляла па тэлефоне.

— Вагон трэці, месца пятнаццатае, — студэнт падхапіўся з хісткага крэсла.

— Што з сабой было?

— Палатняная торба з тлумачальнай запіскай і тубус.

— Торба і нейкі турбус, — гракнула, ціснучы да вуха слухаўку, жанчына, і студэнт незадаволена паправіў:

— Тубус, а не турбус!

— Не хвалюйся, атрымаеш свае рэчы, — дзяжурная кінула слухаўку на вагар. — Зараз звяжуцца з начальнікам цягніка, той скажа правадніцы, каб рэчы забрала. У Полацку адразу да начальніка станцыі ідзі. Там і атрымаеш свой турбус.

Выкуліўшыся з дзяжуркі, студэнт прайшоўся па пероне. Цягнік на Полацк ішоў праз суткі — трэба было недзе пераначаваць. Ён хацеў вярнуцца ў дзяжурку і спытаць — ці будзе адчынена ўначы вакзальная пачакальня, — але перадумаў. Вырашыў перш-наперш зазірнуць у буфет ды ўзяць чаго на зуб. Цэлы дзень нічога не еў.

У буфеце яго пераняў той самы дзядзька ў цяльняшцы.

— О! Стары знаёмы! Адстаў ад цягніка?

— Пачакальня ноччу працуе? — спытаў студэнт.

— Першы цягнік адранку пойдзе. На ноч зачыняюць.

Студэнт-дыпломнік з адчаем уздыхнуў.

— Хочаш — пайшлі да мяне. Я недалёка жыву, — сказаўшы так, уладальнік цяльняшкі зірнуў на буфетчыцу, якая ківалася, налягаючы на корбу піўной помпы.

Вадзім стаў у чаргу. З едзіва ў буфеце прадавалі адно плаўленыя сыркі ды кансервы, кілька ў тамаце, але іх не было чым адкрыць. Пхнуўшы сыркі ў кішэнь, Вадзім падхапіў два кухлі.

— Я ў сваёй хаце жыву. Каля самага возера. Выдатная мясціна. Штолета сястра з Ленінграда гасцюе, з дзецьмі. Сёлета, праўда, не прыедзе. Сыну аперацыю робяць. Карацей, ляжаш на кушэтку — і нараніцу ўстанеш, як агурок.

Прагавіта прыклаўшыся да кухля, дзядзька, на знак знаёмства, працягнуў шурпатую далонь:

— Мікалай.

З буфета выкуліліся густым прыцемкам. Перад вакзальным будынкам стаялі прысады чэзлых таполяў, а ўдалечыні цьмяна вымалёўваўся белы помнік.

— Хто там у вас, Ленін? — пацікавіўся студэнт.

— Ды не, Заслонаў.

— Наш партызан, — паважвавеў палачанін.



— Нарадзіўся тут. Бацька мой яго ведаў, — паведаміў асташкавец, прыпальваючы «беламорыну».

Вадзім ступаў па няроўным бруку і ўтрапёна круціў галавой. Стваралася ўражанне, што тут, у Асташкаве, час, як і на ягоных «Камандзірскіх», спыніўся. Прычым недзе ў сярэдзіне мінулага стагоддзя. З прыцемку выглядалі старыя, здаўна не рамантаваныя камяніцы, наўзбоч тырчалі рудыя ад іржы водаразборныя калонкі, а пры канцы вуліцы нехлямяжай патарочай паўставала напаўразбураная царква.

— У вас можна фільмы здымаць... пра рэвалюцыю, — жартам выдаў студэнт, пераскочыўшы ручай, які цёк ад калонкі.

— Дык здымаюць жа. Нядаўна іду ў цырульню, а з-за паваротки тачанка вылятае... з кулямётам. Аслупянеў ад нечаканасці. Завярнуў за рог, а там натоўп і нейкі лысы на слуп узлез ды гарлае: «Адсуньцеся, вы перашкаджаеце!» Мой сваяк у тых здымках удзельнічаў. Надзелі на яго падштанікі, галаву крывавай анучай абкруцілі і паставілі да сценкі. Расстрэл камуністаў здымалі. Кіншчыкі тры рублі далі. Мы іх разам і прапілі.

Вуліца нечакана закончылася і наперадзе, на колькі хапала вачэй, разлілося бязмежнае возера. Возера свяцілася дзіўным сіняватым святлом, злівалася на далягля́дзе з такім жа сінім небам, таму здавалася, што заліло цэлы сусвет.

— Дзіўная назва — Селігер, — Вадзім тупаў па сцяжыне, не адрываючы вачэй ад азёрна-нябеснай бяздонніцы.

— У гэтых мясцінах калісьці фіны жылі. Яны так назвалі, — Мікалай прыпаліў чарговую папяросу.

— А што за агеньчыкі? — Вадзім паказаў рукой на гронку агнёў, якія калыхаліся на вадзе.

— Гэта на востраве. Ваенны завод. Рухавікі для ракет робяць.

— А туды нельга заплыць?

— Пропуск патрэбны. А сам востраў калючым дротам абкручаны. Не пралезеш.

«Неверагодна, — падумаў Вадзім, пазіраючы на гронку агнёў, — тут, поруч са зруйнаванымі цэрквамі і пашарпанымі камяніцамі з праселымі дахамі, робяць ракеты».

Тупкая сцяжына вывела на пагорак, і ўдалечыні, ці не на другім канцы возера, закволілася яшчэ колькі рознакаляровых агнёў.

— А там што?

— Турбазу нядаўна адкрылі. Раней манастыр быў. Нілавым называўся. У рэвалюцыю раздзяўблі. А зараз турыстаў запусцілі. П'юць там дзень да ночы.

— А хто ён такі, гэты Ніл?

— Святы нібыта.

Наперадзе залуналі відарысы вясковых хат. Нечакана Мікалай паляпаў далонямі па кішэнях, нібыта шукаючы штосьці.

— Слухай, пару рублёў не пазычыш? Трэба да сваяка забегчы... якога белагвардзейцы расстрэльвалі.

Праз імгненне асташкавец кінуўся да хаты, у двары якой заходзіўся ад брэху сабака.

— Каштан... фу! — пачулася ў цемры. Сабака кінуў брахаць і толькі ледзь чутна гыркаў.

Мікалай выплыў з цемры, трымаючы заткнутую папяровым пыжом бутэльку.

— Як сляза. Для сябе гоніць. Ленінградцы гасцявалі, казалі — лепшая за гарэлку, — голас Мікалая радасна звінеў. — Жонка страшэнная звяга. Магчыма, і зараз завядзецца. Але ты не звяртай увагі.

Пасля такіх слоў Вадзім пашкадаваў, што пацягнуўся сярод ночы немаведама куды і немаведама з кім. Ішлі ўжо хвілін дваццаць, а да Мікалаевай хаты так і не дайшлі.

— Сядзяць на маёй шыі, ды мяне ж і ўпікаюць, — змяніў радасць на злосць спадарожнік.

«Хто яго там, апроч жонкі, дапякае?» — падумаў Вадзім, і тут жа пачуў адказ:

— Цешча з намі жыве. Восемдзесят сем гадоў размяняла. І паміраць не збіраецца.

Калі ўваходзілі ў хату, госць затрымаўся на парозе, нясмела пераступаючы з нагі на нагу.

— Зноў нейкага п'яніцу вядзеш? — пачуўся з глыбіні хаты звяглівы жаночы голас.

— Які п'яніца?! Гэта студэнт. Ад цягніка адстаў.

Госць збіраўся ўжо шмыгнуць за дзверы, ды гаспадар махнуў рукой, запрашаючы заходзіць, і таму нічога не заставалася, як прайсці па рыпучых масніцах у святліцу.

— Пазнаёмся, мая цешча, — гаспадар з годнасцю паставіў на сярэдзіну стала няпоўна налітую пляшку самагонкі.

Цёшча — дробненькая, пахілая, з нядошлай, падобнай на пацучыны хвост, касой сівых валасоў на плячы — тулілася на жалезным ложку з нікеляванымі біламі і з цікаўнасцю лыпала вачанятамі.

Госць паклаў на стол два плаўленых сыркі.

— А адкуль жа вы? — прашамкала бяззубым ротам старая.

— З Полацка. Чулі пра такі горад?

— Як жа... чула. Мая маці да вас ездзіла.

— А навошта? — запытаўся зяць, выціраючы ручніком малянкоўскую шклянку.

— Як навошта... мошчам святой Ефрасінні пакланіцца.

— Прыдумалі — за свет перціся. Быццам у нас сваіх святых мала. Раскажы лепш пра Ніла... чалавек цікавіцца.

Старая перахрысцілася на трохражковае люстра, але нічога расказваць не стала. Тым часам Мікалай наліў самагонкі. Няшмат, дзесьці на два пальцы, паднёс шклянку цёшчы. Вадзім думаў, тая адмовіцца, але бабуля выпіла, прычым без закускі.

Мікалай наліў госцю. Самагонка была даволі моцнай, аж у горле перахапіла, і амаль не смярдзела.

— Пра святога Ніла? — ачулася раптам старая і, уздыхнуўшы, пачала аповед. — Нарадзіўся Ніл каля Ільмень-мора, і, як малым быў, прыйшоў да яго анёл і кажа: «Як вырасцеш, ідзі ў манастыр». І вось вырас, пайшоў у Пскоўград і пастрыгся там у манахі. І пачаў рабіць дзівы-дзіўныя...

— Якія дзівы? — запытаўся зяць, наліваючы самагонкі.

Госць махнуў рукой, паведамляючы, што больш піць не будзе.

— А вось якія... усчалася раз страшэнная навальніца, з маланкамі. Манастыр драўляны быў, пажару баяліся, манахі і звярнуліся да Ніла: «Ратуй нас ад агню нябеснага!» Стаў ён пад дажджом, узняў рукі да хмараў і як крыкне: «Разыдзіцеся!» Хмары і разышліся.

— Цяжкі выпадак, — прамармытаў зяць, нюхнуўшы хлебную скарынку.

Бабуля выцерла рукавом сцятыя вусны.

— І пачалі ў манастыр людзі прыходзіць ды прасіць у Ніла заступніцтва. Доўга так хадзілі, гадоў, мабыць, дзесяць. Цяжка яму стала людскія просьбы выслухваць, таму і збег з манастыра. І пасяліўся ў лесе, ля невялічкай ракі. Зрабіў сабе келлю і стаў з Богам размаўляць. І тут нехта пусціў чутку, што ў Ніла ў келлі золата схаванае, і заявіліся да яго злодзеі. Абрабаваць хацелі. А Ніл зняў са сцяны абраз, узняў над галавой, злодзеі глянулі на абраз і асляплі.

— У нас, калі ў дэпо працаваў, двое метылкі навярнулі. Таксама асляплі, — падаў голас зяць, але цёшча таго як і не чула.

— Стаў у той лес народ хадзіць, каб убачыць святога. А яму тое не надта падабалася, бо прагнуў пустэльнікам жыць. І тут ізноў з'явіўся анёл і мовіў: «Ідзі, Ніле, на Селігер. Там уратуеш душу».

— Анёл хадзіў, як я да сваяка на пахмелку, — выдаў зяць, і госць дакорліва перакрывіўся. Маўляў, не перабівай, дай паслухаць.

— І прыйшоў ён на Селігер і сказаў сабе: «На востраве буду жыць». Папрасіў рыбакоў, каб пераправілі на які востраў, вылез з чоўна і стаў зямлянку капаць.

— Не, людзі лес валілі, зямлю аралі, рыбу лавілі — яны не святыя. А гэты сядзеў у яме, хрысціўся на сонца — і ён святы?

Мікалай кепска варочаў языком і, наліваючы самагонкі, праліў міма шклянкі.

— Жыў на самоце, — працягвала бабуля, скоса пазіраючы на зяця. — Да яго адны рыбакі зрэдзь часу наведваліся. Рыбай частавалі. Ніл людзей наскрозь бачыў. Калі даваў рыбу грахаводнік, ніколі не браў, а калі бязгрэшны чалавек — браў і дзякаваў маліцьвенна.

— Колькі ведаю мясцовых рыбакоў — усе грэшныя. І дзе ён бязгрэшных бачыў? — перабіў цёшчу зяць.

Госць зноў перакрывіўся.

— А аднойчы прыплылі на востраў людзі з Асташкава. З сякерамі. Хацелі хвоі пасекчы. А Ніл выйшаў да іх і як гукне: «Ізыдзіце!» — бабуля, наследуючы святому, гаркнула як мае быць, і госць з гаспадаром спалохана адхінуліся. — Небаракі сякеры з рук выпусцілі і на зямлю павалiліся.

— Я сам траха не паваліўся, — зяць выліў у шклянку рэшткі самагонкі, — гарлаеш як апантаная.

Апавядальніца пакрыўджана надзьмулася і працягнула аповед толькі пасля таго, як госць даў ёй палову плаўленага сырка. Старая хуценька, як зайчыха, зжавала пачастунак.

— Увесь час святы праводзіў у малітвах і ніколі не клаўся ні на бок, ні на спіну. Нават спаў, седзячы.

— Як гэта? — уражана выдыхнуў госць.

— А так. Былі ў яго мыліцы зробленыя, ён на іх, седзячы, абапіраўся, і спаў. Казаў — у дамавіне адлежыцца. А яшчэ казаў, што некалі на Селігер жаўтатварыя людзі прыйдуць. І будзе іх шмат.

— Усё правільна, — пракаментаваў зяць, — жылі фіны, цяпер мы, а пасля нас кітайцы заявяцца.

— А як Ніл памёр? — пацікавіўся госць.

— Як памёр... прыплылі рыбакі, а ён ім кажа: хай святар прыйдзе, мне прычасціцца трэба, бо праз пяць дзён памру. Прыехаў святар, прычасціў, а дакладна на пяты дзень святы Ніл памёр. Праз колькі часу на месцы келлі манастыр пабудавалі. Прыгожа выглядаў. Асабліва раніцою. Гарэў на сонцы залатымі макаўкамі. А як прыйшлі камуністы, манастыр зачынілі, і манахаў разагналі.

— І правільна зрабілі. Абрыдлі ўсім гэтыя дармаеды, іх і разагналі, — Мікалай з цяжкасцю падняўся на ногі, паказаў на кушэтку і, прамармытаўшы: — Кладзіся, — падаўся са святліцы.

— У манастыры потым калонію зрабілі. Для малалетак. Яны адтуль часцяком збягалі. І да нас аднойчы дванаццацігадовы хлопец прыбіўся. Брудны, галава ў гузаках. Памыўся ў двары, маці яго накарміла. А наступным днём у дарогу выправіўся. Сказаў — у Таржок пойдзе. Радня там нейкая жыла. Не ведаю, ці дайшоў да Таржка, ці міліцыя злапала. А перад вайной у манастыр палякаў прывезлі.

Госць ускінуў брыво.

— Якіх палякаў?

— А Бог іх ведае. Палякі — і ўсё тут. Мы на тым беразе жылі, і іх праз нашу вёску вадзілі. Валакуцца, бедныя, а вакол салдаты са стрэльбамі. І ўсё есці прасілі. А што мы ім маглі даць, калі самі галодныя.

— А куды іх вадзілі?

— На працу ў Асташкаў. Царкву разбіралі. І друз на калёсах падвозілі ды ў ваду кідалі. Насып рабілі паміж востравам, дзе манастыр, і берагам. А потым іх не стала.

— А куды іх звезлі?

— А хто ж ведае. Пасадзілі ноччу ў таварныя вагоны ды павезлі.

Старая яшчэ нешта казала ды Вадзім не стаў слухаць. Пстрыкнуў выключальнікам, паваліўся на кушэтку. Спаў не распранаючыся. Толькі пінжак зняў ды павесіў на спінку крэсла. Бабуля крыху пабалбатала ды аціхла. На бок, аднак, не кульнулася. Можа, яна, як святы Ніл, звыклася седзячы спаць? За сценкай натужна хроп гаспадар, а пад кушэткай зацята спяваў цвыркун. Вадзім згадаў, як пасля першага курса іх паслалі «на бульбу» ў Глыбоцкі раён, і ён жыў у такой жа старой хаце. Там, за печчу, таксама спяваў цвыркун, і гаспадыня хаты, цётка Яніна, казала, што той спявае на пагоду. На сцяне хаты вісеў партрэт хлопца ў рагатай польскай фуражцы. Ён, вядома ж, пацікавіўся — хто такі? «Брат мой, — патлумачыла цётка Яніна, — памежнікам служыў у Друі. Саветы забралі ды ў Расею павезлі. Толькі аднаго ліста і атрымалі. Напісаў, што жыве ў манастыры на беразе вялікага возера, і што хутка павінен вярнуцца. Але не вярнуўся. Саветы забілі». Ён яшчэ тады абурыўся. Як гэта — забілі? Яны што, фашысты нейкія, каб у палонных страляць?

Амаль не бачная ў цемры бабуля па-ранейшаму сядзела нерухома і — Вадзім адчуваў гэта, — зацята на яго глядзела.

— Чаму не спіцё? — спытаў нарэшце, безліч разоў крутнуўшыся на прадушанай кушэтцы.

— А я, добры чалавек, ноччу рэдка сплю. Удзень на гадзінку прыкархну — і мне хапае.

Спаць пад бабульчыным позіркам было не надта прыемна, таму Вадзім доўга не мог заснуць, але вось павярнуўся тварам да сценкі і яму прымроіўся святы Ніл. Той сядзеў у глыбокай яме, загорнуты ў чорны хітон з капюшонам. На капюшоне бялеў вышыты праваслаўны крыж. А калі прымружыў вочы, убачыў, што гэта не святы Ніл, а рэцэнзент.

— Згубіў дыпломны праект? — прасіпеў рэцэнзент. — А ён вось дзе, у маіх руках. Зараз ты ў мяне, бляха, аслепнеш! — рэцэнзент узняў тэчку з тлумачальнай запіскай і давялося ў жаху адступіць ад краю ямы. Ён азірнуўся. Бабуля, якая дагэтуль моўчкі сядзела на ложку, скінула на падлогу сінія ногі і, выставіўшы кашчавыя пальцы, рушыла ў ягоны бок. Пры тым яна не ішла, а паволі плыла, не датыкаючыся нагамі маснічын. Бязгучны лямант захрас у горле, і ён размежыў павекі. Зыркае святло адбірала вочы. Сэрца стукала шалёным дзятлам і збіралася вылецець з грудзіны. Вадзім выцер далонню ліпучы пот з ілба, перавёў дых. Бабуля ціха сапла. Самагонка ўсё такі яе змагла. Вадзім пасунуўся да дзвярэй, потым вярнуўся, прыхапіў пінжак і выкуліўся з хаты. Доўга стаяў ля куста, дыхаючы ранішняй прахалодай, затым падышоў да возера. Яно мела ружовы колер, і на водным люстры белым вэлюмам ляжаў празрысты туман. У хату вырашыў не вяртацца. Застанешся, а Мікола ад ранку пачне грошы прасіць на пахмелку, — мільганула ў тлумнай галаве. Лепш прайдуся па ранішнім горадзе, пасяджу ў якім парку, знайду сталоўку, бо з галадухі ў чэраве бурчыць. Ён пашыбаваў па вясковай, шчыльна застаўленай старымі хатамі, вуліцы. Ля хат, што самае дзіўнае, не было гародаў. І як яны тут жывуць? — падзівіўся Вадзім, і ў гэты момант ля крайняй хаты залівіста забрахаў сабака.

— Каштан! Свае! — крыкнуў ён сабаку, і той, спыніўшы брэх, выбачальна заскавытаў.



# Руслана Мельнічук

украінская паэтка. Скончыла Вінніцкі педагагічны каледж і Вінніцкі педагагічны ўніверсітэт ім. Міхайла Кацюбінскага. Сябра Нацыянальнага саюза пісьменнікаў Украіны з 2010 года. Аўтарка паэтычных зборнікаў «Заручаная з ветрам» (2002 г.), «Валянцінка» (2002 г.), «Месца пад дажджом» (2005 г.), «Кармічная любоў» (2019 г.). Лаўрэатка прэмій «Падольская пектараль», «Малахітавы насарог», «Падкова Пегаса». Нарадзілася ў 1986 годзе ў сяле Ёсіпаўка на Вінніччыне. Жыве ў Вінніцы.

## Уцеш мяне, няўцешную, прашу...

* * *

О, колькі слоў! І колькі фарб у іх!
Як не тварыць тут вершаў, сугалоссяў?
Ды толькі ні адно са слоў маіх,
вер, да цябе яшчэ не дацяглося.
Я сею іх, я паліваю, жну...
Я іх галублю і над імі млею...
Але яны мялеюць і малеюць,
як імі пра цябе я гавару.
А можа, мы абыдземся без слоў?
Ад іх асобна сядзем у сталовай...
Каб мы маглі... Каб так усё было...
Ды мы маўчым — вядуць размову словы.
І коцяць з гор пачуццяў камяні,
але куды —да пекла ці да раю?
У вусны я, у вочы слоў тваіх,
як быццам у крыніцу зазіраю.
О, колькі лета!.. Лецейка ў табе!..
Ці трэба ставіць коску — невядома.
А словы йдуць — у шчасці, у журбе.
Імкнуцца да цябе, нібы дадому.
І я стаю бязмоўная між фраз,
перабіраю рыфм апалых лісце.
І ў поле йду па словы, што да нас
яшчэ не дараслі, не дацягліся.

### Сыну

Шчасце трапяткое на плячы
на маім па-восеньску ўмірае.
Што я маю, мілы, у жыцці?
Толькі тое, што не забіраюць.
Ведаеш, на мелі караблі
свет прарэжуць вострымі плячыма.
Што я маю, мілы, у жыцці?

Толькі тое, ў чым няма прычыны.
Ставяць за?мкі мудрыя цары,
світаю акружаныя босай.
Што я маю, мілы, у жыцці?
Толькі гэту роспачную восень.
Падагрэем вечар на агні.
Хлебчыка пароўну ўсім пакроім.
Што я маю, мілы, у жыцці?
Толькі незабыўнае, святое.
Падганяе свет усё, што ёсць,
пад свае стандарты і лякалы.
Ведаеш, чужое, не маё,
я ў жыцці ніколі не чапала.
Тое, што пячэ, смыліць, гарчыць,
родны мой, адразу забываю,
Калі тваё «мама» уначы
я сваёй пяшчотаю ўкрываю.

## Фортэ

Розным цябе я помню, але найперш ты —
хлопец вясковы за высачэзным парканам,
з ахапкамі фраз і слоў, з букетамі вершаў...
Фортэ, піяна, фортэ, піяна, п'яна...
Вось твой парог — быццам бы хаты прадмова.
Неба табе спрыяе, з табою дружыць...
Хлопчык мой, столькі ўсяго я сказаць гатова.
Мілы мой,
грэшны мой,
першы,
апошні,
дужы...
Якія табе яшчэ нашаптаць сакрэты?
Дзе тая сцежка, што ў час прывядзе на споведзь?
Ззаду цябе бязгучна ўмірае лета,
а разам з ім і апошні ўспамін сыходзіць...
Вось ты стаіш ля мяне гэтак блізка-блізка.
Вось ты кранаеш мяне, як вецер — восень.
Проста прайдзі ўжо міма і... памыліся,
і за мяне памаліся, калі захочаш.
Грушы ўрадзілі у садзе... яблыкі... слівы...
Ломяць упарта дрэвам прыгожыя рукі...
Я абяцала табе: мы будзем шчаслівыя...
Будзем шчаслівыя, нават калі разлука...
Будзем шчаслівыя, нават калі расстанне...
Чуеш, каліна ў садзе ўздыхнула ціха?
Тут недзе побач — сумнае наша каханне,
нашы с табой агульныя выдыхі-ўдыхі...
Розным цябе я помню, але найперш ты —
той, што ў самае сэрца, якраз у аорту...
Хлопчык мой, хлопчык, Ніцшэ мой наймудрэйшы...
Фортэ,
піяна,
фортэ,
піяна,
фортэ...

* * *

Уздоўж дарогі яблыневы цвет.
Штораз танчэюць тонкія світанкі.
Яшчэ крыху — і сцягнуцца ўсе ранкі
Вясны. І прыйдзе Лета лет.
У ім ты будзеш стрыманы такі,
такі натхнёны і такі калючы.
А лета нам кашолку шчасця ўручыць.
Кашолку шчасця і мяшок тугі.
Ці браць нам дар ягоны палявы,
Падкажуць сэрцы звонкімі штуршкамі.
І будзе лета працякаць між намі
малінавым варэннем між губамі
у нашы патайныя астравы.
У свеце мы сустрэнемся цяжк??м,
і ўсё да слова спросціцца імгненна.
Маё імя твайму ідзе адменна,
як быццам нарадзілася у ім.
Табе на плечы рукі апушчу.
Не забывай мяне на доўгай ніве...
Уздоўж дарогі яблыневы лівень...
Уздоўж дарогі раны ад дажджу...

## Снягі

Снягі, снягі... Сняжацца і сняжаць...
Снягі, снягі — нібыта цуд калядны...
Па вуліцы дзяўчо ідзе і ў шаль
душу сваю захутвае паглядна.
Мне без цябе халодна дзень за днём.
Я без цябе — як у рацэ палонка.
Ідуць снягі за тым малым дзяўчом.
У зімным свеце рвецца ўсё, што тонка.
Паведай мне, што ты вячэрні снег.
Што ты існуеш. Што цябе багата.
Каляднікі ідуць не ў нашу хату,
і хата сустракае іхні смех.
Схавай мяне ад свету, ад гарот,
у белы кажушок і рукавічкі.
У садзе уздыхаюць зноўку вішні
і снег страсаюць лёгенька з варот.

Я ведаю цяпер, хто ў вокны стукаў.
І не кажу «ідзіце!» ўжо снягам.
Дзяўчо малое — быццам чыйсьці смутак.
І чорны свет у белы шаль ухутаны,
як з крыламі малочнымі груган.

## І што мне...

І што мне сёння гэты двор і хата,
і што мне тыя торпы спарышу,
калі я так пакутую ад страты,
калі цябе у вечнасці прашу?

І што мне да сяней спусцелых гэных,
і што мне гронкі гэтых дум і кроз,
калі цяпер вось ты жывеш на сценах,
у рамах з кветак, сонца і нябёс?

О, як цябе ўжо побач небагата!
«Ды соль не ў гэтым», — розум кажа мне.
А можа, ты — той двор, спарыш, і хата,
і мальвы, што квітнеюць пры акне?

## Лета

Лета — гэта калі ракавінкі дзявочых вушак
выцалоўвае мора.
Калі яблыкі на бляхах сушаць
пад самымі зорамі.
Калі на паляне столькі ягад,
што яны выцякаюць, як з дзяжы цеста.
Калі ўвесь свет расказаць табе ма?ю смагу,
а вершам — цесна.
Лета — гэта дзевяць месяцаў маўчання,
у якім нараджаецца Слова.
Гэта страты і забыванні
таго, што знаходзіш нанова.
Гэта калі яблыкі па?даюць у абдымкі траў
і ляжаць ціха-ціха.
Гэта найсмачнейшы у свеце ўзвар
з тваіх выдыхаў і ўдыхаў.
Улетку выходзіш з хаты на ганак
прыблізна а пятай —
і цябе абвівае заспаны ранак
у расе па пяты.
Лета — гэта вусны мае, згаладалыя
па тваім пяшчотным дотыкам.
Мора, што ловіць дзяўчат за талію
і весяліць анекдотамі.
А ты — капітан гэтага лета, Рэй!
Я млею і млею спрагнела,
калі прышвартоўваеш свой карабель
да берага майго цела.

* * *

А жнівень выжне лета да мяжы.
Яму не па дарозе болей з намі.
Папярэдзе ўжо вецер вітражы
малюе вераснёвымі мазкамі.
Так коратка былі мы удваіх,
і гэты час змяніў нас назаўсёды.
Хай лета адбаліць. Яшчэ хоць міг
счакай, не йдзі ў асеннюю лагоду.

Спазнаў ты сотні, тысячы дарог,
сустрэч і развітанняў забагата.
Глядзі, вунь лета села на парог
і не пускае верасень у хату.
І я цябе нікуды не пушчу,
спаўю твой свет у срэбра павуціння...
Як немаўля, мелодыю дажджу
люляе неба ў пульхнай аблачыне.
І пойдзеш ты ў халодны лістапад.
Не азірнешся нават на хвіліну.
Пакінеш мне парожні гэты сад,
і грушу ў ім, нібыта пупавіну.
І неба стане белым палатном,
і восень скіне хутка басаножкі,
і жнівень пусціць верасень у дом,
яму абмыўшы пальчыкі на ножках.

* * *

Не муч мяне і не балі.
Якраз у сэрца майго саду
прыходзіць сонца па спагаду
да зорак, месяца, зямлі.
Сцякай з мяне! І выплывай!
Ды човен кінь — і ўброд! Не бойся!
У самым цэнтры твайго войска
спрэс тапалі —не забывай!
Калі ж не вернешся з баёў,
забудзеш ці пагібель стрэнеш, —
я стану сэрцам на калені,
памкнуся ў полымя агнёў.
Як заміж восені — зіма,
як заміж дзён — сырыя ночы,
цалуй вачыма мае вочы,
бо губ ужо даўно няма.
Спыніся тут хоць, на мяжы,
стрынож каня, скамандуй: «Годзе!»
У леце нашым восень ходзіць,
малюе лісцем вітражы.
Нам бы буяць, расці, цвісці,
а нас чакае развітанне...



Як адпрасіцца у кахання?
Выгледжваць у якім жыцці?
Калі і дзе? Дзе і калі?
Так лістапад за лістападам
мінуцца дрэвы з майго саду
і з твайго войска тапалі.
Не муч мяне
і не балі...

* * *

Яднае нешта стоенае нас,
якаясь душ і цел нямая змова.
Твой доўг даўно сплаціла я спаўна,
і мой ужо сплаціў ты мерай поўнай.
Змаглося сонца, сперлася мацней
на дрэўца найвастрэйшую матыку.
Пасеяла ў нябёсах і ўва мне
любові трохі, а ўзышло — без ліку.
Мяне не думай, і мяне не кліч.
Пакінь вось тут, самотную, у лесе.
І вуснамі праменістых суніц
цябе спяваць пачну я, быццам песню.
Застыне ў паднябессі жуpавель,
лісты забудуць прагных адрасатаў.
І будзеш ты, і будзеш ты, і дзень,
якім дзяліцца схочацца заўзята.
І будзе ў ім прыгадак цэлы рой,
і мар — бы ў кавуне буйным насення.
І прыйдзеш ты ў самотны мой пакой,
які цябе збянтэжана сустрэне.
І будзе ў твар нам чэрвень заглядаць,
шукаць там ці то радасць, ці то страты.
Яднае нешта нас, адно, відаць, —
што мы — лісты... лісты без адрасатаў.

## Ты — мне...

Зорка мая, лада мая, не...
Сэрца ў мяне ты ўжо назаўсёды забрала...
Столькі чаканняў на гэтых сумных вакзалах —

болей чым лісця ў восені на рукаве...
Мара мая, мілка мая, мы...
Птушкамі з неба добраслаўляем Планету...
Колькі б цябе ні сціскаў у абдымках нямых —
мала мне, дзіўна мне, светла...
Лета маё, любасць мая, лю...
Мой ледавік пад паглядам тваім растане...
Колькі б табе ні казаў пяшчотна «люблю» —
вечна выходзіць так, як на першым спатканні...
Вернасць мая, вечнасць мая, ве...
Косы твае расчэша грабеньчык пальцаў...
Вышыла восень лістотай на рукаве
вочы твае, вусны твае, пальцы...
Верасень стукае. Восень прыйшла ўжо, вось.
З ёй падзялю я пахкага хлеба кавалак...
Зорка мая — гэта тое, што змыла рось...
Роднасць мая — гэта тое, чаго
не стала...

* * *

Уцеш мяне, няўцешную, прашу.
Развей мой неразвейны сум у лёсе.
Так хочацца цябе, нібы дажджу.
Ды дождж, мінуўшы лета, мкнецца ў восень.
Спяшаецца ў глыбіні ўласных луж,
у многапавярховасць свайго неба...
Мяне краніся словамі, паруш
усе табу, што як нажом пад рэбры.
Схавай людскія «нельга» на вякі,
хай гэтая любоў дажджы дагоніць.
У восень з лета едуць цягнікі.
Сыходзіш толькі ў верасні з вагона.
Здзіўляешся ўсім зменам, як табе,
а дождж ідзе у чаравіках зношаных.
А дождж ідзе. А дождж ідзе ўва мне.
Як лініі у прапісі, йдзе скошана.
І ты ідзеш за ім. І жаль цішком
ракоча ў маім сэрцы, як у рыне.
І я гляджу разгубленым дзяўчом,
як ты знікаеш хутка ў далячыні...



Уцеш мяне, няўцешную, прашу.
Развей мой неразвейны сум у лёсе.
Так хочацца мне зноў таго дажджу,
які з майго йдзе лета ў тваю восень...

**Пераклаў на беларускую мову Дзмітро Шчарбіна.**



# Міхайла Сідаржэўскі

украінскі паэт, празаік, публіцыст. Закончыў факультэт журналістыкі Кіеўскага ўніверсітэта імя Тараса Шаўчэнкі. Галоўны рэдактар « Украінскай літаратурнай газеты». З 2014 года — старшыня Нацыянальнай спілкі пісьменнікаў Украіны. Аўтар паэтычнага зборніка «На паўдарозе паміж абодвума светамі», кніг публіцыстыкі ды эсэістыкі «Час фарысееў і герояў». Вершы перакладаліся на польскую, балгарскую, сербскую, славацкую і рускую мовы. Нарадзіўся ў 1958 годзе ў вёсцы Стары Салотвін на Жытоміршчыне. Жыве ў Кіеве.



## мне тут халодна без цябе...

* * *

паспяшай.
бо ўсё мімалётна пад вечным небам
будзе цемра
і змрок начы.
і жніво самотнае пакоры
і плёс шырокі
вольнае ракі
заглыбленае
у бязмежжа

* * *

Божа мілы,
гэту кару ты паслаў маленькім людзям!
розум грэшным
навошта даў?
каб адабраць,
і пакараць —
за тое,
што сэрца цярплівае,
дух салодкі і кволы,
а цела вечна прагне вырвацца на волю...
ды распінае душу д'ябал...

* * *

Можа, ты забыўся,
як падала неба на зямлю
а ты, разчаўлены,
знявечаны
трымцеў ад страху?
падкошваліся калені
і абрывалася ў глухое прадонне сэрца —
ты бачыў дзіўны сон нябыі,
які стаўся жыццём,
матылёк бессамотны,
матылёк бестурботны,
вось кветка твая у шырокім полі,

і вось твой праменьчык высока ў небе
лятай-лятай, матылёк,
яшчэ яснае сонца свеціць,
а цёмная ноч шчэ далёка,
вось вецер дзьмухае,
а прастор аж да паднябесся твой,
пакуль яшчэ можаш таньчыць
і лёгкія крыльцы
трымцяць
у чыстым бясхмар'і —
радуйся-радуйся,
спявай-спявай,
так Богу ўгодна,
бо шчэ не час,
шчэ не пара.
не спяшай,
матылёк гуллівы,
лаві гэты промень крыльцамі сваімі,
глядзі, як ён купаецца
на хвалі бесклапотнай,
якая лёгкая яна,
якая пекная
у гэты дзіўны міг
цялеснай асалоды,
як хоча пяшчоты,
і як смяецца
крышталёва-чыста,
непараўнальна-звонка —
пазайздросці ёй,
яна твая...

## калі ў мяне цябе багата...

...гэты вечар пакорліва кладзецца ў перламутравы ложак, як сон,
у якім хтось з абярэмкам месячнага святла
на дыбачках крадзецца пад тваімі вокнамі...
вось мільгатлівы цень,
і вешчы знак на тле сцьмянелага наўколля,
І жоўты абруч на нябесным пергаменце...
так пустэльна наўкола,
так пустэльна ўгары...



можа мне прыздалося
гэта млоснае жаданне цішы
і хцівы выгляд стомленага саду,
і рэха спаначэлага дня...
тут сутонне самахоць кладзецца пад ногі,
гэта знак, што сасмяглая ноч засынае няўзнак, —
там дзе чорныя вольхі,
як чорныя ўдовы,
уздоўж насцярожанага берага,
і сцішаны плёскат ракі,
і сяйво маладога месяца
над цёмным
бяздоннем
вады...

* * *

*памяці таты*

мы з татам касілі атаву
скупое лета
клалася ў куце пакоса
над гаем заходзіла цьмянае сонца
і гаснуў выцвілы дзень

а потым тата пайшоў сцежкаю
між няскошанай травы
уздоўж неба

* * *

... тады, калі ўсё застанецца ззаду,
на свеце адразу паўстане ціша,
а за вакном на ўсе бакі да вузкай смугі небасхілу
ляжацьмуць сляпуча-белыя бязмежныя снягі;
такія, нібы міласэрны Госпад
упершыню сышоў на гэтую зямлю,
каб дабраславіць яе,
і не сонца сляпіцьме вочы нясцерпным святлом,
і не белая завея духмяных яблыневых пялёсткаў
укрывацьме пакорныя пагоркі і паснулыя, змярцвелыя
закутаныя ў халодны саван паніклыя палі;

чысты снег той зімы пахавае сляды
чорнай цяжкое восені і халодных трывог;
восені, у якой наўскос, напярэймы,
уперамешку з вогненнымі стрэламі
ішлі халодныя дажджы,
і кроў падступала да горла,
а неба трывожна налівалася свінцом
і чорным смярдзючым пажарам
і сівела нізкімі барвовымі дымамі...

* * *

як асенні лісток
на студзёных вятрах
я сціраю бяссілле жыцця
з небасхілу памяці —
недамоўленае
несказанае
падаю са стромкага пясчанага абрыву
зубамі чапляюся за пясок
за корні дрэваў
за танюткія сцяблінкі травы
а ногі бездапаможна тонуць
імкліва спаўзаю ўніз
там аслеплы туман
там салёная кроў
там паражнеча дзён пражытых
і горкі палын...

* * *

вешняя мая,
радасць майго сэрца,
без цябе самотна і парожне
пад халодным і трывожным небам...
паглянь
наша дарога
ад саду расквітнелага
да зіхатлівых снягоў
гэтай шэрай бязлітаснай зімы
ляжыць праз пустэчу
спаленай радасці...



тут вецер страчаных надзей
і сівая туга...

салодкая мая,
мы ўцякалі,
ды не змаглі ўцекчы туды,
дзе мы з табою
будзем неразлучныя...
там два чорныя сонцы
і празрыстыя слупы
падпіраюць высокае неба,
там жоўтыя кветкі
і застыглы прастор,
і чырвоныя пацеркі
чужых каханняў...

светлая мая,
ты бачыш знакі,
ты прыдумляеш хімеры,
а нашы душы
нясцерпна
баляць адна за адною,
скажы,
навошта
мы адпусцілі птаха
у нябёсы
у гэты спустошаны дзень
без крыл?..

кветачка мая,
а хочаш
я сагрэю дыханнем
твае рукі,
схаваўшыся тварам
у чоўнік тваіх далоняў...
а хочаш
я аддам
сваю цеплыню табе,
бо ты мая палавінка
на гэтым свеце...

а хочаш
будзем разам
у наступным жыцці?..

родная мая,
боль майго сэрца,
нам не жыць адным жыццём,
нам не дыхаць адным дыханнем,
нам не дзяліць цеплыню на дваіх...
прашу:
адпусці...

* * *

ты сказала,
што стыне кроў і гасне дзень,
й так мала сонца і багата смутку,
і ў вочы ноч заходзіць як агонь ў пустое сэрца,
й злятаюць птахі, трывожна крыламі б'ючы...

а я кажу табе:
вось шалясціць трава у нашым узгалоўі
і яблыневы квет услаў, як снег, пасцель
на прасціралах жарсці і кахання
і свет ляціць за намі ў сонечную прорву...

ты сказала:
вось кветка звялая пад сонцам спаленай пустыні
і стала ценем сярод лета ў паражнечы саду
і свет вар'яцкімі вачыма глядзіць на нас...

а я кажу табе:
а памятаеш нястрымнае трымценне вясновага скерца
і дом у засені сасновай
і смех дзіцячы ў мроіве начэй
й салодкі танец Пасейдона у зіхаценні хваль салёных там,
дзе на пяску сляды світаюць тваіх ног...

ты сказала,
што ўсё мінецца
і жоўтае лісце з пакорай лягацьме пад ногі ў самотную восень,



і белых завеяў крылы счужэюць
і попел сівы неспатольных жаданняў лятацьме ў паветры
у невядомасць, пахаваную ў халодны змрок...

а я кажу табе:
я знаю цябе тысячу гадоў
і тысячу гадоў цябе кахаю...

* * *

так зімна мне
сярод парожняй ночы
у студзеньскай завеі
сам-насам з цемрай...

так цяжка мне
развітвацца
чакаць
у бязвер'і
і жыць нанова
пад скляпеннем тугі...

так горка мне
у прадчуванні далёкае дарогі
ўглядацца
і не бачыць,
як сонца радасці заходзіць
у тваіх вачах

так самотна мне
у зіхаценні снягоў
маўчаць
і не чуць
як цішу разрывае сэрца...

## Не йдзі!

....адвыкаю ад абыякавага неба
і ў завірусе бессэнсоўных сноў
паныла гасне
куцы бязрадасны дзень —

як свечка ціха дагарае...
адвыкаю ад сонца
і ў цісках марноты й цярпення
халодны шэры свет
асуджаны й парожні...
адвыкаю ад дажджу
за апошнім акном
бо сплывае час пакуты
і цені па кутах
хаваюць
маю шэрую замшэлую тугу...
абвыкаю ад радасці
і панура чакаю вечара
захаванага ў смерць...
адвыкаю ад халоднага болю
ў сцішаных грудзях
адвыкаю ад агню
ў пякучых жылах...
звыкаю жыць
на скошаным іржэўніку
пад самотным скляпеннем неба
без цябе

* * *

мне тут халодна без цябе
у няспыннай плыні святла
гасне мёртвае вока
і пярэстыя музыкі
на нашым вяселлі
граюць мелодыю
вечаровага сонца
танцуйма, мілая
бо сонца ўжо сядае
у чырвоную пярыну
па той бок ракі
і плача неба
гэта дождж ці твае слёзы
гэта мелодыя ветру
ці малітва крыві



танцуйма, мілая
на чатыры дарогі
на свяце чужой восені
я кранаю рукамі
тваё цела
і будзе цёмная ноч
і наша кроў застыне воскам
жоўтым, цягучым
як спустошаны дзень
вось човен
засланы белымі лілеямі
вось наша шлюбнае ложа
ў малочным тумане
і хвалі гайдаюць нас
а ты знаеш што лісце
ужо засцілае зямлю
і тужліва галосяць
асеннія нябёсы

**Пераклаў на беларускую мову Эдуард Акулін.**



# ВЕРАСЕНЬ

# КРЫТЫКА

# ПУБЛІЦЫСТЫКА

# Э С Э

сяргей панізьнік алесь бяляцкі
ала петрушкевіч сяргей чыгрын
кастусь герашчанка васіль жуковіч
эдвард галустаў генадзь лапацін
анатоль трафімчык эдуард дубянецкі



# Сяргей Панізьнік

**паэт, перакладчык, публіцыст. Аўтар кніг паэзіі: «Кастры купалля» (1967 г.), «Крона надзеі» ( 1975 г.), «Чало і век» ( 1979 г.), «Мацярык» (1985 г.), «Стырно» ( 1989 г.), «На падкове Дзвіны» (2019 г.) і інш. Нарадзіўся ў 1942 годзе ў вёсцы Бабышкі Міёрскага раёна на Віцебшчыне. Жыве ў Мінску.**



# Хамутоў не зналі коні продкаў...

*Да 90-годдзя Уладзімра Караткевіча*

***Іскрынкі-бурштынінкі ад незабыўных сустрэч з паэтам, празаікам, драматургам, публіцыстам, перакладчыкам, сцэнарыстам, мастаком і співаком, а ўвогуле — з класікам, народным пісьменнікам разлеглай па ўсіх мерыдыянах і паралелях Караткевічаўскай Беларусі.***

У 1967 годзе я, выпускнік факультэта журналістыкі Львоўскага ваенна-палітычнага вучылішча, дзякуючы падтрымцы Максіма Танка, Янкі Брыля быў накіраваны на службу ў 120-ю гвардзейскую Рагачоўскую ( а для мяне і Караткевічаўскую!) дывізію, размешчаную ва Уруччы пад Мінскам.

Першы клопат лейтэнанта — салдацкая газета. Але ўжо быў выдадзены зборнік «Кастры Купалля». Мой літаратурны настаўнік Рыгор Барадулін паспрыяў, каб мяне прынялі ў Саюз пісьменнікаў. Ён мяне натхняў на стварэнне новых паэтычных радкоў. Яшчэ напачатку 1967 года пераслаў мне ў Львоў для бадзёрасці такі жарт: «Вершы твае з «ЛіМа» Валодзя Караткевіч чытае на памяць».

У тым жа 1967 годзе ва Уруччы быў напісаны верш, які пачынаўся радкамі: «Зацугляю здзіклага каня, / каб узвіўся на лясной дарозе...», а заканчваўся так:

*Курганамі, па слядах падкоў*
*праляту, і шлях мой — некароткі*
*выглядзець праз млужніцу вякоў:*
*хамутоў не зналі коні продкаў,*
*не цярпелі коннікі акоў.*

Калыхнуліся мае ногі, калі аднаго разу пры сустрэчы з Уладзімірам Караткевічам пачуў ад яго незвычайнае прывітанне, а з узмахам рукі вясёлы воклiч: «Хамутоў не зналі коні продкаў!» І так паўтаралася некалькі разоў.

Вось і падумалася, а як жа мне ўлагодзіць прыязнага чалавека? У тым жа 1967 годзе напісаўся верш «Кругі застыглага рэха». Пазначыў прысвячэнне: «Уладзіміру Караткевічу». А саграваў стрэмкі душы сустрэча з ім яшчэ ў 1963 годзе: гэта ён запрасіў мяне з кіеўлянінам Рыгорам Піўтараком наведаць купалаўскую Вязынку. Але чароўнае Купалле ўслаўлялася ў вершы не толькі полымем агнёў, але і рэхам, ачунелым на сонцы, ад прачытаных тэкстаў напатканага мною незвычайнага Творцы:

*На прыберагу вогнішчы палілі.*
*Узнёсла людзі размаўлялі з рэхам*
*затокаў выгінастае ракі*
*і парасніка па-над жоўтай стромай.*
*Але ад вокличаў, неасцярожных рухаў*
*з абрыву заструменіў жаўтапесак*
*цяжкім надавам на ўсплескі вогнішч.*

*І доўга шчэ курчавілі дымы,*
*з-пад жвіру завільжалага цурчэў*
*глыбінны жар на рыхлыя бугры.*
*І людзі, адыходзячы ў маўчанне,*
*адзначылі застыглым рэхам круг,*
*дзе толькі што спявалі свае песні.*
*Каб некалі шукальнікі ў раскопках*
*убачылі пад знятымі пластамі*
*адмеціны ад полымя агнёў,*
*узнялі несатлелае вуголле...*
*І выпусцілі з прысыпу жарствы*
*засмужаныя выгукі узлескаў,*
*вясновы пах чаромхавай кары*
*і рэха, ачунелае на сонцы.*

Верш «Кругі застыглага рэха» быў надрукаваны ў маім зборніку «Палявая пошта» за 1972 год. Я гэтую кніжачку падараваў Уладзіміру: карэспандэнт дывізійнай газеты адной з вайсковых частак Цэнтральнай групы войскаў, размешчанай пад Прагаю... А як мне забыць тое развітанне, калі восенню 1969 года я адпраўляўся на службу ў ЦГВ з такім наказам Уладзіміра Караткевіча: «Ты ж толькі там не страляй: чэхі — нашы браты!» Ніколі не думаў, што на зямлю, дзе знайшоў свой апошні прытулак першадрукар Францыск Скарына, дзе яшчэ чуецца чароўны голас Міхала Забэйды-Суміцкага, я прыбуду не ў цывільнай апратцы. Было такое: папрасіў прабачэння ў чэхаў за сваю прысутнасць у вайсковай форме... Аказалася, што гэта прагучала на некалькі дзясяткаў гадоў раней за Гарбачова...

І вось адбылася мая першая сустрэча ў Празе са слаўнавядомым сябрам Беларусі перакладчыкам, прапагандыстам беларускай літаратуры ў свеце прафесарам Карлава ўніверсітэта Вацлавам Жыдліцкім. Але на хвіліну загарнуся ў 1972 год. Перад вяртаннем з адпачынку ў Мілавіцу над Лабай, што за 30 вёрст ад Прагі, Уладзімір Караткевіч падарыў мне дзве свае кнігі і папрасіў выслаць яму кнігу «Kralovska pomsta» («Дзікае паляванне караля Стаха» пераклаў на чэшскую мову яго сябар Вашак: так ён называў Вацлава Жыдліцкага). Праз некаторы час я атрымаў ад прафесара Карлава ўніверсітэта гэтае выданне з дарчым надпісам, які заканчваўся такімі словамі:»...каб людзі ведалі, што аўтара цанілі за мяжой даўно да той заслужанай ацэнкі на яго Радзіме».

Дарэчы, Уладзімір з жонкай Валянцінай Браніславаўнай пасля наведання Славакіі пабывалі і ў Празе. 1 ліпеня 1973 года іх сустракалі на надражы (вакзале) Вацлаў Жыдліцкі і я. Пасля частавання на кватэры Вашака, мы трапілі на вуліцу Польска, 12 — у сціплы закуток Міхася Іванавіча Забэйды-Суміцкага. Прагуляліся і па чароўным Рэгравым садзе. Займеў тады наш спявак падарункі ад аўтара і перакладчыка.



Прыстаняў на планеце Караткевіча не пералічыць. 17 ліпеня 1966 года ён з Рыгорам Барадуліным гасцяваў у Юрмале ў доме маіх бацькоў і сястры. Даведаўся курсант ЛВВПВ, будучы на стажыроўцы ў мінскай рэдакцыі акружной газеты, што нашы «перакрадчыкі» (так жартаўліва назваў перакладчыкаў Рыгор) знаходзяцца на лецішчы сабрыса Ераніма Стулпана. А потым былі сустрэчы мае з Уладзімірам зноў жа ў Юрмале ажно праз 10 гадоў. Караткевіч падружыўся з латышом Еранімам Стулпанам падчас іх вучобы ў Маскве. Не разлучаліся, і Уладзімір стаў хросным бацькам для дачкі Ераніма.

Быў на іх бурлівай сустрэчы ў Доме творчасці ў Дубултах. Зноў Караткевіч — пад ветразямі гумару. Давялося і мне прапанаваць жартоўны тэкст нібыта для стварэння мемарыяльнай дошкі вечнай дружбы:

*«Как жили! Всё — глотком одним.*
*Как море бороздили!*
*Seit: Караткевіч Jeronim*
*un Stulpans Уладзімір».*

«Адпомсціў» мне за гэта Уладзімір шаржам з надпісам: «С. Панізнік п'е і п'е кактэйлі ў «Акадэміі». У. Караткевіч, 7 снежня 1976 г.» («Акадэмія» — кавярня пры Доме творчасці ).



*З Яўгеніяй Янішчыц, Вацлавам Жыдліцкім, Алесем Барскім, Міколам Маляўкам, Міхасём Стральцовым, Алай Сакалоўскай, Міколам Прашковічам, Валянцінай Котун, Уладзімірам Янкоўскім і Сяргеем Панізьнікам*

Латвійская тэматыка ў творчасці Караткевіча вялізная. Аўтар «Казак Янтарнай краіны» быў неверагодна ўшанаваны латышамі. Да прыкладу, у 1976 годзе накладам у 15 000 асобнікаў была выдадзена «Чазенія» Караткевіча ў перакладзе Мірдзы Абалы. Захаваўся і такі здымак: Уладзімір Караткевіч — сведка наведвання 26 ліпеня 1981 года Этнаграфічнага музея пад Рыгай. Побач з ім Алег Лойка з жонкай Лідзіяй, Вячка Целеш з Мірдзай Абалай. Пра наведанне Уладзімірам творчай майстэрні Вячкі можна напісаць цэлы раздзел. Нагадаю толькі некалькі радкоў з яго «эх-спромта»:

*З Майстэрні мілай пана Вячкі*
*Паўзлі мы ледзь не на карачках.*
*І дух наш ледзь трымаўся ў целе,*
*Калі дамоў пусціў нас Целеш...*

А вось В'етнам «перакуліў» выдавецкія баржы Латвіі. Вясной 1988 года перад наведнікамі з Беларусі пахваліліся творцы горада Гюэ, паказаўшы, што ў 1985 годзе ў іх выдадзены на рысавай паперы зборнік «Былі ў мяне мядзведзі» накладам у 30 100 асобнікаў. Аўтар: V-KO-ROT-KE-VIC.

У 1989 годзе в'етнамскія літаратары былі запрошаны ў Мінск. Паэт Ле Чонг Шам усклаў на магілу Караткевіча гэтае незвычайнае выданне. І ў натхненні стварыў верш «Каля магілы» з прысвячэннем: «Караткевічу — беларускаму народнаму паэту». Сам Ле Чонг Шам мне дапамог укласці падрадкоўнік, і яго верш па-беларуску загучаў так:

*Караткевіч!*
*На гэтай нязрушнай зямлі*
*Надгробак для вас узвялі:*
*Тут рысавыя каласочкі,*
*Абняць вас і кветкі змаглі.*
*А мне вы паспелі зрабіць*
*Такое, што змог палюбіць*
*Крутыя аблокі над Мінскам,*
*Журботную выраю ніць.*
*З В'етнама паклікалі вы*
*І нас да сваёй муравы.*
*Ускоціцца з ветрам журботным*
*Ваш дух да святой сінявы.*
*З народнай, прыроднай красы —*
*Два рысавыя каласы,*
*Усходы ад вашых зярнятаў*
*Відаць з-пад в'етнамскай расы.*

Пшанічныя каласы Караткевіча аказаліся не толькі беларускім нацыянальным, але і міжнародным хлебаносным сімвалам.

Рыгор Барадулін назваў Уладзіміра Караткевіча — Князем прыўкраснага ўмельства. Велічалі яго і дойлідам, рыцарам, глыбіннадумным... А я назваў яго будзіцелем, званаром, а яшчэ і кампазітарам. Вось і доказ. 26 лістапада 1968 года на Дзень нараджэння ў яго кватэры я запісаў голас гаспадара на магнітафонную стужку. Былі агучаны вершы з цыкла»Таўрыда», усмешлівая «Гулянка ў дэкарацыях», народная песня «Ой, косю, мой косю...», пачутатая ім ад цыганоў. Запісаў і створаны Уладзімірам раманс «До завтра» паводле верша, прысвечанага каханай масквічцы. Аказаліся вось так зафіксаванымі і прачытаныя вершы Ларысай Геніюш, Рыгорам Барадуліным. І ў 2009 годзе Глеб Лабадзенка паспрыяў выдаць кампакт-дыск «Галасы». Атрымаўся неверагодны помнік Рыгору Барадуліну, Ларысе Геніюш, Уладзіміру Караткевічу.



*У. Караткевіч і Р. Барадулін на Балтыцы.*

«...О, якое цёплае, цёплае, цёплае мора», дзе плешчуцца пад ветразямі Караткевіча побач яго Ладдзі Роспачы — брыганціны, каравелы, віціны, лайбы, стругі і каўчэгі, напоўненыя непамерклым натхненнем. А там, у трумах, і кніга «У краіне паэтаў — Au pays des poetes», дзе змешчаны і пераклады вершаў У. Караткевіча на французскую мову Нінай Дзябольскай. Яе ж пераклады на французскую мову чатырох вершаў Уладзіміра захоўваюцца ў зборніку «Poetes russes belarusses et polonais», выдадзеным В. Хурсікам у 2013 годзе. Верш Уладзіміра Караткевіча «Дзяўчына пад дажджом» заканчваецца ў арыгінале такімі радкамі:

*Дзяўчына ад шчасця спявала.*
*..................................*
*Стронцый быў у дажджы...*

Але — і новую непагоду — пераўжывем. Памятлівасць, любоў дапаможа пераадолець не толькі непагадзь дажджоў.

**P. S.**

Дзесьці ў 1970-х гадах трапіўся мне на вочы часопіс «Беларуская думка», №11, дзе пазнаёміўся з артыкулам Юркі Віцьбіча «Хамутоў не знаюць коні продкаў». У ім народжаны ў Веліжы пісьменнік пісаў: «Мы не сумняваемся ў тым, што ўсе беларускія патрыёты ў БССР з радасьцю сустрэлі адраджэньне на гербах нашых гарадоў нашае нацыянальнае эмблемы — Пагоні. Тое славутае Пагоні, аб якой у сваім патрыятычным вершы сучасны паэта Сяргей Панізьнік сьпярша прыгадваючы:

*«Пэўна, так імчалі з далячынь*
*Коннікі ўздужалае дзяржавы.*
*Ля Прыдзвіння табуны іржалі.*
*Узрыхлялі сухадол іржавы крывічы»*

— канчае яго зусім у гістарычным асьпекце слушным сьверджаньнем —

*«Хамутоў ня знаюць коні продкаў*
*На гербах прыдзьвінскае зямлі».*

— О, даражэнькі Уладзімір Сямёнавіч! Юбілей — для вітанняў. Хамутоў не зналі коні продкаў!

Будзьма! **Шчыра Ваш — Сяргей Панізьнік.**



# Алесь Бяляцкі

**літаратуразнаўца, празаік, крытык, эсэіст.**
**Аўтар кніг: «Літаратура і нацыя» (1991 г.), «Прабежкі па беразе Жэнеўскага возера» (2006 г.), «Асвечаныя Беларушчынай» (2013 г.), «Іртутнае срэбра жыцця» (2014 г.), «Халоднае крыло Радзімы» (2014 г.), «Бой з сабой» (2016 г.) і інш. Нарадзіўся ў 1962 годзе ў мястэчку Вяртсіля Сартавальскага раёна ў Карэліі. Жыве ў Мінску.**

# Шчасце для кожнага сваё...

***Што такое чалавечае шчасце? Ці можна быць шчаслівым у няволі? Чым лепш займацца — палітыкай ці літаратурай? Якая роля кахання ў жыцці чалавека? З кім варта сябраваць? Як можна адпачываць? Дзе лепей жыць? На гэтыя і іншыя пытанні — адказы ў гутарцы з вядомым пісьменнікам і грамадскім дзеячам, пяціразовым намінантам на Нобельскую прэмію міра — Алесем Бяляцкім...***

**Эдуард Акулін:** — *Алесь, мы знаёмыя з табой з 1979 года, калі паступілі на падрыхтоўчыя курсы Гомельскага дзяржаўнага «ўнівермага», як любіў называць нашу alma mater Анатоль Сыс. Якое месца для цябе ў жыцці займае вучоба ў ГДУ? Што яна табе дала? Якія прыярытэты ты для сябе там вызначыў?*

**Алесь Бяляцкі:** — Мы паступілі ва ўніверсітэт сямнаццацігадовымі. І, ні ты, ні я, здаецца, не памыліліся з выбарам прафесіі. Памятаеш, у тыя часы было прэстыжна паступіць у вайсковую вучэльню, ці ва ўніверсітэты Масквы, Ленінграда. Мы ж абралі, ужо ў тым узросце, Гомель, беларускую філалогію, (рускую нам навязалі ў давесак), каб вучыць беларускую мову, спазнаваць нашую родную літаратуру. Гэта быў свядомы выбар, які вызначыў наш лёс, які прынёс нам багата радасцяў, яркіх хвалюючых хвілінаў, і шмат перажыванняў і драматычных нотаў у нашым далейшым жыцці.

Мы ступілі на выклятую сцягу тых студэнтаў, каго ў 30-я гады толькі за любоў да роднай мовы кідалі ў турмы, адвозілі пад Навабеліцу, на 9-ы кіламетр, на расстрэл. Каго пасля вайны грэбліва называлі «нацдэмамі», з каго ў 70-я—80-я гады вочы не зводзіла КДБ. Хіба ж мы ведалі пра гэта ў свае сямнаццаць?

Тым не менш, універсітэт даў нам так багата добрага, што я і зараз згадваю гады вучобы ў Гомелі, як ці не найсвятлейшы, бесклапотны час свайго юнацкага жыцця. Там мы атрымалі сістэмныя філалагічныя веды, там я вывучыў беларускую мову, там мы адточвалі свой літаратурны густ. Там мы, гуртуючыся паміжсобку і супрацьстаючы дзяржаўнай палітыцы знішчэння ўсяго беларускага, навучыліся пранізліва любіць Беларусь. Там я займеў сяброў, якія застаюцца такімі ўжо сорак гадоў і дасюль.

**Э.А.** — *Якую падзею са студэнцкага жыцця ты лічаш для сябе знакавай, лёсавызначальнай?*

**А. Б.** — Знаёмства ўлетку 1981 года з «Майстроўцамі» ў Менску, з Вінцуком і Ірынай Вячоркамі, Алесем Сушам, Сяржуком Сокалам-Воюшам. Гэта была чатырохгадзінная сустрэча, пасля якой я зразумеў, што не адзін, сам- насам, з гэтым вечна ныючым болем, з верадам Беларушыны. Што ёсць такія ж як я, маладыя хлопцы і дзяўчаты, якія не толькі плачуць і скардзяцца на цяжкі беларускі лёс, не затаіліся па ўласных норах, як тхары, а ведаюць, што трэба рабіць. Гэтае знаёмства вызначыла ўсё маё наступнае жыццё.



Рок-гурт «Баскі» (А.Бяляцкі, Э.Акулін, С.Скачынскі, А.Кавалёў)

**Э.А.** — *Хто з сённяшніх вядомых беларускіх літаратараў вучыўся разам з табой?*

**А. Б.** — Анатоль Сыс, ты, Сяржук Сыс. Большае кола знаёмых спрабавала сябе знайсці ў літаратуры, але з розных прычынаў не ўсім гэта ўдалося.

**Э.А. — *Каго з выкладчыкаў ГДУ ты мог бы назваць у ліку сваіх настаўнікаў?***

**А. Б.** — У нас выкладалі даволі няблагія выкладчыкі. Мовазнаўцы Уладзімір Анічэнка, Павел Сцяцко, Аляксей Парукаў, літаратуразнаўцы Мікола Грынчык, Віктар Ярац, Іван Штэйнер. Людзі розных пакаленняў, рознага жыццёвага вопыту, кожны з іх па-свойму ўплываў на нас. Уладзімір Анічэнка тым, што даў веды пра гістарычную вартаснасць беларускай мовы. Віктар Ярац — найперш, як сапраўдны прафесійны паэт, які адчуваў у нас творчы патэнцыял. Аляксандра Станкевіч тым, што прынцыпова выкладала лаціну па-беларуску. Іван Штэйнер тым, што бачыў у нас малодшых сяброў і даў мне накіраванне ў аспірантуру Інстытута літаратуры Акадэміі навук. Вольга Шынкарэнка тым, што адпускала мяне з лекцыяў, бо лічыла, што і так ведаю дастаткова. Выкладчыкі старажытнай філасофіі, балгарскай мовы, замежнай літаратуры (грэцкай, лацінскай, сярэдневяковай і пазнейшай) — усё было надзвычай цікава і карысна.

Урэшце, самае галоўнае, што даў універсітэт — гэта час займацца самаадукацыяй.

**Э.А.** — *Падчас вучобы ва ўніверсітэце ты пачаў займацца літаратурай... З'явіліся першыя празаічныя накіды... Памятаю твае апавяданні, якія друкаваліся ў «ЛіМе». Чаму ты не стаў беларускім празаікам? Што пайшло не так?*

**А.Б.** — Мабыць, я мог бы пісаць фабулярную, мастацкую прозу, калі б меў болей уседлівасці і цікаўнасці да гэтага. Маю надрукаваных з паўтузіна апавяданняў і аповесць, але далей справа не пайшла. Бо ў маладосці меў скрайне мала вольнага часу і заўсёды думаў — потым, пазней, а калі прыйшло гэтае — потым, зразумеў, што мне болей цікава пісаць у жанры нон-фікшэн — эсэ, успаміны, тое, што насамрэч звязана з рэальнымі людзьмі і падзеямі. Што ж тычыць тэкстаў пра беларускую літаратуру — я ніколі іх не пераставаў пісаць больш-менш актыўна. У аспірантуры я вучыўся і вывучыўся на літаратуразнаўцу і лічыў гэтам сваім пакліканнем. Але лёс склаўся крыху па-іншаму. Прыйшлося займацца і адным, і другім, і трэцім.

**Э.А** — *У свой час ты актыўна займаўся палітыкай... А потым раптоўна сышоў з палітычнай сцэны Беларусі... Надышло расчараванне? Ці, як напісаў у адным са сваіх вершаў Дзмітро Паўлычка:*

*Калі пагаслі светачы надзеі,*
*Аслеплі душы, страціўшы святло;*
*Храм Веры зваявалі ліхадзеі,*
*Але Хрыста ў бажніцы не было...*

**А.Б.** — Я ўспрымаў палітычную дзейнасць як частку больш шырокай грамадскай дзейнасці. І калі была магчымасць дзеяць эфектыўна, працаваць на карысць незалежнай, дэмакратычнай Беларусі ў палітыцы, дык я гэта і рабіў — у шэрагах Беларускага народнага фронту, будучы дэпутатам Менскага гарадскога савета. Але пасля 1994 года магчымасці для палітычнай дзейнасці штогод імкліва звужаліся, пакуль не змалелі да мінімуму. З 1996 года болей часу пачала забіраць праваабарона, бо ў нас з'явіліся сотні людзей, якія былі рэпрэсаваныя і патрабавалі дапамогі. Хутка стала зразумела, што намаганні ў праваабароне даюць больш плён для грамадства, таму з пачатку 2000-х я фактычна цалкам сышоў у грамадскі сектар, у абарону правоў чалавека.



З Эдуардам Акуліным на тле карціны А. Квяткоўскага «Пан Лес», 2019 г.

Урэшце, нічога новага для мяне ў гэтым не было. Такой самай шырокай грамадскай дзейнасцю на карысць незалежнай, дэмакратычнай Беларусі мы займаліся яшчэ з пачатку 80-х гадоў. Час для палітыкі ў нас прыпыніўся, але не скончыўся час для грамадскіх ініцыятыў.

**Э.А.** — *Па беларускім заканадаўстве ты не маеш права выбірацца на пасаду Прэзідэнта краіны... З якой прычыны? Улічваючы твой досвед працы*



З спеваком В. Скаражонкам і паэтам К. Цыбульскім

**К.Г. —** Алег і сапраўды з'ездзіў на праслухоўванне ў «Песняры», і Мулявін тады сказаў, што Алегу праз некалькі дзён трэба прыязджаць на афармленне. Але, на вялікі жаль, адбылася трагічная аварыя, якая забрала вялікага Песняра...

**Э.А. —** *Што ты любіш рабіць больш: ствараць і запісваць песні, ці гастраляваць з канцэртамі?*

**К.Г. —** Яно ўсё цікава, усё патрэбна. Калі не будзеш працаваць над рэпертуарам, то не будзе з чым і гастраляваць, цікава і калі атрымліваецца нейкая новая песня, якую трэба яшчэ і аранжыраваць і зрабіць якасную фанаграму, і, зразумела, не менш цікава выносіць свае песні на суд слухачоў. І вельмі прыемна, калі мы бачым, што тое, што мы робім, знаходзіць водгук у сэрцах тых людзей, што прыйшлі паслухаць нашыя спевы. Гэта моцна падштурхоўвае і натхняе на далейшую творчасць.

**Э.А. —** *Я ведаю, што сам ты не пішаш тэкстаў да сваіх песень. З кім з беларускіх паэтаў ты творча супрацоўнічаеш? На чые словы напісаная найбольшай колькасць твораў?*

**К.Г. —** Ёсць у мяне колькі песень і на свае словы, але ў асноўным, гэта песні на вершы нашых беларускіх майстроў вершаванага слова: У. Някляева, У. Супруна, В. Шніпа, К. Цыбульскага, Эдуарда Акуліна і іншых. Я б так сказаў, што з нотамі ў мяне атрымліваецца значна лепш, чым з літарамі...

**Э.А. —** *Зараз сярод музыкаў стала модна запісваць каверы вядомых песень. Каго з беларускіх выканцаў вы найчасцей перапяваеце? Вашы каверы пішуцца пад капірку з арыгінала, ці дабаўляеце ў папулярны хіт нешта сваё?*

**К.Г. —** Мы былі і застаемся непахіснымі прыхільнікамі Мулявінскіх першых «Песняроў». Падабаюцца таксама і «Беларускія песняры». Вось мы і зрабілі колькі песень з іх рэпертуару, але ў кожную аранжыроўку дадаем нешта сваё. Нават бессмяротная «Канюшына», якую любіў касіць Ясь, і тая гучыць трохі іначай, па-плісаўску.

**Э.А. —** *Я з вялікім задавальненнем слухаю запісы «Плісы», едучы ў аўто... Яны зроблены на высокім прафесійным узроўні, уражваюць багатай галасавой палітрай і, галоўнае, яны не надакучаюць... Іх можна слухаць і слухаць бясконца... На жаль, толькі ў салоне свайго аўто... Чаму «Плісы» не чуваць на беларускім радыё і FM-станцыях? Няўжо, прычына адмовы самая банальная — нефармат...*

**К.Г. —** Пра FM-станцыі лепей не ўспамінаць. Тое, што там гучыць, гэта ў асноўным, нейкае калямузычнае лайно. Тут табе і мярзотны расейскі шансон, і не менш паскудная і брыдотная расейская папса. Ну, яшчэ і розныя «тыц-тыц» ад усялякіх DJ-яў. Калі параўнаць, напрыклад, з літаратурнай творчасцю, то калі садзіліся за пісьмовы стол Купала, ці Колас, то ў іх з-пад пяра выходзілі — у каго — « Тутэйшыя», у каго — «Новая зямля». А ў DJ-яў з іх музычных скрынак, у якія загадзя закладзены, як у буквары, розныя музычныя склады, выходзіць нешта накшталт:

«Ма-ма мы-ла,тыц-тыц,мы-ла-ра-му,тыц-тыц» і г.д.... Ну, а на дзяржаўным радыё нашыя песні, калі-некалі, ды і гучаць...

На музычным фестывалі ў Славакіі





*На гастролях у КНР*

**Э.А.** — *Я ведаю, як няпроста сёння музыкам знайсці магчымасць запісаць свае песні, выдаць кампакт-дыск... Дзе вы робіце свае цудоўныя запісы? Ці звяртаецеся, так бы мовіць, да прафесіяналаў?*

**К.Г.** — Сёння якраз і запісаць, і выпусціць запісанае на СД вельмі проста. Гэта можна зрабіць нават у хатняй студыі. Таму зараз і свішча з усіх дзюрак і шчылін усялякая дрэнь. На жаль, у нас няма прафесійнага студыйнага абсталявання, і, мусіць, нашыя запісы высокаякаснымі назваць нельга. Але, як ты кажаш, слухаць можна.

**Э.А.** — *Чуў, што ў мінулым годзе «Пліса» разам з калектывам Валянціна Елізар'ева з вялікім поспехам гастралявала ў Кітаі. Як кітайскія слухачы ўспрымалі беларускі балет і беларускую песню? Ці не ўзнікалі нейкія моўныя бар'еры для поўнага ўзаемапаразумення?*

**К.Г.** — І, сапраўды, нам пашчасціла пабываць у Паднябёснай яшчэ да гэтай заразы, якая абрынулася зараз на планету. У складзе беларускай дэлегацыі мы пабывалі ў горадзе Чуньцыне. Які, як аказалася, памерамі большы за Аўстрыю, і ў якім насельніцтва больш, чым у Гішпаніі. Святочныя мерапрыемствы, у якіх мы прымалі ўдзел, ладзіліся з нагоды 75-годдзя КНР. Прымалі нас вельмі гасцінна і цёпла, моўных перашкод не было ніякіх, бо з намі заўсёды былі перакладчыкі. А песні нашыя кітайскім слухачам прыйшліся да душы, бо на апладысменты яны не скупіліся...

**Э.А.** — *Многія музыкі, асабліва з перыферыі, скардзяцца на недахоп якасных інструментаў і музычнай апаратуры. Як у вас з гэтым? Ці задаволены ты «плісавым» музкамплектам?*

**К.Г.** — Што тычыцца інструментаў, то калі мы спяваем не пад «мінусоўку», то абыходзімся баянам і гітарай (плюс бубен і жалейка). Спачатку прыдбалі нам новы баян, а цяпер і якасная элетраакустычная гітара з'явілася. Але мы больш націскаем на шматгалосы вакал, і ў нас даволі многа акапэльных песень.

**Э.А.** — *Калі б была магчымасць выбіраць, куды паехаць наступны раз на гастролі? Якую краіну ты б выбраў?*

**К.Г.** — Асабіста мне вельмі падабаецца бываць у Польшчы. У нас там ёсць ужо і сябры, ды і мову польскую я ведаю вельмі добра. З задавальненнем наведаў бы і Нямеччыну, дзе я раней бываў у якасці вулічнага музыкі, ды і з нямецкай мовай у мяне праблемаў няма. А наш баяніст Іван Алешка яшчэ і свабодна валодае ангельскай мовай.

**Э.А.** — *Аб чым ты, як музычны кіраўнік гурта «Пліса», сёння марыш?*

**К.Г.** — Хацелася б калісьці заспяваць і ў нашай беларускай філармоніі, бо ў Тальяці ў філармоніі мы спявалі і ў нацыянальнай Адыгейскай, у горадзе Майкопе, выступалі аж тры разы. Хацелася б, каб на беларускім радыё з'явіўся нейкі рэтра-канал, накшталт існуючых расейскіх, на якім можна было б паслухаць не толькі «Песняроў», але і іншых беларускіх музыкаў, у тым ліку і нашу «Плісу»...

*На дажынках у польскай Вжэшні*





# Сяргей Чыгрын

**паэт, гісторык, краязнавец, журналіст. Напісаў і выдаў дзясяткі гісторыка-краязнаўчых і літаратуразнаўчых кніг. У тым ліку: «Слонімскія падмуркі», «Такі іх лёс», «Па слядах Купалы і Коласа», «Беларуская Беласточчына», «Хочацца дахаты», «Іншых шляхоў не было», «На радзіме Ігната Дварчаніна» і інш. Нарадзіўся ў 1958 годзе ў вёсцы Хадзявічы на Слонімшчыне. Жыве ў Слоніме.**



# Лёс беларуса, які нікога не баяўся...

***Пра лёс беларуса Васіля Лукашыка (1905-1975) з Беластока можна здымаць шматсерыйны мастацкі фільм. І выдумляць нічога не трэба, а проста праўдзіва паказваць яго жыццёвы шлях — ад нараджэння да смерці — так як было ўсё насамрэч. А лёс яго складваўся няпроста, што нават дзіву даешся, як чалавек у розных складаных сітуацыях выжываў і заставаўся жыць. Можа, беларусу заўсёды Бог дапамагаў, ці проста шанцавала. Не ведаю. Але пра ўсё папарадку...***

Беларускі палітычны і культурны дзеяч, выдавец, актывіст беларускага руху ў даваеннай Вільні, дзеяч беларускай дыяспары і стваральнік Беларускай Грамады ў Швецыі Васіль Лукашык нарадзіўся 11 жніўня 1905 года. Але ў пашпарце быў запісаны, што нарадзіўся ў 1911 годзе на беларускай Сакольшчыне (цяпер гэта тэрыторыя Польшчы). Бацька ў Васіля быў беларусам, а маці панацыянальнасці руская і мела прозвішча Цвярдынская.

Гадаваўся хлопчык Васіль у Беластоку, дзе бацькі мелі ўласны дом на Васількоўскай вуліцы, 61. Пры Польшчы Васіль Лукашык у Беластоку скончыў рускую гімназію, а потым паступіў у Віленскі ўніверсітэт імя Стэфана Баторыя, дзе вывучаў паліталогію. Жывучы ў Вільні, Васіль Лукашык шчыра пасябраваў з беларускімі хлопцамі і дзяўчатамі, якія далучылі яго да нацыянальных спраў. Асабліва добрае сяброўства Васіль меў са сваім земляком, доктарам і літаратарам Станіславам Грынкевічам (1902-1945). Станіслаў Грынкевіч таксама быў родам з Сакольшчыны з вёскі Новы Двор. Ён скончыў медыцынскі факультэт Познаньскага ўніверсітэта. А напачатку 1927 года пераехаў з сям'ёй у Вільню. Відаць, яны былі добра знаёмыя яшчэ да Вільні. А ў Вільні сустрэліся як даўнія сябры. Якраз у 1927 годзе Станіслаў Грынкевіч выдае некалькі сваіх цікавых кніг: «Аб тэатры», «Капля вады», «Народ». Вядома ж, гэтыя кнігі ў падарунак ад сябра-земляка з аўтографамі атрымаў і Васіль Лукашык.

У верасні 1939 года на Беласточчыну прыходзіць савецкая ўлада. І як піша ў сваёй кнізе «Шведы ў гісторыі і культуры беларусаў» (Мінск, 2002. С.221) Андрэй Катлярчук, Васіль Лукашык на Беласточчыне стварае сетку беларускіх школ. А потым яго хутка прызначаюць загадчыкам Беластоцкага дзіцячага дома, які хутка напаўняюць дзеткамі рэпрэсіраваных саветамі бацькоў (палякаў, беларусаў, яўрэяў, рускіх). Па дакументах, якія захоўваюцца ў аўтара гэтых радкоў, рукой Васіля Лукашыка напісана, што ён два гады працаваў на пасадзе дырэктара Беластоцкага выхаваўчага дома для беспрытульных, дзе яго часта абкрадалі і абвінавачвалі. Магчыма, гэта адна і тая ж была педагагічная ўстанова.



*Васіль Лукашык*

Доўга дзіцячы дом у Беластоку не праіснаваў, бо пачалася Другая сусветная вайна, і немцы хутка ліквідоўваюць гэтую ўстанову. А адукаванага Васіля Лукашыка прызначаюць бурмістрам Беластока. Справа ў тым, што восенню 1941 года Васіль Лукашык разам з Сяргеем Хмарам, Іванам Гелдам, Васілём Вірам і Юркам Стасевічам удзельнічаюць у нелегальнай канферэнцыі тых даваенных актывістаў Беларускай сялянска-работніцкай Грамады, якіх удалося склікаць сябру БСРГ Юльяну Саковічу. Васіль Лукашык, Іван Гелда і Юльян Саковіч прапануюць супрацоўнічаць з немцамі і гэтым самым выкарыстоўваць кожны момант для рэалізацыі нацыянальных патрэб. Але супраць гэтых прапаноў выступілі іншыя ўдзельнікі канферэнцыі. Тады і была створана нелегальная Беларуская Народная Грамада.

Пасля перамоваў з немцамі беларусам удаецца атрымаць дазвол нямецкай акупацыйнай адміністрацыі на стварэнне беларускай цывільнай адміністрацыі. Вось тады Васіль Лукашык і становіцца бурмістрам Беластока. Але не надоўга. Па даносе аднаго з правакатараў, яго арыштоўвае гестапа і адпраўляе ў канцлагер Асвенцім (Аўшвіц). Адтуль беларус уцякае і дабіраецца да Варшавы. У сталіцы Польшчы Васіля зноў арыштоўваюць гітлераўцы і саджаюць у турму. У жніўні 1942 года ён уцякае з турмы і ўвесь год жыве без ніякіх дакументаў у Варшаве. А потым набывае дакументы зусім неіснуючай асобы Яна Каліноўскага з Вільні. З гэтымі дакументамі і працягвае жыць. Але яго зноў арыштоўваюць немцы, і з дакументамі на Яна Каліноўскага юнака высылаюць у раён Палярнага Круга ў Нарвегію на прымусовыя работы. Але і там Васіль Лукашык (Ян Каліноўскі) абдумвае план уцёкаў у Швецыю. У Нарвегіі Ян Каліноўскі лічыўся палякам. І ўсім палякам, а таксама і Яну Каліноўскаму, у Нарвегіі выдалі пісталеты. А праз пэўны час разам з некаторымі хлопцамі, Каліноўскі-Лукашык уцякае ў Швецыю. Ды нядоўга ён быў на волі. Яго зноў хутка ў Швецыі ловяць і на тры месяцы вяртаюць у горад Бергхольнес у паўночную Нарвегію. Нямецкая жандармерыя забірае ў яго пісталет, а дае ўзамен іншы — straczak. Праўда, пісталет ніякай ролі ў лёсе Лукашыка не адыгрываў, бо ён ніколі яго пры сабе не насіў.

Праходзіць час, і Васіль Лукашык з групай землякоў праз горы зноў уцякае ў Швецыю. І ўжо назаўсёды. Праўда, жыццё ў гэтай скандынаўскай краіне наладзілася не адразу. Васілю прыходзілася шмат разоў даказваць, што ён не паляк Ян Каліноўскі, а беларус Васіль Лукашык, што хоча жыць у Швецыі, таму што ён ужо «нервова замучыўся і так шмат перажыў за ўсе гады вайны, што яму вяртацца ў тую частку Еўропы, з якой ён родам, і ў якой, асабліва ў Беластоку, да вайны і цяпер існуе палітычны хаос і нацыянальны разнабой — раўназначна добраахвотнай смерці...». Таму ён і прасіў Шведскую Камісію па замежных справах працягнуць ягоны пашпарт.

*Адна з заяў Васіля Лукашыка на рускай мове*



Statens Utlänningskommission
Stockholm /2/.

Basil Lukaszyk —
Fr.-pass Nr. 7729/44.

15 Октября тек. года я обратился в Шведскую Государственную Коммиссию по делам иностранцев с просьбой о разрешение приезда в г. Стокхольм. Я писал по шведски и ограниченное знание мною шведского языка было поводом, что я не подал причин, кои побудили меня обратится в Государственную Коммиссию с подобной просьбой.

Настоящим письмом я возобновляю свою просьбу о разрешение приехать в г. Стокхольм на 1–2 дня в безразлично какое время числом.

Причиной для моей поездки есть мое намерение ходатайствовать в Государственной Коммиссии по делам иностранцев о право на местопребывание в Gävleborgs-län, ибо полутарагода моего жительства в Järvsö Landsfiskaldistrikt без права отлучки в иные места лишили меня всех условий человеческого быта.

Василий Лукашик.

Пісаў Васіль дзясяткі разоў лісты з просьбамі і заявамі ў Міністэрства замежных спраў Швецыі, у Польскае пасольства ў Стакгольме, у іншыя інстанцыі. Выступаў з рознымі заявамі, даказваючы сваю беларускасць, і тое, што ён ні ў чым не вінаваты. Вось некалькі пунктаў з адной з заяў Васіля Лукашыка, копія якой захоўваецца ў аўтара гэтых радкоў:

1. Як маючы за собой двухгадовую практыку на пасадзе дырэктара выхаваўчага дома для беспрытульных, дзе мяне часта абкрадалі і абвінавачвалі, іншага за сабой не адчуваю.

2. На працягу апошніх 5 гадоў па палітычных ганеннях, пасля розных канцлагераў, у тым ліку і Асвенціма, я навучыўся там выжываць.

3. Прыгавораны да вышэйшай меры пакарання — я ўцёк з турмы напярэдадні расстрэлу. Я прывык да пачуцця страху і навучыўся нікога нідзе не баяцца.

4. Фізічнае знішчэнне геспапаўцамі маіх родных і блізкіх навучыла мяне не баяцца болю...

«У заключэнні гэтай заявы , лічу неабходным сказаць, што ў Польскай краіне — наваколлі Варшавы, я пражываў па дакументах асоб польскай нацыянальнасці, а гэта таму, што нямецкае гестапа, шукала небяспечнага беларуса», — пісаў Васіль Лукашык.

А гэтым небяспечным беларусам, сапраўды, быў Васіль Лукашык, які нікога і нічога не баяўся, бо перажыў і бачыў шмат.

Жыццё беларуса ў Швецыі пачало наладжвацца толькі пасля 1948 года. Ён прымае ўдзел у Першым сусветным з'ездзе беларускай паваеннай эміграцыі, які праходзіў у Парыжы. Пабываўшы ў Парыжы і сустрэўшыся з многімі суайчыннікамі свету, Васіль вяртаецца ў Швецыю і разам з сябрам Язэпам Федарчуком стварае там Беларускую Грамаду. Было зрабіць гэта няпроста, бо палякі цягнулі да сябе, рускія — да сваіх арганізацый. Але Васіль Лукашык заўсёды быў і заставаўся беларусам. Лукашык і Федарчук атрымалі рэгістрацыйнае пасведчанне сваёй суполкі, выдалі статут па-беларуску і па-шведску і шчыра працавалі шмат гадоў на Беларусь і на сябе.

Васіль Лукашык, якога прыгадвае ў сваёй кнізе «Шведы ў гісторыі і культуры беларусаў» Андрэй Катлярчук, меў непахісную ўпартасць, талент, арганізатарскія здольнасці. Ды і вопыт жыццёвы ў яго быў вялікі. Дарэчы, да вайны ў Беластоку ён пяць гадоў кіраваў будаўнічай фірмай «Будова». А, жывучы ў Швецыі, Васіль падтрымліваў сяброўскія сувязі з многімі беларусамі свету, перапісваўся з імі, запрашаў іх у госці. Таму яго шведская Беларуская Грамада кожны год наладжвала розныя беларускія мерапрыемствы, сябры Грамады падтрымлівалі сувязі з дыяспарамі ЗША і Аўстраліі і з іншых рэгіёнаў свету. На адрас Беларускай Грамады ішлі ў Швецыю розныя выданні беларускай эміграцыі , ды і сам Васіль Лукашык супрацоўнічаў з газетай «Беларус» і яе тагачасным рэдактарам Станіславам Станкевічам. Перапісваўся беларус з Янам Тарасевічам, Міколам Абрамчыкам, Сяргеем Хмарам, Язэпам Рэшацям... І гэты спіс беларусаў свету можна доўга працягваць.



*Магіла Васіля Лукашыка.*

У 1975 годзе Васіль Лукашык рыхтаваўся да чарговых угодкаў Беларускай Народнай Рэспублікі. Але 17 сакавіка яму раптоўна стала дрэнна, і беларус нечакана пакінуў гэты свет. На смерць Васіля Лукашыка найхутчэй адгукнулася газета «Беларускі голас» у Таронта, якую выдаваў Сяргей Хмара. У некралогу паведамлялася, што 17 сакавіка 1975 года нечакана ў Густаўбергу ў Швецыі памёр Васіль Лукашык, які паходзіў з Сакольшчыны...

Са смерцю шведскага беларуса спыніла сваю актыўнасць і Беларуская Грамада ў Швецыі. Праўда, у 1998 годзе там узнікла новая беларуская суполка пад назвай «Vitrussland». Штогод беларусы Швецыі ў апошнюю суботу кастрычніка наведваюць магілу Васіля Лукашыка, прыбіраюць яе, ускладваюць кветкі і чытаюць вершы.

Да ўсяго сказанага вышэй, неабходна дадаць яшчэ, што Васіль Лукашык з'яўляўся сябрам Камітэта вольнай Беларусі і Федэрацыі вольных беларускіх журналістаў. І апошняе. Шчыра дзякуй Наталлі Гардзіенка за дапамогу ў пошуках звестак пра Васіля Лукашыка. Пошукі працягваюцца.



# Эдвард Галустаў

**мастак, музыка. Скончыў Мастацка-графічны факультэт Віцебскага ўніверсітэта (1987 г.) Сябра Асацыяцыі польскіх мастакоў Варшаўскай акругі. Удзельнік шматлікіх міжнародных мастацкіх сімпозіумаў, конкурсаў, біенале і трыенале ў Польшчы, Італіі, Венгрыі, Грузіі і Беларусі. Сябра Мастацкага таварыства еўрапейскай інтэграцыі SAIE ў Шчэціне. Карціны экспанаваліся ў Венгрыі, Германіі, Італіі, Галандыі, Славакіі, Аўстрыі, а таксама ў Расеі, Украіне, Грузіі, Польшчы і Беларусі. Нарадзіўся ў 1963 годзе ў Кіравакане (Арменія). Жыве і працуе ў Віцебску і Варшаве.**

# «Няўжо гэта я намаляваў?!.»

***Пра Віцебск — як творчую Мекку... Пра мастацкі і жыццёвы рада-вод... Пра вандроўны дух Драздовіча і дзівосны свет Міколы Селешчу-ка... Пра неба Шагала... Пра ўлюбёныя колеры і ўлюбёныя гарады... Пра вечнае і чалавечнае... Пра мастацтва любіць — наша гутарка з выбітным віцебскім мастаком Эдвардам Галуставым...***

**Эдуард Акулін:** — *Спадар Эдвард, вы для многіх прыхільнікаў беларуска-га выяўленчага мастацтва, у тым ліку і для мяне, з'яўляецеся, кажучы метафарычна, — tabula rasa... І я патлумачу чаму... Па запыце ў Гугле «Эдвард Галустаў» выскоквае спасылка на варонежскага бізнесоўца, які гандлюе сельскагаспадарчай тэхнікай... Вы — не гандляр... Вы — мастак. У самым што ні на ёсць сапраўдным сэнсе гэтага слова. Але, як гэта часта здараецца, — вы добра вядомы ў мастацкім свеце за межамі Беларусі, а на Радзіме пра вас амаль ніхто не ведае... Ці згодны вы з старажытным выслоўем — «Няма прарока ў сваёй Айчыне»?..*

**Эдвард Галустаў:** — Так, уласна... Я паспрабаваў таксама ўпісаць сваё імя і прозвішча па-расейску ў Google — выскачыла шмат інфармацыі, але не пра мяне... Чаму так? Бо ўжо шмат гадоў я дзейнічаю як мастак па-за Беларуссю ў Польшчы. Наконт «Прарока ў сваёй Айчыне...» — гэта хіба што моцна сказана... Проста ў Беларусі даўно не выстаўляўся. А яшчэ дастаткова ўпісаць маё імя і прозвішча лацінскімі літарамі — будзе значна больш інфармацыі пра мяне.

**Э.А.** — *Распавядзіце крыху аб сабе... Адкуль вы родам? Хто вашыя бацькі? Дзе вучыліся? Дзе працавалі?*

**Э.Г.** — Нарадзіўся я ў горадзе Кіравакане (зараз Ванадзор) у Арменіі. Калі мне было 6 гадоў, мы з сям'ёй пераехалі ў Баку. Потым ужо ў сярэдзіне 70-х гг. пераехалі на гістарычную Радзіму маёй матулі ў Пінск. Тата мой быў вайсковым інжынерам-будаўнікам, што праўда ў Беларусі ён працаваў будаўніком (не вайсковым). Мама працавала амаль усё жыццё на пошце, на тэлеграфе. Вучыўся я ў Віцебску на Мастацка-графічным факультэце. Скончыў у 1987 годзе. Працаваў 20 гадоў у школе, як настаўнік выяўленчага мастацтва, чарчэння і апошнія гады, як выкладчык Сусветнай мастацкай культуры. У 90-я гг. вучыўся ў Кракаўскай Педагагічнай Акадэміі і яшчэ ў Сілезскім Універсітэце.

**Э.А.** — *Вам падабалася працаваць у школе? Як вы лічыце, на колькі сёння аўтарытэтнай з'яўляецца праца настаўніка ў Беларусі?*

**Э.Г.** — Складанае пытанне... Першыя гады вельмі было няпроста. З аднаго боку мне падабалася працаваць з дзецьмі і моладдзю, але кожны верасень я шукаў сабе іншую (непедагагічную працу). Добра, што ў тыя часы можна было працаваць дадаткова (напр. у камбінаце «Мастацтва»). Чым ганаруся, што меў вельмі добры кантакт з моладдзю. Асабліва падабалася працаваць у гады «беларусізацыі», калі мае прадметы выкладаліся па-беларуску. Склада-



лася ўражанне, што робіш нешта незвычайнае, гістарычнае... На жаль, праца ў школе а ні ў тыя часы, а ні, тым больш, зараз, не з'яўляецца а ні прэстыжовай, а ні аўтарытэтнай. Уласна, у Польшчы інакш... Калі я скончыў інстытут, то лічылася, што той, хто пайшоў працаваць у школу — чалавек, у якога нешта не атрымалася, а ў Польшчы людзі пасля Акадэміі Мастацтваў ахвотна ідуць працаваць у школу і вельмі гэтым ганарацца.

**Э.А.** — *Каго вы лічыце сваім творчым настаўнікам?*

**Э.Г.** — Таксама складанае пытанне... Назваць некага канкрэтна цяжка, бо ясна, што ўплыў мастакоў на маю творчасць, безумоўна, быў, але няма такой адзінай асобы. Вельмі люблю творчасць Andrew Wyeth, Edward Hopper, мастацтва Паўночнага Рэнесансу. А настаўнікі з інстытута... Хіба што ад кожнага нешта добрае ўзяў.

**Э.А.** — *Ёсць меркаванне, што Віцебск — гэта сталіца беларускага мастацтва... Нешта ў гэтым горадзе ёсць такое, што стымулюе творчую натуру да працы... Пэн, Малевіч, Шагал, Азгур, Бембель, Багатыроў, Быкаў — вось толькі самыя зорныя імёны, якія заззялі на небасхіле айчыннай культуры, дзякуючы свайму непасрэднаму дачыненню да гэтага старажытнага горада... Вы падзяляеце гэтую думку? Чым асабіста для вас стаў Віцебск?*

**Э.Г.** — Для мяне Віцебск — гэта горад майго студэнцтва, сапраўды, мастацкі горад з творчай атмасферай, хаця я доўга не мог да яго прызвычаіцца, настолькі гэты горад непадобны да Пінска, у якім прайшлі гады майго перадінстытуцкага юнацтва. Горад са сваёй школай мастацтва, і, нават, я б сказаў, школамі, бо выпускнікі МГФ абсалютна інакш працавалі, чым выпускнікі мастацкіх факультэтаў тэхналагічнага інстытута... Але ў 80-я гг. Віцебск выглядаў, мякка кажучы, не вельмі прывабна... Толькі на пачатку 90-х гг. горад пачаў прыгажэць, адбудаваныя старажытныя святыні. І нядаўна я зразумеў, што нарэшце ў Віцебску ёсць, што паказаць турыстам.



*Легенды Калхіды, акрыл, палатно, 2015 г*

**Э.А.** — *Я з'яўляюся шчырым прыхільнікам вашай творчасці... І даўно сачу за вамі як творцам у сацыяльным сеціве... Калі б з'явілася магчымасць, то з вялікім задавальненнем схадзіў бы на вашу творчую выставу... А ці выстаўляліся вашы працы ў Беларусі? Калі так, то дзе? І ці можна чакаць у бліжэйшы час вашага мастацкага вернісажа?*

**Э.Г.** — Выстаўляўся, але вельмі даўно. Час ад часу ўдзельнічаю ў калектыўных выставах (апошні раз мая выкладчыца, вядомая беларуская мастачка сп. Вялянціна Антонаўна Ляховіч, запрасіла ўдзельнічаць у выставе «Ляховічы», дзе выстаўлялася яна і яе былыя студэнты). А персанальная выстава была хіба што ў 2003 г. у Браслаўскім музеі. Хацеў бы зрабіць выставу ў Беларусі, але неяк не атрымліваецца пакуль. Спадзяюся, што калісьці зраблю.



**Э.А.** — *А за межамі Беларусі? Як успрымаецца ваша творчасць замежнымі аматарамі выяўленчага мастацтва? Ці пазіцыяніруеце вы сябе як беларускага мастака?*

**Э.Г.** — За межамі Беларусі я маю штогод некалькі выставаў. Але гэта ў асноўным у Польшчы. Напрыклад, хіба што ў 2016 г. меў ажно 7 індывідуальных выставаў у розных манерах і тэхніках. Шмат людзей любіць маю творчасць, хаця некаторым падабаюцца мае «казачныя» абразы, некаторыя любяць мае так званыя «дэкаратыўныя» абстракцыі, шмат людзей любіць мае пейзажы, а некаторым падабаюцца мае графічныя творы... Ці пазіцыяніраю сябе як беларускага мастака? Хутчэй не. Бо належу да Польскага Саюза Мастакоў Варшаўскага аддзялення, выстаўляюся больш у Польшчы. Ды і хіба тое, што раблю, лепей прымаецца ў Польшчы, а не ў Беларусі. Але для польскага гледача я ўсё роўна беларускі мастак, бо і школа іншая, і тэматыка. Крыху смешна, калі знаходзяць падабенства з Шагалам, і злуюся, калі ў маіх працах знаходзяць уплыў расейскай казкі, тады адпавядаю даволі востра. Акрамя гэтага, ужо ў некалькіх альбомах пра польскае мастацтва (апошнія: «100 lat Niepodleglosci Polski», «Malarstwo Polskie 2019») ёсць рэпрадукцыі маіх абразоў як польскага мастака. Маю ўзнагароду — срэбны медаль «Labor omnia Vincit» за ўзмацненне культурных сувязяў паміж Польшчай і Беларуссю.



*Пачатак падарожжа, акрыл, палатно, 2020 г.*

**Э.А.** — *Вашы творы, асаблівa апошняга часу, нагадваюць мне творчую манеру заўчасна сышоўшага беларускага мастака Міколы Селешчука... Яны гэткія ж маляўнічыя, насычаныя яркімі колерамі, і што вельмі істотна , яны прымушаюць думаць... Ці былі вы асабіста знаёмыя з Міколам Селешчуком? Ці, магчыма, я памыляюся? І выток вашага творчага натхнення палягае ў іншых геаграфічных месцах і іншых часавых вымярэннях?*

**Э.Г.** — З Міколам Селешчуком, на жаль, не быў знаёмы, але ягоная творчасць мела на мяне вялікі ўплыў. У ягоных працах упершыню ўбачыў арнамент, як вельмі важны элемент кампазіцыі. Акрамя таго, у сваіх працах, так званых «казачных», я натхняюся пазнейшым сярэднявеччам і Паўночным Рэнесансам. Гэты перыяд у гісторыі мастацтва найбольш мне блізкі, тым больш, што дзясятак гадоў я спяваў у Віцебску ў Ансамблі старажытнай музыкі. Мы спявалі найбольш песень часоў Рэнесансу, між іншым, некалькі твораў з «Полацкага сшытку» і псалмаў Саламонавых у перакладзе Яна Каханоўскага і Сімяона Полацкага...

**Э.А.** — *Да якой мастацкай школы вы сябе адносіце? Ваша ўлюбёная тэхніка... Не ў сельскагаспадарчым, а ў мастацкім сэнсе? З чым вам найбольш падабаецца працаваць? З алоўкам, тушшу, алеем, нейкімі іншымі выяўленчымі сродкамі?*

**Э.Г.** — Цяжка сказаць да якой школы... Што датычыцца накірунку маёй творчасці, то я гэта акрэсліў бы як «метамарфозы арнаменту» (ад арнаменту, як упрыгожвання архітэктуры, вопраткі, прадметаў побыту, да арнаменту ў чыстай абстракцыйнай форме). Тэхніка — акрылавая фарба, палатно. Але таксама працую каляровай тушшу на паперы.

**Э.А.** — *Што прымусіла вас пакінуць Радзіму? Дзе вы цяпер жывяце? Чым займаецеся, так бы мовіць, каб зарабляць на хлеб штодзённы?*

**Э.Г.** — Ды нічога не прымусіла, не пакідаў, проста часта запрашаюць на розныя пленэры ў Польшчы. Дарэчы, у Польшчы вялікая колькасць самых розных пленэраў і арганізаваных рознымі інстытуцыямі, і прыватных. А яшчэ ў Польшчы кожны мастак можа знайсці сваю нішу ў мастацтве, вельмі шмат магчымасцяў для выставаў. Езджу па ўсёй Польшчы (і не толькі) па пленэрах, сімпозіумах, яшчэ час ад часу канцэртую з песнямі польскімі, беларускімі, украінскімі. Так званы «folk modern».

**Э.А.** — *Ці маеце вы творчых пераемнікаў? Магчыма, нехта з вашых віцебскіх вучняў пайшоў па вашых слядах?*





*Шукальнікі скарбаў, акрыл, палатно, 2020 г.*

**Э.Г.** — Так, маю даволі шмат, нават цяжка пералічыць. Але найбольш ганаруся сваёй былой вучаніцай, акторкай і рэжысёрам Аленай Ганум, якая пайшла па гэтай сцежцы дзякуючы таму, што ўдзельнічала ў школьным фальклорным гуртку, у якім я загадваў музычнай часткай. Зараз яна знаны рэжысёр у Тэатры Янкі Купалы ў Менску.

**Э.А.** — *Ці ёсць у вас дзеці? Чым, калі не сакрэт, яны займаюцца па жыцці? У некага з іх ёсць цікавасць да мастацтва?*

**Э.Г.** — Так, я маю дачку Марысю, вельмі здольную творча. Яна выкладае, валодае некалькімі еўрапейскімі мовамі, і што датычыць творчасці, яна пайшла па мамінай сцежцы. Мая жонка Аліцыя — таксама выпускніца МГФ, але яна працавала і працуе ў дэкаратыўна-ўжытковым мастацтве (ткацтва, гафт і г.д.). Дарэчы, яны мае галоўныя дарадцы і крытыкі.

**Э.А.** — *Для мяне ўзорам сапраўднага беларускага мастака, у існым сэнсе гэтага слова, з'яўляецца Язэп Драздовіч... Мастак — пілігрым, мастак-ра-*


Гісторыя адной сям'і, акрыл, палатно, 2019 г



**Э.А.** — *Што асабіста для вас азначае паняцце «творчае шчасце»? Чаго вам не стае ў жыцці для поўнага шчасця?*

**Э.Г.** — Творчае шчасце? Скажу так. Вельмі люблю сваю працу. Калі малюю — усё для мяне становіцца на сваё месца, падчас працы я вельмі шчаслівы. А якое гэта шчасце, калі доўга не бачыш сваю працу ў арыгінале, а потым на яе глядзіш і думаеш: «Няўжо гэта я намаляваў?!». Гэта неверагоднае пачуццё, для гэтага варта жыць і маляваць. Хацелася, каб Пан Бог дазволіў яшчэ папрацаваць і стварыць шмат абразоў на радасць сабе і людзям!

*мантык, мастак-фантаст... Адным словам, — творца не ад гэтага свету... Як вы ставіцеся да творчасці Язэпа Драздовіча? Ці любіце, як калісьці Драздовіч, вандраваць па Беларусі ў пошуках мастацкіх вобразаў? Ці геаграфія вашых падарожжаў значна шырэйшая за драздоўскую і не абмяжоўваецца толькі Беларуссю?*

**Э.Г.** — Вельмі люблю і шаную Язэпа Драздовіча і ягоную творчасць. Пашчасціла ўдзельнічаць у пленэры імя Я. Драздовіча ў вёсцы Германавічы. У пленэры ўдзельнічалі вядомыя беларускія мастакі: Алесь Марачкін, Чэслаў Шамшур, Яўген Шатохін, Георгій Скрыпнічэнка і г. д. Дарэчы, пра гэты пленэр і яго арганізатарку Аду Райчонак быў зняты фільм «Галерэя Ады» (рэжысёр Уладзімір Колас). Геаграфія маіх падарожжаў хіба што шырэйшая. На жаль, менш ведаю Беларусь, больш аб'ездзіў Польшчу. Акрамя гэтага —Нямеччына, Францыя, Чэхія, Славаччына, Венгрыя, Грузія, Грэцыя, Партугалія, Украіна. Усё гэта дзякуючы мастацкім пленэрам.

**Э.А.** — *Дзе вам лепш працуецца дома ці за межамі Беларусі?*

**Э.Г.** — Цяжка сказаць. Я б сказаў не лепш, а інакш. Інакш у Беларусі, інакш у Польшчы. Як ужо і казаў раней, мая творчасць лепей прымаецца ў Польшчы, а не ў Беларусі.

**Э.А.** — *А жывецца?*

**Э.Г.** — Жывецца інакш усюды. Але не наракаю. Нармалёва жывецца.

Гульня з залатымі шарыкамі, акрыл, палатно,2018 г.





# Генадзь Лапацін

паэт, фальклярыст. Аўтар кніг паэзіі: «Без чисел и дат» (1997 г., 2003 г.), «Лепить из снега» (2002 г.), «Луны преобладанье» (2003 г.), «Увидеть дерево» (2008 г.), «Около облака» (2012 г.) а таксама шматлікіх публікацый у альманахах і часопісах. Нарадзіўся ў 1955 годзе ў Гомелі. Жыве ў Гомелі.



# «Мы знаім, што ён за пціца...»

Мой больш за трыццацігадовы вопыт працы ў Веткаўскім музеі — гэта больш за трыццацігадовы вопыт экспедыцыйнай працы. За гэты час я пабываў, прычым неаднаразова, практычна ва ўсіх беларускіх пасёлках і вёсках Веткаўскага раёна. Экспедыцыі — гэта заўсёды сустрэчы і размовы з жанчынамі, носьбіткамі традыцый сваіх вёсак.

Адной з самых любімых маіх суразмоўц з'яўляецца былая жыхарка пасёлка Амяльное Варвара Аляксандраўна Грэцкая. За перыяд з 2005 па 2020 гг. ад яе запісана ўжо сто шэсцьдзясят аўдыёкасет. У яе памяці ў значнай ступені захаваўся практычна ўвесь фальклорна-этнаграфічны рэпертуар Амяльнога. Гэта песні каляндарнага і сямейна-побытавага цыклаў, лірычныя, дзіцячыя, сірочыя песні, замовы і апісанні абрадаў і звычаяў, легенды, прыкметы, прыказкі, прымаўкі, павер'і. Усё гэта ўвасобілася ў матэрыялы навуковых канферэнцый, публікацыі ў такіх аўтарытэтных выданнях як «Palaeoslavica» (Massachusetts, ЗША), «Живая старина» (Масква), «Беларускі фальклор. Матэрыялы і даследаванні». Асобна выйшлі кнігі «Варвара Грэцкая як з'ява беларускай народнай культуры», «К каждаму разгавору прыказка ё...» З вопыту вывучэння дыялектнай фразеалогіі. Матэрыялы да фразеалагічна-парэміялагічнага слоўніка асобы». Чытачам «Верасня» імя Варвары Грэцкай знаёма па нататках «Я прэдана песні...» (1/2011) і «Тады ўсе людзі зналі, калі якія песні пець...» (2/2015).

Але ўсё гэта, так бы мовіць, класіка жанра. І за межамі публікацый засталося шмат цікавага. І ў гэтым плане адметнае месца займаюць птушкі. Быццам бы самыя звычайныя вераб'і і галубы, совы і сокалы, ластаўкі і зязюлі, арлы і каршукі, жаўрукі і сініцы, салаўі і вароны... Усіх не пералічыць... Але птушкі для амяленцаў — гэта не проста прадстаўнікі мясцовай фауны... Гэта — гульні і мянушкі, гэта прыклады таго, як трэба будаваць хату і ствараць сям'ю, жыць у сям'і і паводзіць сябе ў грамадстве... І яшчэ сум па птушках, якія зніклі ў сувязі з наступствамі меліярацыі.

Птушка — асоба. Назоўнік «пціца» час ад часу ўзнікае ў тых выпадках, калі трэба вызначыць тога ці іншага чалавека як асобу... Адмоўную альбо станоўчую — гэта ўжо нават невызначальна і неістотна.... Такім жа чынам, як мы, часцей з абурэннем, запытваем: «Ну, што ты за чалавек?!» Альбо гаворым: «О, гэта такі чалавек...» У такіх самых сітуацыях назоўнік «чалавек» можа быць заменены «птушкай». Як узгадвае Варвара Грэцкая: «Гаворяць: « Я знаю: «Якая ён пціца!» <Чаму пціца?> Ён хіцёр, напрымер, чылавек... Ці ўрэдны, ці такі бандзюга... Знаіш: «Якая ён пціца...» У нас адзін нап'ецца... Дак усі гаворяць: «У-у-у!.. Бандзюга, бацьку прыдушыў...» А як падыходзя: «Драствуйця!..» З усімі: «Здароў!.. Здароў!..» — «Здароў... Здароў, Сашок...» І пойдзя... Яны: «Ох.. Мы знаім што ён за пціца... Да нада пры горы бандзіта бацькам назваць...» Дак і гаворяць: «Ох... Ета пціца добрая...» <Чаму: як пціца?.. Ён жа чалавек...> «Ну, я не знаю, к чаму яны гаварылі «пціца». Напрымер, ён будзя гаварыць і будзя атказывацца

ад чаго-нібудзь... І ты, яія будзім гаварыць: «Дзе ён прызнаіцца?... Ён зная, якая ён пціца...» Урэдны чылавек, дак ён зная, якая ён пціца. <...> Вот гаворяць Ён зная... І пціцы вумныя, панімаяць усё... Сядзіць пціца, не чапай яе, яна будзя сядзець... А як будзіш... Яна пырх — і паляцела... Панімая...»

Сапраўды, чаму пціца? Першае, што прыходзіць на розум: птушкі былі створаны Госпадам на пяты дзень, а чалавек — на шосты. У аповедзе Варвары Грэцкай, на мой погляд, вызначальна: «Якая пціца...» Кожная птушка яшчэ з біблейскіх часоў з'яўляецца эталонам нейкай якасці ўласцівай і чалавеку. І таму з птушкамі, каб падкрэсліць асаблівасці знешняга выгляду, голасу, характара, паводзінаў, параўноўваюць сябе, сваякоў, суседзяў. Паводле параўнанняў, прыказак, прымавак, жанчына можа выглядаць, як пава, можа спяваць, як салавейка альбо каркаць, як варона. Яна можа, як удод, нараджаць што год, і можа, як зязюля, адмаўляцца ад навароджаных немаўлятак. Мужчынам у гэтым плане пашанцавала значна менш... Мужчына можа красацца сабой, як певень паміж курэй, а можа лётаць каля жонкі, як птушка... І можа, як сокал, прычым у розных іпастасях...

# З аповедаў Варвары Аляксандраўны Грэцкай

## «Гульня такая была...»

Гульня такая была. Ета ў Марозаўцы так было, і ў нас на Амяльном. Кладаў'ё было... Сасонкі былі... Багата... Кажды кала сваёй магілкі садзіў... Сабіраліся дзеці: «Куда?..» — «Пойдзім на кладаўё...» І сасонкі ўжо былі тоўстыя. Ужо можна было: узлезуць і калышацца, баруць за ствол і калышацца... І будзя крычаць... Ты, напрымер, крычыш: «Ка-а-а-р! Ка-а-а-р!» Як варона. Хто, як плісачка: «Тя-тя-тя...» І дробненька-дробненька бегая... Іх ціпер і німа ўжо. Яны такія малінькія, лёгінькія, у іх тонінькія ножачкі... І яны скорынька бягаць, яны ня ўмеяць хадзіць, як верабей і прыгаць... Гаўнакопкі калісь былі... Послі атаму іх не стала... Ластавак ня стала... Яны паўзлазілі... Гаворя: «Я буду верабей...» «Я буду дзяцел...» «А я буду бусел...»Ляпаў ладонямі... Так і пазывалі. Хто: «Я буду сарокай...» А тады яно ўжо і пашло... І выдуць гуляць... І знаяць... Ты, напрымер, раз быў бусел і астаўся... І гулялі... Дзеці, школьнікі, у сёмы клас хадзілі... І: «Хто-та пашоў?» — «Бусел...» «Хто там?» — «Салавей». Хто якоя аблюбуя, І назывылі так... Вот наравіцца табе пціца якая... «Я буду цапляй...» Кажды сабе, якія наравяцца пціцы. Хто не паддумая: «Якой мне быць?» — «Будзя гаўнакопкай» — «Ня хочу я гаўнакопкай!» Гаўнакопкай ніхто ня быў. Такая малінькая пцічкі, і чубкі ў іх на галаве. І параслі... І тут быў, ён учыцілем ужо быў... Дак Снігір... «Я буду Снігірём...» «Хто-та пашоў?» — «Снігірь ідзець». «Чый урок?» — «Снігірёў». Ён знаў і не сердзіўся за ета. «Васіль Пятровіч, вот вас жэ Снігірём...» — «На вуліцы Снігірём завіця... Я не сержусь... Ета любімая маё... Я сябе назваў...» Замуж як пойдзя дзеўка... Таня Кізепава... «Хто-та?...» — «Ета Салаўёва пашла...» Па брату... І тады здзелалі: «Хто-та жыве?» — «Дзятлавы...»



*Г. Лапацін і В. Грэцкая.*

## «Не па пер'ю...»

Другі скажа: «Тую ўзяў... Яна мне не па пер'ю» — «Не па пер'ю!.. Не бяры! Ня лезь... Бяры сябе такую, штоб па пер'ю». Там, ці багатая, ці дужа красівая, дак ты знай, што яна за цябе ня пойдзя... Чо ты плывеш к ёй... Напрымер, ты красівы, а дзеўка не красівая... А вот наравіцца табе... І на дзеўку гаворяць: «Ня йдзі за яго... Ён с табой жыць ня будзя... Ён табе не па пер'ю... Ён будзя вабражаць». Калісь было такоя.

У нас калісь Мішка ўзяў жонку... Яна ці два, ці тры класа кончыла... У старасці радзілі... Усё паміралі ў іх... Танька — канцавая асталася... Яна і красівая была... А ён узяў... Як толькі: «Пень!... — На яе... Да. — Пень!» «Чо ты браў? Не па пер'ю яна была табе...» — «Ну, дак яна красівая была...» — «Красівая... Ты знаў, што яна табе не па пер'ю... Было ўчыцілку браць... Чаго ты ня браў? А яе ўзяў...» Век пражылі... Не пражылі, а прамучыліся... <Пер'я пры чым?> Гусь будзя гуляць з вуткай?.. Яна не па пер'ю... І за курыцай будзя бегаць, шчыпаць... У мяне калісь былі і вуткі, і гусі, і куры. Еслі певень падойдзя, будзя каля вуткі хадзіць, селязень бягіць, будзя шчыпаць яго, пер'я вырываць. Не па пер'ю — ня лезь!..

## «Нада гняздо сваё віць, а на чужоя не паглядываць...»

Ці ты гняздо з маладосці будзіш віць сабе, забоціцца і знаць, што ета точна тваё... <Гняздо звіў — гэта як?> Хату дзелаць... Якую б ня здзелаў, но ета яго... Ета называіцца гняздо звіў. Пціца... Ета толькі кукушка па чужых нясецца... Яйца адкладая... А ўсі кладуць у сваё гняздо. Мурашка, і тая, сваё гняздо ўе. Ніхай яна маленькае гняздзечка... Кажды доўжэн сваё... У ваўка сваё лагво... Ён туды ідзець, аддыхая. І чылавек так. Еслі ён не саўе сабе за весь век гняздо, ён ужо ні чылавек. Усі тады казалі: «Нада гняздо сваё віць, а на чужоя не паглядываць... Каждая пціца сваё гняздо ўе. Гнёзды ні ва ўсіх адзінакавыя... Бусел гняздо ўе с палак, пакідая-пакідая тыя палкі. На палках на тых і яйцы ляжаць, і выводзяцца... Верабей такоя гняздо ўе, ластаўка такоя... Кажды сваё гняздо зная... У нас на смародзі вывялісь такія маленічкія пцічычкі. Верабеняткі... Там і валосікі, там і пер'я, там усё, і такоя шчытнінька, цёплінькая.

## «Гол, як сакол...»

З уяўленнем пра сваё гняздо звязана і агульнараспаўсюджанае параўнанне «гол, як сакол». Парактычна ва ўсіх Слоўніках прыказак, прымавак, фразеалагізмаў, параўнанняў, у ты ліку складзеных І.І. Насовічам, А Сержпутоўскім, Л.М. Салавей, Т.В. Валодзінай, за гэтым параўнаннем замацавана вызначэнне беднага чалавека. І практычна ўсе слоўнікі пры тлумачэнні этымалогіі гэтага вызначэння тыражуюць у розных варыянтах вядомае яшчэ з часоў У.І. Даля, у якім сакол — не птушка, а «сценабітная прылада, у выглядзе жалезнага лома, якая ўжывалася ў старадаўнія часы пры штурме крэпасці».

У Варвары Грэцкай, неабцяжаранай веданнем дадзенай этымалогіі, знайшлося сваё, незафіксаванае ні ў водным слоўніку тлумачэнне, у якім сокал застаецца рэальнай птушкай: «Гаворяць: «Ходзя гол, як сакол... Бедны чылавек... Ходзя, весяліцца... Песня такая была: «Парэнь гол, як сакол, а ходзя ж весяліцца...» <А чаму як сакол? > Кажаць, у сокала гнязда німа... Кажаць: «Ходзя гол, як сакол...» І сапраўды, паводле адмысловай энцыклапедыі, прысвечанай птушкам, сокал, сапраўды, не будуе ўласных гнёздаў, а займае чужыя. Або гэта гнёзды, якія не заняты нікім, або ён выганяе адтуль іншых птушак».

Тут цікава яшчэ і іншае. Варвара Грэцкая практычна паўтарыла пэўны артыкул «Фразеологического словаря русского литературного языка» А.І. Фёдарава, які выйшаў у 2008 годзе: «Гол, как сокол. Разг. Экспресс. Абсолютно беден, ничего не имеет. Богачу-дураку и с казной не спится; Бобыль гол как сокол, Поёт — веселится (И. Никитин. Песня бобыля)». Зразумела, што гэтага выдання, яна не можа ведаць, нават проста па вызначэнні. Сама дайшла.

І калі вызначэнне «гол, як сакол» агульнавядомае і агульнараспаўсюджанае, то дзеясловы «абсакліць» і «падскаліць», якія напрамую з ім звязаныя і маюць значэнне «абабраць», «абчысціць», «пакінуць без нічога» — выключна амяленскія.



<**Абсакаліць**... Гэта што?>

Абсакаліць чылавека... Хто гаворя: «Абсакаліць...» А хто гаворя: «Во прыехалі, абшчыкацілі і паехалі...» Ета аббяруць, што нада ім пабяруць, паедуць, а ты як хочыш... Ё ў цябе што... Кусок хлеба...» Сяргей наш кажа: «Прыехалі, абсакалілі... Паехалі!..» А другі кажа: «Абчысцілі..» Райка мне казала: «Прыехаў зяць і з дачкой, абчысцілі Райку, сабраліся і паехалі...»

<Чаму такое слова: абсакаліць?>

Абсакаліць... Прыехаць, абабраць цябе і паехаць... Гаворяць: «Сокал гол, як сакол... Ходзя, весяліцца...» Усё яму весела, ходзя, дзюбкай б'е... Дак ета — абсакаліць... А хто гаворя: «Абчысціць...» А хто гаворя: «Абработаць...» Дзед Майка калісь казаў... Гаварю: «Паехала Таццяна на Магілёў?» У Магілёві яе мужык жыў, Архіп, дзеда Усціна сын... Дак я гаварю: «Паехала Таццяна ўжо с Архіпам?» Калі скажа: «Абработалі...» А калі скажа: «Абчысцілі і паехалі к такой мацеры! Прыехалі з голымі рукамы і паехалі... А тута-ка і цыбуля нада і чыснок, і тога нада і тога... І квасолічкі, і крышэнікаў...На машыні прыехалі, падгрузілся і паехалі...»

«Во свінні ядуць, і адна адну рэжаць клыччам етым, дак баба ці матка будзя казаць: «Я вас падсакалю!.. Заўтры ні дам есці ўвечары!.. Вот вам што будзя...» І на свіней... І на кароў будзя казаць... «На, папей ету вадзічку...» Яна... Аж із рота плыве... Ня хоча... Яна: «Я цябе падсакалю... Другі раз я табе сolькі не дадам... Падсакалю...» Яна ж напоя ўсё раўно... Но будзя казаць: «Я цябе падсакалю...»

У амяленскай гаворцы існуюць і іншыя сакаліныя вызначэнні: « Не паймаўшы сокала, пер'е не скубі, не назваўшы зяцем, хлопца не кармі», « Відзен сокал па палёту». І яшчэ адно вызначэнне, якім сокал дзеліцца з савой. Але сава яму патрэбна толькі для таго, каб падкрэсліць сваю сумленнасць: «Як брацьпазычаць, як просяць — дак вочы сакаліныя, а як аддаваць, вочы савіныя: «Нада грошы аддаваць. Тады вочы ня будуць савіныя, а будуць сакаліныя. Гаворяць: «Як просяць, дак вочы сакаліныя. А аддаваць — савіныя на яе фоне . Дак ня будуць савіныя, а будуць сакаліныя». Выбар савы як альтэрнатывы шчыраму сокалу вельмі і вельмі ўдалы, паколькі сапраўды:

* * *

Сава любя украсць і курыцу, і цыплёнка, і вераб'я на ходу... Я бачыла адзін раз... Ганяіцца сава за вераб'ём... І пакуль не ўхваціла... У воздусе... Мы з Райкай сядзелі, гаварылі... Як што мелькая... Райка: «Палядзі?» — «Дак што там?» А яна гаворя: «Сава вераб'я ў воздусе ловя». Ухваціла і паляцела. Дак яны і называюць «савіныя». Сава ўкрала, з'ела... Яна жываласцю пітаіцца. Вот і называюць «савіныя». А ў сокала вочы харошыя. Сокал ўрэду ня дзелая, яго не баяцца. А сава ляціць, куры ўжо чуствуюць... Дзесь яна лятая, а куры ўжо нашатыряцца і будуць убягаць... У кучку збіваяцца, хаваяцца... Баба: «Дзеці, пасядзіця... Ета сава ўжо лятая...» Сава ўрэдная... Яе усі баяцца... І гаворяць... Як просяць... Прыдзя... Вочы сакаліныя... Прося: «Дай!..» Гаворяць: «Рассы-

піцца, як маліна, перяд табой... А як аддаваць, савіныя ўжо... Ня хоча аддаваць...» Сава сажрала і сядзіць, ішчэ выглядая.

## «Спіць сава, да курэй бача...»

Гаворяць: «Сава спіць, да курэй бача». Усё на Тусю нашу казала баба... Сала матка атрэжа... У каморцы... І прынося ў хату... Вот мігам саскоча... Ціхонічка нажом атчырыня і на печ... І німа хлеба, за пазуху схавая і: «Пайду на двор схажу...» Сала і хлеба возьмя, пойдзя, сажрэ... Дак баба ўсё казала... Матка: «Ну, хтось сала атрэзаў... — Яна знала, што толькі яна здзелала. — Хто сала?» Туся: «Я на печы спала...» А матка будзя казаць: «Спіць сава, да курэй бача!.. Мы цябе знаім». І ты б сядзеў ціхонька, а ўсё глядзеў, ідзе хто што палажа... Дак на ета і гаварылі: «Спіць сава, да курэй бача...»

## «Як голуб з галубкай...»

Ета як харошая пара, дак гаворяць... Вон як жыве мужык з жонкая, як голуб з галубкай...<Чаму як голуб з галубкай?> Яны век ня б'юцца, усё варкуяць, упару садзяцца... Упару ўсягда...

Бізун калісь казаў: «Я ўбіваць...» У яго клеткі... Навярху будкі дзелаў... У ягно былі галубы... Дак гаворя: «Голуб з чужой галубкай нікалі ні сядзя...» Расказываў нам. Мы гаворым: «Чо ж ты не бярэш яйцы?» — «А яны выводзяцца, я іх убіваю тады. Сядуць начываць... Я іх ноччу бяру... Убіваць... Я ўсягда ўпару, штоб суп Анюта варыла...» Жонка ў яго Анюта. «Дак штоб не скучаў голуб па галубцы, а галубка... Убіваць, значыць двох убіваю. У мяне ж іх багата навыводзілі... Дак я дзверцы. Мы зачыняю, руку туда, галубку бяру, Анюці адам, паняce, тады голуба бяру... І ўбіваю двох, штобы адзін... Забяры галубку, — плача голуб... Я бачыў, як галубы плачаць... Адзін астае: «Ку-гу, ку-гу...» І плача. А я не пержываю... Тады жалею іх...» Ён жорсткі быў чылавек... А «Жалею...» «Хоць галубка, да будзя плакаць... Убіваць, значыць двох... Плачаць, я не пержываю тады...» У яго багата было галубоў...

Вон жэ песня... Я цябе пела, што і перыйка то, і той жа пушок, а як ён не спяваў, усё ня іой галасок...»

* * *

Пражылі, як голуб з галубкай. Цэніць ён яе, а яна яго цэня. Вот ета яны жывуць, варкуяць, як голуб з галубкай. Ё такія се'мі! Ета сем'і адзельныя такія ё. А еслі ён у дварэ бушуя... Жывуць, як голуб з галубкай. Ета харашо жывуць.

<На каго так казалі?>

Жывеш ты са сваёй Людай... І слава Богу. Ты ёй падчыняісся, а яна табе. Нада ўдваіх, удваіх. Ета счытаіцца, як голуб з галубкай. Паваркуяць, пагаворяць, паабсуждаяць. А еслі адзін будзя адно... Пасць разявіць... <Чаму: як голуб з галубкай?> Ну, харашо!.. Ты, напрымер, пасядзіш, пагаворыш... І ўсі так гаворяць... Ета даўно прыказка... Голуб з галубкай... Галубкі ўсё сядзяць удвох, гаворяць... То тэй варкуя, то тэй памаўчыць... У нас вяліся і варкавалі... Так і чылавек... Ты сядзіш, ты находзіш што гаварыць... Як голуб з галубкай, сядзяць... Цішына парядак... Пагаварылі, пад'елі, аддыхнулі. Вот ета і называіцца: голуб з галубкай. Калі дзед прыдзя Іванюшкаў, а матка з бабай пяюць... І я з імы... Ён: «Ну, на тэй раз, Вайра (ён мяне Вайрай зваў), ты падаждзі.... Ніхай яны па старынушкі пяюць». Я гаварю: «Дзед, ні хадзі к нам.... Ты мне не даеш пець...» Матка: «Правільна і казаў. А то ты... Вон дзела дзелай! А не песен слухай...» Ён будзя казаць: «Вы, як дзве галубкі... Пеяцё, як дзве галубкі». А баба будзя ці матка будзя казаць: «І ты к нам... Ты ж пець умеіш». Так мы ревнём песню... Пасмяюцца, пашуцяць... Еслі дзе бабы так сядзяць, гаворяць: «Ну што вы, як дзве галубкі, сідзяцё, варкуіця?» Прыказкі такія...



## «Каждая пціца сваім голасам пяе...»

Каждая пціца сваім голасам пяе... Сінічка сабе, па-свойму... Ідзе зраўняіш якую... Не...Чачотачка будзя: «Ча-ча-ча-ча... Ча-ча-ча-ча...» «Баба, а ета што?» — «Чачотка... Чачотачка...» Як хто красіва пяе... Па цілявізару хто красіва пяе...Калісь баба наша... Дзеўкі пяюць, яна будзя ў вакно слухаць... Кажа: «Маруся мая памёрла, голас харошы быў, і пела красіва, дак я думаю: «Можа, і мая Маруська там?» Яна ж пела, як салавейка...» <У бабы дачка была?> Памёрла, васімнаццаць гадоў было...» Гаворя: «Мая ж Маруся пела, як салавеечка...» І Адарка, матка Пашкіна пела красіва... І бацька наш... Бацька наш пеў ой красіва! Бацька з маткай... У маткі нашай голас харошы быў тож... Дак яны, як празнік... Помню, матка бутылку паставя, бабе валле, сабе валле і бацьку... І празнік, які... Троіца... Ён і кажа: «Давай любімаю спяёма...» Пелі «Салавейсалоўка смуцён не вясёл, павесіў галоўку, зёрна не клюёць...» і пелі: «То не веціp ветку клоня, не саловушка паёт...» І ўсякія пелі... І бацька красіва пеў.

## «Пцічкі ўжо господняю малітву прапелі, песню божжаю...»

Салавей... Серынькая, малінькая... А пяюць жа яны красіва... Калісь хавалі... Сідарэня быў... Памёр дзед перва... Ніхто ні ідзець... Бедныя, старыя... Хто пойдзя... Дак я хадзіла, Аляксеяўна, Райка... Мылі, надзявалі. А тады баба памёрла... І бабу тую хавалі... І што ты думаіш? Прывязлі бабу тую, паклалі, кала дзеда ямку выкапалі, сірэнь цвіла... І сталі ўжо прашчацца с той бабай, мы падышлі к гробу, папрашчаліся, гаворым: «Харошая баба была...» Дак мы папрашчаліся, пацалаваліся з ёй... І што ты думаіш? Стая такая прыляцела... І во магілка, во дзед ляжыць і бабе ямку выкапалі... І тут такі бальшушчы куст сірэні... І далей ішчэ сірэнь на кладаўе... Яна ж скора рассіваіцца... І яны як прыляцелі гурьбой і селі... І як пачалі пець! Па сваём так ня плачаць... І мы плачыма... Там дзед адзін стаяў, сказаў: «Гасподняя пцічка прыляцела...» Я іх бачыла толькі тады: серынькія такія, малінькія-малінькія... І яны як пачалі!.. Ішчэ ж вывадкі не былі... А так сям'ёй прыляцелі... Ішчэ рана было, у маі месяцы... І яны запелі так красіва, што стаяў бы... Прапелі, пакуль папрашчаліся

мы, і яе накрылі... І людзі гавораць: «Бог даў... Прапелі салавейкі... Німа ў іх ні дачок...» І як гроб закрылі, у ямку спусцілі і яны ўсё пелі. І дзед там стаяў, ён сказаў: «Не зарывайця, пакуль салаўі сваю гаспадняю песню не скончаць». І яны ўсё пелі так красіва! І цішына, ні ветру, нічога, цішыня на кладаўе. Вот стаялі мы, як у Бога за пазухай... Так мы ўсі стаялі. І яны адпелі, і тады ўжо пырх — і паляцелі. Паляцелі... Дзед тэй стаіць і кажа: «А цяперь давайця зямлю кідаць...» Еслі б я там не была б, не паверыла. Райка стаіць, на мяне: «Ты бачыла дзіва?» — «Бачыла». І Людка, і Райка... Суседзі былі... Чылавек дзесяць нас было... Не паверыў бы... Вот як казаў бы, хто-та ўзяў, іх папрасіў, што прыляціця... І ён стаіць і кажа: «Пцічкі ўжо гаспадняю малітву прапелі, песню божжаю». Я на Райку кажу: «Яны ж языком ня ўмеюць гаварыць. Яны прапелі і ўсё». А дзед стаіць і кажа: «Пціца вумней чылавека... Чылавек урэд дзелая, а пціца ўсягда добрая здзелая. Во яны прапелі, вузналі, што некаму па іх і паплакаць...»

## «Іх Жаваранкі празвалі...»

Дзед. Яго звалі Іван Ігнаціч. Іх Жаваранкі празвалі. Яны ўсі... У іх галасы былі звонкія-звонкія... Вот як жаваранаічкі, пелі... Дак яны сядзяць, летам выдуць... У іх быў Іван, Ляксей, Максім, Параска і Гарпіна — пяціра... Бацьку ўбілі на вайне, не на етай вайне, а нейкая ішчэ была: ці з кітайцамі, ці фінлядская, а матка памёрла, дак іх пяць асталось, дак яны раслі сіратамы. Дак яны выдуць увечары, сядуць і пяюць песьні калісяшнія. І вот як жаваранкі! Дзед Жаваранка падводзіў, што баба так не падвідзе, як ён падводзіў песню. Калісь жа песні ўсі штоб падводзілі. Етыя басуюць... Аж грыміць сяло. Іх узялі, празвалі. «Хто-та паюць?» Так Ісакавы па-вулішняму звалі... ...»А ета — Ісакавы»... А тады гавораць... Хтось ужо сказаў: «Жаваранаічкі запелі». Ну і, Жаваранаічкі... Майка, уродзі... Жаваранка і кажа: «Майка, ты наклаў нам імя». А ён: «Вы ж етага і стоіця, што пеяцё, як жаваранаічкі». Дак ужо не сталі Ісакавы зваць, то: «Ісакавы, Ісакавы», бацька Ісак быў, а тады ўжо ніхто не зваў, і дзеці ў дзядзькі Жаваранка параслі, Жаўраняты звалі. Матка: «Вон ужо Жаўраняты ідуць к вам гуляць». Адзін скажа, другі і... Ну, а дзіцям: «Жаўранёнак, хадзі сюда!» Яны ня сердзіліся.

## «Кукушка рэдка плача...»

Кукушка, гавораць, рэдка плача... Усё баба казала: «Кукушка рэдка плача, а усё на ветках скача». Мы гаворым: «А чаго яна рэдка плача?» — «А толькі рэдка плача, што гнязда ня ўе, ні ўмея...» Гавораць: «Ета кукушка, яна ня ўмея нічога дзелаць...» Кілун, які не плахі, кілуны, ну, вераб'і, а яны сабе гняздо, ого!.. Мягкія такія... Во кроквы, ета хрантон, а тута-ка жэрдкі, і вот яны тама-ка пралезяць і там гняздо дзелаяць. <Кукушка рэдка плача. А калі яна плача?> А тады плача, як... Мы каліс: «Баба, чаго яна рэдка плача?» — «А таго, шта прыпрэ несца, а гнязда німа. Яна ўжо дзе нагледзя гняздо тама-ка... А тады ішчэ пагуляя с самцом і зноў у другом гняздзе ў чужом... У вароннім, дак у вароннім... Ці дзе сарока якая... У чужых гнёздах. Дак тады толькі плача, як яйцы раскідая». <...> У нас казалі пра дзяцей: «А ета матка — кукушка... Наряджаяняряджая, дзеду аддасць, матцы аддасць, і зноў пашла сама плясаць». У нас казалі: «Радзіла, вырасці яго... А ня кідай...» А то ё такія... Матцы, то хрёснай... Сама зноў нагулівая... Кукушкі... Усё тады казалі: «Кукушка...» Як матка родзя дзіцёнка, да і падкіня куда-нібудзь... Нагуляя баркана і падкідая пад чужы двор... Дак гавораць: «Якая матка... Ета кукушка...» Кукушка яйцы раскідая... Гуляя с самцом, а яйца сама не выводзя... Дак і звалі: «Кукушка».



## « Не Бог унічтажая, а хімія...», альбо смутак па птушках

Каліcь Пецька быў Тальчук, усё каліcь казаў... Ён с Палесся... Як на Палессі іздзелалі... Балота асушылі... Тады сталі на Амяльном асушаць... Дак ён прыехаў на лесарэзі... Бярёзы тоўстыя, дак зрязаяць. Мужчыны гавораць: «Во балоты асушаць, дак будуць сухія балоты, будуць каровы хадзіць па сухому, а то ж не ідуць, топяцца». А ён тады кажа: «Будзіця, вы ішчэ па балоту плакаць па етаму». А мужчыны гавораць: «А чаго?» — «Таго шта будуць, ад малінькія пцічкі... Усі ўнічтожацца... Во чайкі лятаяць, крычаць, яны сваі песні пяюць... А тады ня будзя». І, праўда, асушылі балота, не стала ні кулікоў, ні чаяк, ні курапятак, не стала пціц тут. Не Бог унічтажая, а хімія... І гаўнакопкі былі... І гаўнакопкі прапалі, і чачотачкі... І сколькі было ў балоці ўсякіх... Як асушылі балота, як карова языком.. Балота... І яны крычаць... Вакно рашчыня баба наша, слухая: «Гасподнія пціцы пяюць...» І там, у копані, жабы... Жабы красіва пяюць... Так выводзяць тонамы жабы... І баба будзя: «Дзеці, хадзіця...» Мы ўжо сядзім — Маша, Туся, я... Матка: «Не даёш дзіцям і паспаць...» — «Паспяць... Памром, выспімся... А ніхай паслухаяць...» І адна жаба точна пад усіх ладзя. І німа — усё прапала... Асушылі, не стала... Вады стала мала, вада пазбягала...

## «І людзі ніроўныя, і пціцы няроўныя...»

Пціца... Адна другой... Ніхай, пастаў іх... Можа, мільёны... І ўсі ніроўныя будуць... І людзі ніроўныя, і пціцы няроўныя... І звяры біваяць і серыя, і белыя...

<А як гэта: пастаў людзей няроўныя і людзі няроўныя...>

Сколькі пціць ё на свеці... Роўныя яны?.. Верабей — ё верабей... І масць... Чым-та да не пахож адзін на аднаго... Вуткі біваяць і рябыя, біваяць і чорныя, усякія біваяць...

А калі чалавек — не чалавек, дак яго і пароўноўваюць с птушкай, якая — не птушка. Адсюль і прыказка: «Курыца — ня пціца, і баба — ні чылавек». І на курыцу навешваюць ўсё самае горшае: недасканалая праца вызначаецца, як «куросання гарадзіць»; «гародзіць, як куры на куросанні»; «курыная вышыўка»; «Хіміны куры гарадзіць»; «Хіміны куры пайшлі ў разнос»; «грабаць, як курыца лапай» (пра непрыгожы, неразборлівы почырк). Такая ж не зайздросная доля ў старой жанчыны, якая жыве у адной хаце з дзецьмі і ўнукам. «Старая баба, як таўкач у ступі»— гэта менавіта пра яе.



# Васіль Жуковіч

**паэт, празаік, перакладчык, эсэіст, крытык. Скончыў педінстытут у Берасці (1964 г.). Працаваў будаўніком, журналістам, рэдактарам у газетах, часопісах і выдавецтвах. Аўтар шматлікіх паэтычных кніг, сярод якіх: «Паклон» (1974 г.), «Не завіце радзіму малой» (2009 г.), «Золата лістападу (2012 г.), «Замова ад рабства» (2017 г.), зборніка сатыры і гумару «Цудадзейны вітамін» (2011 г.), кнігі прозы «Арабінавая ноч» (2016 г.), зборнікаў песень «Дарога ля жыта» (2001 г.), «Спяваем разам» (2008 г.) і інш. Нарадзіўся на Камянеччыне ў 1939 годзе. Жыве ў Мінску.**



## Даляглядны адметнага творцы

***Сіўчыкаў У. Пацалаваць Фідэля. — Мінск: Выдавец Уладзімір Сіўчыкаў, 2020. — 220 с.***

Выйшла гэтай вясною ў свет кніга Уладзіміра Сіўчыкава «Пацалаваць Фідэля». Выдаў яе сам пісьменнік (той, рэдкасны ў нашых краёх, выпадак, калі аўтар і выдавец у адной асобе).

У. Сіўчыкаў — аўтар спрактыкаваны, чалавек бывалы. Выступае ў друку з 1982 года як паэт і празаік, драматург і перакладчык. Пабываў у шэрагу краінаў, у тым ліку і далёкіх ад Бацькаўшчыны, да прыкладу, у Грузіі, ЗША, Іспаніі, Нямеччыне, Тунісе, Швецыі... Невыпадкова на вокладцы кнігі — від на Нью-Ёрк з Эмпайр-Стэйт-Білдынг. І, дарэчы дадаць, з наймення вее-павявае як бы чымсьці кубінскім. Аднак гэта не азначае, што выданне з інтрыгоўна-загадкавым назовам шчытна заселенае гісторыямі з чужых земляў. Зусім не! У абсалютнай бальшыні твораў (і нават у некаторых «замежнага паходжання») — глеба чыста беларуская. Міжволі ўзгадаліся словы Генадзя Бураўкіна з верша, які подаўна стаўся песняю ў выкананні амерыканскага беларуса Данчыка: «Толькі дзе за морам ні быў я, Беларусь мая снілася мне».

Проза ў кнізе падаецца ў трох блоках: «Новыя крыніцы» (з нізкі «Уладзевы гісторыі»), «Аднойчы вясною ў Амерыцы» (з нізкі «Штатныя нататкі») і «Магічныя мапы». Прыканцы, пасля *зместу*, ідуць біяграфічныя звесткі пра пісьменніка, мастака, выдаўца Уладзіміра Сіўчыкава і здзейснены майстрам Уладзімірам Джэйгалам фотапартрэт непаседлівага творцы з пранікілвым позіркам.

Натуральна, пры знаёмстве з выданнем не прамінаю лаканічную анатацыю, якую, верагодна, выказаў (як сваё беглае меркаванне пра кнігу) зоркі рэдактар, кампетэнтны ў космасе прыгожага пісьменства Лявон Баршчэўскі, паэт, літаратуразнаўца, перакладчык, публіцыст; У. Сіўчыкаў таксама мог стацца аўтарам анатацыі. Тут спокмеўка на «дасціпныя і фрывольныя тэксты, іранічна-займальныя і лёгка чытэльныя гісторыі ды фацэцыі, а таксама нататкі пра айчынныя ды замежныя вандроўкі». Так бы мовіць, агляд кніжнага змесціва аб'ектыўны. Толькі чамусьці ні слова пра самае істотнае. Магчыма, галоўная ўвага надавалася задачы прывабіць максімальную колькасць патэнцыйных пакупнікоў кнігі. Калі так і ёсць, то шкада. Бо такім чынам элітарны чытач, якому не вельмі вабныя «лёгка чытэльныя гісторыі», хоць і не ігнаруецца, але ставіцца на другі план пасля масавага... Нехта скажа, маўляў, анатацыі не чытаюцца. Яшчэ як чытаюцца, асабліва ў кнігарнях.

Што ж самае істотнае ў кнізе У. Сіўчыкава? Тое, што ў ёй напоўніцу выявілася цвёрдая пазіцыя свядомага беларуса, падсвечаная яго высокім інтэлектам, эрудыцыяй. У нашай краіне, суверэнітэт якой не раз апынаўся ў небяс-

пецы, толькі духоўна багатыя постаці з незамутнёнаю гістарычнаю памяццю, любоўю да роднае мовы, свабоды, дэмакратыі, справядлівасці, здольныя фармаваць грамадскую думку і стрымліваць разбуральныя сілы ў грамадстве. Таму так важна мастацкім словам выхоўваць у людзей пачуццё патрыятызму і самастойнасць мыслення. Чытаючы Уладзіміра Сіўчыкава, заўважаеш, які ён прынцыповы і паслядоўны ў пытаннях, датычных Бацькаўшчыны, яе святыняў. У шмат якіх ягоных творах пульсуе жыццядайная крыніца моцнага нацыянальнага духу.

У «Магічных мапах» не могуць не звярнуць на сябе ўвагу «Вайсковыя могілкі». Менавіта гэтыя могілкі — знаны сталічны некропаль, куды прафесар Сцяпан Александровіч заміж планавай лекцыі па гісторыі беларускай літаратуры завёў аднаго разу цэлы курс, больш за сотню філфакаўцаў-першакурснікаў. Юныя студэнты шмат нязведанага ўведалі ад яго: і што непадалёк ад магілы Янкі Купалы спіць вечным сном яго маці Бянігна Іванаўна, «якая перажыла славутага сына толькі на два дні, нібыта адчуўшы ягоны трагічны сыход у далёкай Маскве», і што «поруч ляжаць Кузьма Чорны, які перажыў неверагодныя пакуты ў чэкісцкіх засценках, і Міхась Клімковіч, які ачольваў Саюз пісьменнікаў, ці не дзевяноста адсоткаў чальцоў якога сталіся ахвярамі сталінскіх рэпрэсій. Распавёў Сцяпан Хусейнавіч і пра чорную ноч беларускай гісторыі з 29 на 30 кастрычніка 1937 года, калі ў сутарэннях «амерыканкі» энкаусаўцы расстралялі больш за сто прадстаўнікоў нацыянальнай інтэлектуальнай эліты».

Цытаваў ён і верш Рыгора Семашкевіча:

*Вайсковыя могілкі Мінска*
*Не будуць варот зачыняць.*
*Спыніся — далёкі і блізкі —*
*Тут маршалы нацыі спяць.*

Неардынарныя паводзіны і такая дасведчанасць Сцяпана Хусейнавіча сведчаць, што гэты прафесар выхаваны быў не таталітарным савецкім рэжымам... Нельга не пранікнуцца шчыраю павагай да адметнае асобы педагога і пісьменніка, таму рукі мкнуцца да вядомага даведніка «Беларускія пісьменнікі. Бібліяграфічны слоўнік», каб знайсці біяграфію С.Х. Александровіча... Яшчэ карціць даведацца, калі, у якім годзе вядомы навукоўца распавёў горкую праўду ўніверсітэцкім навабранцам у ціхім кутку сталіцы.

Было тое, як піша аўтар, трыццаць два гады таму. У такіх выпадках твор павінен датавацца. У Сіўчыкава даты напісання «Вайсковых могілак», на жаль, чамусьці не аказалася. Даводзіцца ў разлік браць год выдання кнігі. Адсюль атрымліваецца, што прафесар С. Александровіч працаваў на філфаку ў 1988 годзе, але ж ён ужо ў 1986-м спачыў вечным сном... Гартаю даведнік і знаходжу звестку, калі спадар Сіўчыкаў паступіў у БДУ: у 1982 годзе. А гэта і азначае, што восеньскую экскурсію для першакурснікаў выкладчык правёў якраз у тым самым 1982-м. Таталітарны рэжым яшчэ не збіраўся канаць, яго пільныя органы сачылі за творчай і навуковай інтэлігенцыяй, стукачы падслухоўвалі, даносілі... Так што смелы чалавек быў Сцяпан Хусейнавіч Александровіч. Пашанцавала юнакам і дзяўчатам павучыцца ў яго... Як жа ўспрымалі выкладчыка-праўдалюба студэнты-пачаткоўцы? Сёння ім па столькі гадоў, колькі тады было яму, і некаторыя з іх падоўна сталіся вядомымі, як, напрыклад, Лявон Баршчэўскі, Рыгор Сітніца дый аўтар гэтай кнігі. Няхай бы ён, Уладзімір Сіўчыкаў, у «Вайсковых могілках», канстатуючы факты, хоць нейкімі штрыхамі перадаў і маладзевую стыхію, і жывую гамонку, рэплікі, пытанні. Хоць бы кагосьці аднаго. Як на яго паўплывала пачутае ад педагога і творцы?.. Не выключана, што і змяніла ў нечым жыцці.




Нездарма кажуць: праўды не бывае шмат.

У шэрагу заакіянскіх сюжэтаў (нізка «Штатныя нататкі») хочацца вылучыць нататку «Самы беларускі». «Як ні дзіўна, але самы беларускі скульптурны помнік тут — польскі!» — піша аўтар, на першы погляд парадаксальна, пра адзін з помнікаў на ўзбярэжжы Нью-Джэрсі. На п'едэстале — лаканічны надпіс па-польску: «Katyn 1940». У скульптурнай фігуры пазнаецца (па форме і канфедэратцы) польскі вайсковец, у спіну якому ўсаджваецца чырвонаармейскі штых. Якраз тут, у Нью-Джэрсі, кампактна пражывае польская дыяспара. А палякі ўмеюць ушаноўваць сваіх герояў і пакутнікаў. Можа ўзнікнуць пытанне: прычым тут беларусы? Пісьменнік тлумачыць: «...многія тысячы служылі, як, да прыкладу, будучы выдатны празаік Янка Брыль, у польскім войску. Шмат хто з іх патрапіў у палон у выніку «вызвольнага» паходу Чырвонай арміі на пачатку Другой сусветнай вайны, а пасля быў закатаваны і расстраляны пад Смаленскам паблізу вёскі Катынь». У. Сіўчыкаў з пэўнасцю заяўляе пра гэта, бо на свае вочы бачыў і мемарыял у Медным, што пад расійскім горадам Цвер. Там на шыльдачках ахвяраў, чытаю далей, — безліч прозвішчаў, распаўсюджаных і сёння ў заходнебеларускіх рэгіёнах. «Адных толькі Адамчыкаў, — апавядае аўтар, — налічыў я пад два дзясяткі!»

Вяртаючыся да памяці ахвяраў, палеглых у Катыньскім лесе, ён піша пра тое, што помнік надзвычай выразны, зразумелы кожнаму паляку, кожнаму дасведчанаму беларусу, усім амерыканцам і іхным гасцям, усім, хто шануе ідэалы свабоды, дэмакратыі і справядлівасці.

Пачуццё справядлівасці — неад'емная якасць душы Сіўчыкава-творцы, што адчуваецца шматкроць, калі чытаеш ягоныя творы, асабліва тыя, у якіх гаворка йдзе пра Беларусь, яе слынных, ды часта недаацэненых, сыноў, дачок, яе гісторыю, якая нярэдка скажаецца навукоўцамі-лакеямі, культуру, якой цяжка выбавіцца з фінансавай галечы, родную мову, толькі фармальна дзяржаўную, а на справе занядбаную ўладамі, духоўнасць, нацыянальныя святыні і сімвалы.

Вядома, першы сімвал дзяржаўнага адзінства — не што іншае як гімн. Не абышоў яго і наш праўдзівы і адначасна з'едлівы пісьменнік, дазнаны ў гісторыі стварэння як бээсэсэраўскага дзяржаўнага, так і «старога новага» гімна — ужо для Рэспублікі Беларусь. Распавёўшы пра гвалтаванне маральна састарэлага тэксту нябожчыка ягоным сааўтарам, ён ужыў просценькае формаю, ды сакрушальнае зместам барадулінскае азначэнне — гімнюк, якое скарысталася і ў якасці загалоўка.

З любасцю распавядаючы пра парк, блізкі з малалецтва, Уладзімір Сіўчыкаў называе відную мясціну, дзе стаіць Планетарый, а пры ім — бюст Канстанціна Цыялкоўскага. «Хацелася б бачыць там помнік і нашаму Язэпу Драздовічу, аўтару трактата «Нябесныя бегі» і цыкла касмічных палотнаў» — слушна разважае апантаны беларушчынай пісьменнік. І тут жа піша пра сціплую на цагляным аднапавярховіку шыльду, якая сведчыць пра тое, што да вайны тут стаяў дом, дзе жыў маг беларускага мастацкага слова Якуб Колас. Дужа трапная Уладзева характарыстыка — маг, бо па сіле ўздзеяння на чытача мастацкае слова шмат якіх ягоных твораў магічнае. І факт неаспрэчны: легендарны класік жыў менавіта ў гэтым парку. Значыць, і аргумент надзвычай важкі: парк павінен насіць новае, належнае імя — імя аўтара паэмы «Новая зямля». Вераю ў тое, што ён насіцьме імя беларускага генія, завяршаецца нататка «Парк Горкага».

У кнізе вельмі багата Уладзевых гісторый, іх тут самая ёмістая нізка. І добра, што яны надта розныя: пазнавальныя і павучальныя, інтэлектуальна заглыбленыя і просценькія, вясёлыя і журботныя, фрывольныя і высокамаральныя, як правіла, дасціпныя, словам — на любы чытацкі густ. Адны — з непасрэдным Уладзевым удзелам, другія — з таго, што пачулася, убачылася і легла на душу, трэція — з таго, што пачуў і пераказаў яму хтосьці. Ёсць гісторыі з трапным, дзе-калі гаваркім найменнем і кароткім, але жыватроплівым зместам, такія іншы раз трошачкі нагадваюць «жменю сонечных промняў» Янкі Брыля, як вось гэтая: «Пачуеш часцей мову нейкіх гасцей». ...Раніца ў метрапалітэне. «Як прыемна чуць добрую, нязмушаную беларускую мову!» Так сказала маладзіца з прыязнаю ўсмешкаю сівабародаму чалавеку, які адыходзіўся ад акенца касы. Той быў відочна не ў гуморы (заўважана Уладзем), таму адказаў як адрэзаў: — Шкада толькі, што ў Менску сёння куды часцей пачуеш не беларускую, а кітайскую ці арабскую мову! — Але як пабачыў, што ветлівая кабета збянтэжылася, дык дадаў ён куды больш лагодна: — Але дзякуй вам на добрым слове! Добрага вам дня!

Мініяцюру, у якой нічога ні дадаць, ні адняць, хочацца назваць класічнаю. Яна ж і актуальная, бо закранае вельмі балючую для беларусаў праблему. А пра вялікую шкоду рэформы беларускага правапісу 1933 года ідзе доказная гаворка ў нататцы «І зноў пра мяккі знак».

«Прачуханкі» — можна сказаць, трагікамічная гісторыя. Аповяд пра дзве сустрэчы ў Жодзіне, куды разам з ураджэнцам горада па-над Плісою завіталі ягоныя калегі: сталічныя госці паэт Генадзь Бураўкін і перакладчык, палітолаг, педагог, экс-дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Лявон Баршчэўскі. Першая сустрэча ладзілася ў жаночай гімназіі, там педагог-гісторык Галіна А. была вядоўцай, хвалявалася, сёе-тое блытала, прыняла Бураўкіна за Барадуліна, потым прасіла ў паэта і слухачак прабачэння, пасля назвала Бураўкіна народным паэтам. У дзвярах стаяла гімназічная ідэалагіня Людміла Б., якая прыпазнілася. Тую праймала хваляванне іншага характару. «Уй, блін! — чыталася ў яе на вуснах. — Каго запрасілі!» Чым далей, страхоцце ўзрастала. Як піша аўтар, на твары ў ідэалагіні можна было прачытаць: «Ну, усё, капец! Калі не звольняць, дык атрымаю як мінімум добрай прачуханкі ў гарана ці нават у гарвыканкаме!» Імпрэза ж прайшла ўдала. Знаныя госці прачыталі вершы, пераклады, адказалі на пытанні, падаравалі навучальнай установе свае кнігі дый пацешыліся кветкам ад гімназістак. Не змаглі відныя літаратары прамінуць і гарадскую бібліятэку. Пагаманілі з супрацоўніцамі, пакінулі аўтографы на сваіх аўтарскіх кнігах, што знайшліся на паліцах і ў бібліятэчных фондах, а таксама сфатаграфаваліся на добры ўспамін разам з бібліятэкаркамі. А праз некалькі тыдняў яны дазналіся: дырэктарка бібліятэкі, лаўрэатка прэзідэнцкай прэміі «За духоўнае адраджэнне» Тамара Ч. выйшла з адпачынку і ўзняла гвалт, калі падначаленыя пахваліліся ёй нядаўняй імправізаванай сустрэчай і аўтографамі знакамітых майстроў слова:

— Ды вы што! Знайшлі каго запрашаць, знайшлі каго прывячаць у храме культуры! Вы што, не ведаеце — гэта ж бээнэфаўцы, гэта ж апазіцыянеры! Праз тое нашы ўлады ім ні званняў, ні прэмій, ні пасадаў не даюць!

Некалі знакаміты Віктар Роўда ў падобных выпадках казаў коратка: пк. І расшыфроўваў: пытанне культуры... Тут жа драма глыбейшая, яна вынікае з рабскай псіхалогіі...

Затое ў «Шчырым беларусе»— нічога такога, што б нагадвала рабскую псіхалогію ці бескультур'е. Уладзімір К., едучы па праспекце Пераможцаў, парушыў правілы. Напярэймы ягонаму міні-бусу кінуўся лейтэнант-даішнік з пярэстым чорна-белым жэзлам. Калі Уладзімір прыпаркаваўся ля ўзбочыны, з другога боку аўтамагістралі шыбаваў да яго міліцыянт у чыне маёра. «Ну, усё,

капцы...» — асуджана ўздыхнуў кіроўца. Але маёр аказаўся выхаваным, інтэлігентным чалавекам. Прагледзеўшы пададзеныя яму дакументы, звярнуўся да віноўнага далікатна. Назваўшы ягонае імя ды імя па бацьку, мякка папракнуў за парушэнне дарожных правілаў (ды яшчэ на такой трасе! «Вы што ж, не ведаеце, хто тут рэгулярна праязджае?!..») Чамусьці адчуваецца ўсмешка важнага даішніка. Неўзабаве высветлілася: кіроўца спяшаецца на заняткі, ён працуе дырэктарам Беларускага гуманітарнага ліцэя імя Коласа. Маёр паважлівым тонам запытаўся:

— А-а, дык вы дырэктар таго самага, знакамітага, напалову падпольнага ліцэя?! Ну, і як там ліцэй, спадар Уладзімір? Трымаецца?

Пісьменнік бліскуча завяршае аповяд: «З гэтымі словамі маёр, які аказаўся найперш шчырым беларусам, а толькі потым — службоўцам, не толькі вярнуў вадзіцелю дакументы, але і адсалютаваў яму на знак павагі.

— Гладкае дарогі, спадар Уладзімір!

У полі зроку Уладзіміра Сіўчыкава нярэдка творчая і навуковая інтэлігенцыя, бо гэта ягонае асяроддзе: сам жа — творчая асоба. Дзякуючы яму перад зацікаўленым чытачом паўстаюць самабытныя постаці, да прыкладу, дасціпнага Адама Мальдзіса («Біблійны Адам»), таго ж Мальдзіса-жартаўніка і даверлівага Караткевіча («Цыганка Аза»), харобрага, ды часам неабачлівага Янкі Сіпакова («Плывец»).

Што да Уладзевай гісторыі «Салодкая падзяка», то яна разгарнулася з ягоным непасрэдным удзелам, прытым тут ён, нядаўні лысагорац, — галоўная асоба, якая ільвіную долю ўвагі надае Генрыху ды Марыі Далідовічам, іх дачушцы Людміле і ўнучцы Злаце. Уладзя на лысагорскіх лецішчах меў сядзібу поруч з Далідовічавай, і ў яго на вачах гадавалася Людачка, а пазней і Людаччына Злата. У аповядзе гаворыцца пра тое, што ў дзень нараджэння Люды Уладзя адаслаў ёй, імянінніцы, віншаванку і скарыстаў добрую нагоду перадаць Далідовічам сваю кніжачку вершаў «Багоўка» з серыі «Нашым дзеткам», ажыццёўленую «Мастацкай літаратурай». Аўтограф атрымаўся зрыфмаваны:

*Кніжка з вершыкам пра Злату —*
*Сонца й радасць ў вашу хату!*

Аказваецца яна, Златачка, нават сталася гераіняю аднаго з Уладзевых вершаў:

Прыляцелі дзве сарокі
*Пастаўлялі крылы ў бокі.*
*На драўляны дачны плоцік*
*Скочыў і Цімоха-коцік:*
*— Заклікаю да парадку —*
*Спіць яшчэ дзяўчынка Златка!*
*Дык дарма не сакачыце!*
*Прэч! На сажалку ляціце!*



Стэлефанаваўся Уладзя са Златкавымі дзядулем ды з бабуляю, з Генрыхам Вацлававічам і з Марыяй Нічыпараўнай дый выправіўся на сустрэчу. Генрых перастрэў яго каля «Кнігарні пісьменніка» і наўзамен за кніжку перадаў паўлітровы слоік варэння з трускалак, «за які Уладзя папрасіў падзякаваць шаноўнай Марыі Нічыпараўне як за незвычайную адзнаку ягонай творчасці». Ад запрашэння на каву мусіў адмовіцца, «спяшаўся ў Дом дружбы на вечарыну, прысвечаную 205-годдзю Тараса Шаўчэнкі. Ведаў, што пабачыць там не толькі амбасадараў Украіны, Польшчы, Славакіі, Аўстрыі, якія прадэкламуюць Кабзара па-беларуску і на родных мовах, але і нямала іншых прыязных асобаў, а сярод іх — гаспадыню, дырэктарку Дома дружбы Ніну Іванову і гэтаксама лысагорца, паэта і перакладчыка з украінскай мовы Васіля Жуковіча». Уладзімір (ён жа Уладзя) Сіўчыкаў пунктуальна, а почасту і педантычна занатоўвае пачутае, убачанае, перажытае.

У кнізе «ПАЦАЛАВАЦЬ ФІДЭЛЯ» ёсць аднайменны твор. Тут гамонка пра тое, як сусед з лесвічнай пляцоўкі Віктар Х. аніяк не хацеў адпускаць Уладзю, нават калі правёў іншых гасцей, з дня нараджэння свайго. Уладзя прыняў прапанову, у выніку пайшла ў іх цёплая сяброўская гамонка. Шмат пра што гутарылі суседзі — пра кубінскі ром, з усмешкаю пра Кубу і пра Фідэля; пасля Віктар распавядаў, наліваючы «расхадуху», «аглаблёвую», «забугорную», пра «нашага чалавека ў Гаване» генерала Іканчыца, якому хросная ягонай дачкі Леначкі ў свой час, калі ён служыў у Беларусі, давала прыватныя ўрокі і які, будучы за акіянам, разам з Раулем Кастра прысылаў па Леначку і яе хросную самалёт...

І ўрэшце сусед Віктар падараваў Уладзю незвычайную гісторыю. «Уцякалі з Кубы ў амерыканскі штат Маямі колькі дзясяткаў кубінцаў, натуральна, морам — на плыце ці на лодцы. Аднаму старому дужа кепска зрабілася. «Паміраю, — крычыць, — таму хачу развітацца з родным сцягам... Ёсць у каго-небудзь кубінскі сцяг?!»

Ані ў кога не аказалася штандара, але пашкадавала старога адна сэксапільная дзяўчуля. Падабралася яна да нябогі, задрала спадніцу і высветлілася, што пад ёю толькі майткі-стрынгі, затое на сцягне вытатуіраваны кубінскі сцяг!

Пацалаваў стары той сцяг у ахвотку, а тады й кажа: «А мая ты красата, павярніся да мяне передам! Я зараз хачу пацалаваць і твайго барадатага Фідэля! І ўвогуле — перадумаў я — не буду паміраць!» Якая дасціпная народная класіка, якая ўдалая рэч... была б, калі б на гэтым аўтар паставіў кропку. Як мог майстар мініяцюрнай прозы страціць пачуццё меры?! Ён вырашыў добра пасоленае падсаліць:

— Дык гэта ж акурат як прыпеўка з Барадулінскага зборніка фалічнага фальклору «Здубавецьця»:

*Ой, сват, ты мой сват,*
*Не бяры мяне за зад,*

*Бяры мяне за пярод,*
*Тады мяне забярот!*

Што гэта? Жаданне ўставіць сваё слоўка? Навошта! Тут усе словы Уладзевы, бо не сумоўца, а ён данёс да чытача пачутую гісторыю.

Зашмат патрацію пораху аўтар нататкі «Партызаны, партызаны...»(пра арганізацыю шахматных турніраў у адной творчай суполцы). Ягоныя крытычныя заўвагі нагадваюць страляніну з гарматы па вераб'ях. Выказаныя ім меркаванні супярэчлівыя. «Ды вось жа бяда — у суполцы ледзь не паўтысячы чальцоў, а ўдзел у турніры бяруць... блізу дзясятка» — гаворыцца напачатку, а прыканцы вось так: «Натуральна, можна казаць, што ў суполкі няма вялікай залы і іншых мажлівасцей праводзіць спаборніцтвы з вялікай колькасцю гульцоў». Я ведаю тую арганізацыю, у памяшканні даволі цесна нават васьмі-дзесяці гульцам, там некалькі сталоў, усе яны загружаны кампутарамі ды іншай тэхнікай, кнігамі, дакументамі, папераю, яшчэ й заплеценыя павуціннем шнуроў, правадкоў, дроцікаў. Так што даводзіцца прыстасоўвацца. У. Сіўчыкаў піша пра тое, што, мажліва, Алесь У. і Барыс П. ці хтосьці іншы не супраць былі б памерыцца сіламі «з заўсёднікамі міжсабойчыка». Ведаю, што Барыса П. не ўдаецца ўпрасіць паспаборнічаць, бо ён — кіраўнік. Што да Алеся У., то ён не сябра той суполкі. А што да «іншых», то арганізатары скардзяцца: вельмі цяжка ўцягнуць у спаборніцтва «новеньких». Адным амбіцыі не дазваляюць, другім — занятасць, трэція баяцца, бо даўно не гулялі. З'яўляюцца на турніры самыя адданыя прыхільнікі шахмат, «заўсёднікі міжсабойчыка», а перамагаюць, натуральна, мацнейшыя, часам не адзін год запар, што так турбуе нашага пісьменніка...

Увогле тое, па чым ён паліць з гарматы, вартае не папроку, а захаплення: у адзінай на ўсю краіну творчай суполцы ёсць завядзёнка — штогод, увесну і ўвосень, праводзяцца шахматныя турніры. Натхнёна спаборнічаюць мацнейшыя шахматысты. Да менскіх далучаюцца іншагародні, прыязджаюць з Берасця і Лунінца, з Бярозы і з Віцебшчыны...

Я перапрашаю У. Сіўчыкава за такую фантазію. І спадзяюся: пісьменнік пісьменніка, як і шахматыст шахматыста, зразумее. Мне чамусьці ўспомніўся дзённікавы запіс Кузьмы Чорнага, які зрабіў ён у сваю апошнюю восень, 10 верасня 1944 года: «Кожная тая кніга добрая, калі яна ўзбівае чалавека на сталыя і важныя думкі».

Кніга «ПАЦАЛАВАЦЬ ФІДЭЛЯ» добрая. Сталыя думкі пра яе мною выказваліся ўжо з першых старонак гэтай рэцэнзіі. Застаецца адзначыць шыкоўную сучасную мову Уладзіміра Сіўчыкава, які ўдумліва ставіцца да кожнага слова. Скажам, амаль усе пісьменнікі карыстаюцца, не цямячы, што пішуць, знявечаным словам «біблейскі», а ён ужывае — біблійны.Падобных прыкладаў можна прывесці процьму. Але, жадаючы заставацца гранічна аб'ектыўным, скажу: калі чытаў я пра Фідэля Кастра, то не ўпадабаў фразеалагізм «вешаў локшыну на вушы», бо можна знайсці свой адпаведнік распаўсюджанаму чужому... І яшчэ. У дабраякасным творы «Грузінскія дранікі» ёсць такі сказ: «Уладзя пачухаў патыліцу, але адступацца не было як». «Пачухаў патыліцу» — штамп беларускай савецкай прозы.



Новая кніга Уладзіміра Сіўчыкава завяршаецца цудоўным творам: «Падымі мяне ў светлы абшар». Тут ёсць радок з песні «Падымі мяне над мітуснёю». Віншую Уладзіміра Сіўчыкава з добраю кнігай і зычу новых высокіх творчых узлётаў над мітуснёю і цяжкаю рэчаіснасцю нашай Бацькаўшчыны!




# Эдуард Дубянецкі

**паэт, эсэіст, крытык, гісторык, культуролаг. Кандыдат гістарычных навук. Аўтар кніг паэзіі: «Душы маёй няскончаны палёт» (2011 г.) і «Покліч самотнага неба» (2013 г.), энцыклапедычных даведнікаў і навучальных дапаможнікаў па гісторыі, культуралогіі і беларусазнаўству, а таксама серыі навукова-папулярных выданняў пра асветнікаў Беларусі. Нарадзіўся ў 1966 годзе ў вёсцы Чудзін на Берасцейшчыне. Памёр 25 лютага 2020 г.**



## З чарады Страціма-лебедзя...

*Гэты тэкст, прысвечаны творчасці Народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна, з'явіўся вечарам 24 лютага 2020 года на старонцы Эдуарда Дубянецкага ў Фэйсбуку... Сваім артыкулам Эдуард Дубянецкі хацеў прывітаць дзядзьку Рыгора ў Дзень ягоных народзін... Атрымалася ж, што гэта публікацыя стала развітальным словам для самога Эдуарда. ..Ужо днём, пішучы гэты тэкст, Эдуард пачуваўся дрэнна... Ноччу яго забрала Хуткая. А ранкам 25 лютага 2020 года, на 54 годзе жыцця перастала біцца ягонае сэрца... Сэрца паэта, празаіка, навукоўца, сэрца сапраўднага патрыёта, сэрца Беларуса з вялікай літары...*

*Навіна аб смерці блізкага чалавека заўсёды засцігае знянацку, як гром з яснага неба... І ты, агаломшаны гэтай навіной, робішся абсалютна абяззброеным і бездапаможным перад жыццём і лёсам. І пачынаеш пакутліва сумнявацца ў існасці Божага промыслу... Ну чаму? Чаму? Чаму так? Мо таму, што «не па барадзе, а па чарадзе смерць ідзе...»? Алесь Пісьмянкоў, Ала Канапелька, Анатоль Сыс, Уладзімір Марук, Таццяна Сапач, Міхал Анемпадыстаў, Уладзіслаў Ахроменка... У гэтым жалобным шэрагу з нядаўняга часу і — Эдуард Дубянецкі... Ён быў паэтам з рыцарскім абліччам і анёльскай душой — абсалютна шчырым, даверлівым і бяскрыўдным у адносінах да людзей... І ні разу не паскардзіўся на бязлітасны лёс, і не выказаў крыўды на Бога за сваю фізічную загану... На гэта здольныя толькі сапраўдныя волаты Духу... Тыя, хто робіць першы крок на Птушыны шлях без самоты і шкадавання, бо «кнігу маюць»... Паэт Эдуард Дубянецкі з іх акрыленай чарады...*

### Памяці Эдуарда Дубянецкага

*Отговорила роща золотая...*
С. Ясенін

Нібыта хтосьці зло пажарціў,—
яшчэ учора вершы сніў...
— Ой, Эдуардзе, Эдуардзе!
Ну што ж ты, дружа, нарабіў?!

Жыцця на дробязь не растраціў...
Хлуснёй душу не замуціў...
— Ой, Эдуардзе, Эдуардзе!
Ты, як анёл, узнёсла жыў...

Аб моры мару даляглядзіў...
Не шкадаваў балесных крыл...
— Ой, Эдуардзе, Эдуардзе!
Чым Богу ты не дагадзіў?

Завету Геніюш не здрадзіў...
Больш за жыццё свой Край любіў...
— Ой, Эдуардзе, Эдуардзе!
Не ў час твой гай адгаманіў...
*25 лютага 2020 г.*

**Эдуард Акулін**

# Беларускі паэтычны акіян

***да 85-годдзя з дня нараджэння Рыгора Барадуліна***

Зараз заканчваю сваё эсэ пра творчасць славутага «дзядзькі Рыгора». Прапаную вашай увазе некалькі невялікіх фрагментаў гэтага тэксту:

«Па колькасці, разнастайнасці і якасці зробленага ўсю яго неабсяжную творчую спадчыну можна небеспадстаўна параўнаць з бяскрайнім, глыбокім і вечна неспакойным паэтычным акіянам. І ў гэтым своеасаблівым акіяне можна знайсці практычна ўсё: і арыгінальныя паэмы, і безліч вершаў у шматлікіх відах, формах і жанрах, і ўзоры духоўнай, філасофскай, метафізічнай, пейзажнай, грамадзянскай, любоўнай лірыкі, і гумарыстычна-сатырычныя, і гуллівааратычныя творы, і дзіцячыя вершыкі, і вострыя эпіграмы, канечне, мноства перастворaных/перакладзеных ім на родную мову шэдэўраў сусветнай паэзіі.

Акрамя таго, тут яшчэ варта назваць такія вынайдзеныя ім аўтарскія віды вершаў-карацелек, як «ахвярынкі» і «вершасловы». Так, гэтыя паэтычныя мініяцюры займаюць ўсяго некалькі радкоў (а часам і ўвогуле адзін!), але ж якія! У большасці з іх — глыбіня, ёмістасць і вобразнасць! Такім цудоўным вершаваным карацелькам могуць пазайздросціць многія нават вельмі таленавітыя паэты, якім для таго, каб выказаць штосьці падобнае, часам бывае патрэбна напісаць не адзін больш-менш аб'ёмны верш, ды й тое без гарантыі таго, што ўдасца дацягнуцца да барадулінскай паэтычнай вышыні.

..........

Упэўнены, што і зараз, праз шэсць гадоў пасля смерці, незабыўны «дзядзька Рыгор», метафарычна кажучы, сваімі найбольш удалымі вершамі дае сённяшнім вершапісцам своеасаблівы віртуальны майстар-клас паэтычнага майстэрства. Прычым «узрошчаны» на адметным вушацкім фальклоры і на спрадвечных традыцыях роднай зямлі, Барадулін у некаторых творах дэманстраваў сапраўдны касмізм паэтычнага мыслення, як, напрыклад, у вершы «Парушынка»:

«Зямля —
*Парушынка ў Гасподнім воку.*
..........
*І з недасяжнага нам далёку*
*Нябачнасць бачыць,*




*Рыгор Барадулін з маці.*

*Як час бяжыць,*
*Як парушынка ў балючым воку*
*Дрыжыць...*

Адметна, што многім барадулінскім вершам уласціва вельмі рэдкая для сучасных паэтаў самаіронія, уменне па-добраму пакпіць з сябе ды іншых — у тым ліку і калегаў. На маю думку, толькі самадастатковы, мудры і па-сапраўднаму ўпэўнены ў сваіх сілах паэт, як Рыгор Барадулін, мог з сумнай іроніяй публічна параўнаць самога сябе са старым заімшэлым «пнём». І ў гэтым звязку адразу згадваецца, што калісьці два вялікія кітайскія паэты-сябры Лі Бо і Ду Фу ў сваіх вершах і падчас сяброўскіх гутарак лёгка маглі назваць «п'янымі дурнямі» як саміх сябе, так і адзін аднаго.

..............

Такім чынам, цудоўныя, бліскуча-мудрыя барадулінскія вершы, а таксама памяць аб нашым выбітным Майстры, якога Уладзімір Някляеў слушна называў Чарадзеем беларускага слова, найлепшым беларускім паэтам сучаснасці і творцам неверагоднай сілы і красы, будуць жыць вечна. І ў гэтым, упэўнены, няма і ніколі не будзе ніякага сумнення, ніякага перабольшання...

# З вершаў Рыгора Барадуліна

## Жыта жыцця

У жыце жыцця
Не ўсе каласы
Аднолькава любяць зярняты.
Не ўсім стае
Цеплыні і расы,

Каб быў каравай багаты.
Умее чакаць
На куце куцця.
Пакорыцца доля прыкмеце.
Пакуль каласуе
Жыта жыцця,
Зямлі не самотна ў Сусвеце...
*29 лістапада 2007 г.*

## Адпаведна

Па выбоінах часу
Падскоквае воз,
Што вязе і святло, і пакуты.
Кожны сам
Дакарае і нянчыць свой лёс,
Кожны сам да сябе прыкуты.
І цярпліва чакае
Кожнага дол,
Адварочваецца пагарда спіною.
І над кожным крыляе
Ягоны анёл,
Чорт бяздомны
Варушыцца пад рабрыною...
*10 чэрвеня 2007 г.*

## Крэўнае

Родная старана,
Ты — незагойная рана,
Схаваная ад чужога вока
Старанна.
Душа без цябе
Лодкаю без стырна
Б'ецца ў халодныя
Берагі тугі.
Ты, як душа, адна,
Крэўная старана...
*23.06.2007 г.*



## Голас волі

Голас волі з-за кратаў,
Ён зрынае са стодаў
Крывісмокаў, вар'ятаў,
Трыстуноў млосных одаў.
Вея лютасці вые,
Падраслі маладыя.
Не прымаюць іх шыі
Хамуты залатыя.
Рух не спыняць ніколі
Ані здрадай, ні хлуссю.
Сцяг
Пагоню на волю
Ўзносіць над Беларуссю.
Нашы дні, як навэлы,
Значаць крылы палёту.
Беларус —
Значыць смелы,
Непадлеглы прыгнёту.
Дух змаганняў не кволы —
Ні паразаў, ні стратаў.
Весніць высі і долы
Голас волі з-за кратаў!
*23 кастрычніка 2013 г.*



# Анатоль Трафімчык

**літаратуразнаўца, гісторык, крытык, паэт. Кандыдат гістарычных навук. Кандыдат філалагічных навук. Аўтар паэтычных кніг: «Пасведчанне аб нараджэнні», «Ноты цноты», «Лірыка лірыка» і шматлікіх публікацый у замежным і айчынным друку. Нарадзіўся ў 1976 годзе ў вёсцы Вялікія Круговічы. Жыве ў Мінску.**



# «Сэрца страляе вершам»: дыялектыка душы ў паэзіі Людмілы Шчэрбы

***Шчэрба Л. Я пакідаю сонца тут...: кніга паэзіі. Мінск: Кнігазбор, 2020, 112 с.***

Творчасць Людмілы Шчэрбы стала вядомай яшчэ ў мінулым стагоддзі. Найперш вершы. Яркія. Экспрэсіўныя. У сувязі з гэтым запамінальныя. Хаця не так і часта пісьменніца выступае ў друку. Тым болей з кнігамі. Такое ўражанне, што яна акумулюе энергетыку, каб рэалізаваць яе ў сканцэнтраваным выглядзе.

Гэта датычыцца таксама прозы. Аўтарка апублікавала два раманы: «Уладар рыбаў» (2003, «Маладосць») і «Урб@н.М. Адзін дзень не майго жыцця» (2017). Творы для свайго часу прагучалі, хаця і не сталі лаўрэатамі якіх-небудзь прэмій.

Сабранымі пад адной вокладкай вершы Л. Шчэрбы ўпершыню ўбачылі свет адно сёлета, нягледзячы на яе даволі самавіты творчы стаж, які набліжаецца да трэці стагоддзя. Што і казаць: як паэтка Л. Шчэрба вядома яшчэ з незабыўных першацветаўскіх часоў. І вось толькі зараз яна асмелілася на паэтычнае выданне.

Такі крок можна разглядаць як пэўнае падсумаванне. Творчасці? Жыцця? Прынамсі, іх этапа, які называецца маладосцю. Яго пачатак, як лёгка прасачыць па даціроўках пад вершамі, адносіцца да 1990 г. («Прыходзяць сны, сыходзяць гукі...», с. 30). Цяжка ў гэта паверыць, але Л. Шчэрба паспела пабыць савецкай пісьменніцай.

У той жа час вершы трох дзясяткаў гадоў танальнасцю блізкія. Таму іх змяшчэнне ў выглядзе адной кнігі (менавіта гэтак маркіруецца выданне) выглядае арганічным. Настроі на працягу доўгага перыяду заставаліся тоеснымі. Яны выліваліся ў вершы. Імі, па прызнанні самой паэткі, страляла сэрца: «Колькі яшчэ ў абойме?» (с. 80), — такое пытанне лірычная гераіня адрасуе не столькі сабе, колькі свету. Але — пра сябе. Нібыта спадзяючыся на працяг азначанага перыяду. Тут жа даецца адказ-перасцеражэнне:

*А сакавік-галадранец*
*Пусціць зіму пад адхоны.*
*Траўнем не падарвацца б*
*На запазнелым бутоне.*

Вясна — самая папулярная ў творчасці Л. Шчэрбы пара года. Поруч з восенню. Але якраз на фоне апошняй падкрэсліваецца значнасць вясны, па-

трэба і прага цяпла. Не толькі для лірычнай гераіні. Але і для яе як для канкрэтнага прыкладу чалавека з тонкай душэўнай арганізацыяй. Таму паэтка імкнецца захаваць максімум цяпла і вясны. Сабе і людзям. Гораду і свету.

*А я вясне дапамагаю,*
*Лядзяш каштуючы на смак,*
*І Інстаграм зімы гартаю —*
*На развітанне стаўлю лайк.*
(«Вясна камечыць белы аркуш...», с. 92)




Тым не менш адрозненні паміж рознaчасовымі вершамі прасачыць можна — па лексіцы. Чым бліжэй да дня сённяшняга,тым больш неалагізмаў віртуальнага свету (прыкладам — хаця б апошняя цытата). У той жа час звыклай для падобных выпадкаў інтэртэкстуальнасці вобмаль. Намі налічана каля дзясятка пасажаў з адсылкамі да элементаў сусветнай і — што важна — беларускай культуры:

*Сціскаецца снег*
*бы аркуш шчыгранавы*
*ці плач ці то смех*
*перапёлкі Чыгрынавай...* («Шчыгранавы снег...», с. 82)

Адчуваецца, што філалагічныя гульні для аўтаркі не чужыя, тым не менш яна імі не злоўжывае:

*Люк*
*Бесон*
*Ніца...* («Мой горад знікае над Свіслаччу», с. 72)

Часам пракідаюцца нават каламбуры — у рыфмах:

*Сыходзяць блізкія людзі*
*Да дальніх. Нібы да зор.*
*Кароткае «быў». Не будзе.*
*Жалобны нясе дазор.* («Сыходзяць блізкія людзі...», с. 79).

У адрозненне ад сваёй празаічнай іпастасі, дзе залежнасць ад культуры постмадэрнізму кідаецца ў вочы, паэзія гэтай жа аўтаркі выяўляе тэндэнцыю да класічных традыцый. Найперш — у тэматыцы: тут кола фактычна абмяжоўваецца любоўна-інтымнай лірыкай, зрэдку дамешваюцца філасофскія і пейзажныя вершы.

Нечакана (непрадказальнасць, дарэчы, характарыстычная адзнака вартай літаратуры) у азначаны тэматычны шэраг уклiньваюцца палітычныя матывы. Шчырасць іх несумненная, бо зыходзіць з асабістага:

*...адно на паветра*
*не ўведзен падатак,*
*краіна імчыць*
*па асфальце шчарбатым,*
*выходзяць указы —*
*дзе ўзяць яшчэ ўзятак,*
*па вушы ў даўгах,*
*ат, аплоціць нашчадак,*
*паміж небыццём*
*і жыццём — аўтаматы,*
*над лёсам народа —*
*заўжды пракуратар...* ( «Сярэднестатыстычны марш», с. 22)

Паэтыка вершаў Л. Шчэрбы таксама даволі традыцыйная для ўсходнеславянскага слоўнага мастацтва. Але не без некаторых захапленняў еўрапейскасцю. Яна ўвасабляецца, напрыклад, у цязе да верлібраў. Гэта тэндэнцыя, аднак, сябе апраўдвае — якасцю. Напрыклад, вельмі ўдаюцца Л. Шчэрбе імпрэсіі — замалёўкі жыццёвых імгненняў. У большасці сваёй — якраз верлібрам. Часам некалькімі словамі чытачу малюецца паўнавартасная карціна:

*Горад дыміць*
*электроннай цыгарэтай*
*заводскіх труб —*
*выдыхае аблокі. («Горад дыміць...», с. 24)*
*Раскрываюцца створкі ночы,*
*і жамчужынкай*
*выпадае дзень.* («Раскрываюцца створкі ночы», с. 40)
*...сонейкам коціцца*
*жоўты гарбуз аўтобуса.* («Восень аўтобусам жоўтым...», с. 104)

Адчуваецца, што паэтычнае вока паэткі не спіць у рэжыме штодзённага жыцця, душа працуе перманентна, сэрца, калі прымяняць метафару аўтарства самой паэткі, вядзе перастрэлку...

Асобна адзначым, што вобразнасць у Л. Шчэрбы характарызуецца ад занадта цьмянай да разгадваемай праз элементы сучаснага жыцця. Прыклад апошняга пасажу ўрываецца ў наступных радках:

*Саламянай лялькаю*
*з Дажынак*
*галасуе лета*
*пры дарозе —*
*аўтастопам*
*едзе ў вырай.* («Асфальт трашчыць па швах...», с. 68)

Перабор у вобразнасці здараецца таксама нярэдка. Такім, напрыклад, атрымаўся цалкам верш «Перабірала валасамі струны на гітары...» (с. 19). Галоўная прычына — у яго інтымнасці. Таму ўспрыняць твор змогуць хіба адно пратытыпы лірычных герояў. Як варыянт: нехта «падсядзе» на аналагічную настраёвую хвалю — і пранікнецца матывамі. Недасказанасць, канечне, характэрна для добрай літаратуры, але павышаная частотнасць рэзка індывідуалізаваных тропаў звузіць і так не надта шырокае кола патэнцыйных чытачоў прапануемай паэзіі.

Сапраўднасць паэзіі Л. Шчэрбы даказваецца праз яшчэ адну спецыфічную для мастацтва рысу — правідэнцыянальнасць.

*А за парогам*
*абшару*
*сустракае зямля*
*ў медыцынскай масцы*
*снегу на твары.* («Асфальт трашчыць па швах...», с. 69)

Радкі напісаны 9 студзеня 2020 г..Наперадзе была большая частка зімы — і ўсім верылася, што яна яшчэ засцеле сваю звыклую прасціну. Але наўрад ці паэтцы думалася, што тым самым яна прадугадала наступленне каронавіруса, якое прымусіла зямлян надзець маскі.

Некаторых агрэхаў Л. Шчэрба ўсё ж не пазбегла. Тэхнічна ў яе творах не ўсё атрымліваецца дасканала. У пагоняй за паэзіяй часам забываецца паэтыка. Так бывае ў паэтак. Асабліва ў пачатку творчага шляху. Напрыклад, ці можна назваць рыфмамі клаузулы наступнай страфы (якая датуецца 1990 г.):

*Жылі мы тут, а з намі сны.*
*І свет, і сон — то мы былі.*
*Цяпер асобна — ты і я.*
*А нас няма, і сноў няма.* («Жылі мы тут, а з намі сны...», с. 12)

*Не прыдаюць гладкасці ў чытанні і збоі ў рытме:*

*Пякучая гарбата студзіць пальцы*
*Працягнутых з даверам да цяпла*
*Рук. На шкла зынелай кальцы*
*Дажджу застыглая смала.* («Пякучая гарбата студзіць пальцы...», с. 10)

Мелодыку, гукапіс ніхто не адмяняў. Таму пра іх не варта забываць паэтам. Не для ўсіх іх верленаўскі прынцып «Музыка перш за ўсё» будзе арыенцірам, але ж і фальшывыя ноты непрымальныя...

Тым не меней хібы (а ў чыёй творчасці іх няма?) вытлумачальныя: адчуваецца, што для Л. Шчэрбы большае значэнне мае паэтычны дух, яго пакліканнем жыве аўтарка. Разам з тым яна імкнецца гэты дух, які на яе зыходзіць звыш, так бы мовіць, рэінкарнаваць і пасяліць у зямной прасторы, зрабіўшы яе болей сонечнай. З такіх матываў кніга пачынаецца, імі ж і заканчваецца. Такая суб'ектыўная паэзія (гэтым чытача, канечне, не здзівіць) у выніку канцэптуалізуецца ў перавагу агульна гуманістычнага над прыватна асабістым:

*Я пакідаю сонца тут,*
*пакуль да зор*
*зямля ляціць у войнаў калатнечы,*
*ідзе дазор*
*спагады чалавечай,*
*каб захаваць жыццё як цуд.* («Я пакідаю сонца тут...», с. 109)

